

Полацак. Езуіцкі Мікалаеўскі сабор (XVII ст.) і помнік 100-годзьдзя вайны 1812 г.

# Зьмест



• Нацыянальныя •
• этнічныя •
• культурныя •
• моўныя •
• рэлігійныя •
меншасьці
ў Беларусі





Інфармацыйна-культурны бюлетэнь

Лета 1996 No.4

*Выданьне фінансуецца Беларускім Фондам Сораса.*

*Наклад 499 асобнікаў.*

***Выдавец:*** *„Эўрофорум" — Цэнтар Эўрапейскіх Досьледаў і Культурных ініцыятываў Група па абароне й дасьледаваньню нацыянальных меншасьцяў*




## *SUMMARY*

"FORUM" bulletin is published quarterly (spring, summer, fall and winter) by "EUROFORUM" Centre for European Studies and Cultural Initiatives, Minsk, Belarus. "EUROFORUM" is a non-governmental and non-profit institution. Edition is sponsored by Belarusian George Soros Foundation.

The fourth issue of the bulletin has four main topics: Russian Question, Jews in Belarus, and a problem of real necessity of national minorities protection.

Editorial by Andrej Dynko is dedicated to the anti-Ukrainian campaign arisen in Belarus recently and suspension of Bierascie region Ukrainian's newspaper "Berestejskyj Kraj" (Bierascie Land).

The first chapter "Views. Events. Problems." begins with the continuation of the article by Ibrahim KANAPACKI "Belarusian Land became Native for Them", which is dedicated to the 600 anniversary of the Tatar settlements in Grand Duchy of Lithuania.

Andrey KISHTYMAU in his article "Letters of Russian Belarusian" examines problems of national-cultural identification of Russian community in context of political situation in Belarus, and especially status of Russians and sense of Russian-Belarusian dialogue.

"EUROFORUM" made a survey among representatives of national minorities in Belarus. The answers of national minorities organisations leaders' are published in material "Russian Minority in Belarus". A problem of the Russian minority in Belarus in the context of different social groups among indigent nation is examined in the article by I.LIAVIASH "National Minority: Problems. Conceptions. Belarusian Reality."

In chapter "Scientia" two materials on "Jews in Belarus" issue are represented. An article "Geographic Makeup of Belarussian Yiddish" by Uriel WEINREICH (1926-1967) found by Vital ZAJKA in Jewish Scientific Institute (IBO) in New York is about regional language peculiarity of Belarusian Yiddish. The topic "Jews in Belarus" is continued by the article of Emanuil IOFFE "Activities of "Khashamar-Khazair" Organisation in Belarus (1924-1926) and Creation of Kibbutz in Palestine". The history of creation and activities of the largest at the beginning of the XIXth century Belarusian publishing house is lighted up in the article by Sviatlana KUL-SILVIORSTAVA "Publisher from Harodnia Zymel NAHIMOVIC".

In the chapter "Jurisprudentia" general provisions and legal basis of a project of National and Cultural Development Conception of National Minorities in Belarus are published.

The next rubric "Who Is Who" contains brief information about "Association of Belarusian Koreans".

The last chapter "Events" is about Viciebsk First National Scientific Conference "National Minorities in Belarus: In way of Understanding and Tolerance", which was conducted in the 21st-22nd of May, 1996.

The articles in this issue of FORUM are published in Belarusian, Ukrainian and Russian.

# Ад рэдакцыі

Тыя, хто 26 красавіка меў неасьцярожнасьць размаўляць у Менску з украінскім акцэнтам, мусілі некалькі дзён прабавіць у камэры. Менавіта па моўным крытэрыі менская міліцыя адлоўлівала “баевікоў-нацыяналістаў”. За краты трапілі і журналісты, і дэпутат, і простыя госьці горада. Нічога дзіўнага ў такім здарэньні няма. Ужо добры кавалак часу афіцыйныя беларускія сродкі масавай інфармацыі спрабуюць распаліць антыўкраінскую істэрыю. Прапаганда ідзе па двух накірунках: з аднаго боку, спробы стварыць уражаньне, што пры ўладзе на Ўкраіне знаходзяцца нашчадкі бандэраўцаў, якія хочуць падпарадкаваць сабе Беларусь, і, з другога боку, як мага болей дыскрэдытаваць эканамічны і палітычны курс Украіны, які радыкальна разыходзіцца зь беларускім. Таму па тэлебачаньні дэманструецца сэрыял „рэпартажаў“, дзе „простыя ўкраінцы“ скардзяцца на жыцьцё, улады і незалежнасьць, і кадры, „made in Moscow“, пра крывавых украінскіх фашыстаў. Адны афіцыйныя газэты сьпяшаюцца разрэклямаваць гэтыя матар’ялы, што мяжуюць з фальсыфікацыяй і правакацыяй. Іншыя друкуюць заніжаныя ў паўтары разы дадзеныя пра сярэднія памеры заробкаў і пэнсіяў на Ўкраіне. У Менску распаўсюджваюцца правакацыйныя падманныя ўлёткі ад імя фіктыўнага Менскага аддзяленьня УНА-УНСО...

Гісторыя ўзаемадачыненьняў Беларусі і Ўкраіны была рознай. Паходы старажытнаўкраінскіх князёў на радзімічаў, яцьвягаў, ліцьвінаў, Полацкае княства ў X-XII стст., спробы Багдана Хмяльніцкага далучыць Падняпроўе да сваёй дзяржавы, знаходжаньне Ўкраіны ў складзе Вялікага княства, вялікая дапамога Ўкраінскай Народнай Рэспублікі Беларускай Народнай Рэспубліцы, складаныя перамовы Доўбар-Мусьніцкага па пытаньнях межаў, нарэшце, украінскамоўная Берасьцейшчына, што за сталінскімі падзеламі апынулася ў складзе Беларусі. Сёньня геапалітычная блізкасьць робіць дзьве краіны суперніцамі ў барацьбе за расійскія і заходнія крэдыты. Нарэшце, Украіна, шануючы сваю славянскасьць, катэгарычна не згаджаецца зь ідэямі славянскага адзінства. Беларусь мае моцную эканамічную патрэбу ва ўкраінскім збожжы, аснове нашай жывёлагадоўлі, і ўкраінскіх портах, але палітычныя амбіцыі пераважаюць эканамічную рацыю. Інакш цяжка патлумачыць, чаму беларускія ўлады пайшлі на прыкрыя і зьневажальныя для нашай суседкі дзеяньні: арышт здымачнай групы ўкраінскага тэлебачаньня ў Менску, затрыманьне дэпутата Вярхоўнае Рады Ўкраіны Юрыя Тымы ў Баранавічах, дэманстрацыйную адмову дапусьціць да арыштаваных у Менску пасьля падзеяў 26 красавіка сябраў УНА-УНСО ды іншых украінскіх грамадзянаў консула, якую дапамагла пераадолець толькі хваля салідарнасьці з арыштаванымі, што ўзьнялася ў Беларусі (украінскі консул В.Калоцій прызнаўся ў інтэрвію „Нашай Ніве“, што да яго зьвярталіся да 20 чалавек у дзень з жаданьнем дапамагчы арыштаваным).

Самае прыкрае, што іншай мішэньню антыўкраінскай кампаніі стала ўкраінская меншыня ў Беларусі, у першую чаргу, берасьцейскія аўтахтоны. Менскія ўлады абвясьцілі аб закрыцьці газэты „Берестейський край“, нягледзячы на адсутнасьць юрыдычных падставаў для такога кроку. Прычым, як можна заключыць зь інтэрвію старшыні Дзяржкамдруку Бельскага газэце „Зьвязда“, гэтае рашэньне прыняў бадай што ён асабіста.

„Берестейській край“ быў заснаваны таварыствам „Просвіта Берестейщини“. Яна задумвалася як газэта для шырокага кола ўкраінцаў і ўкраінскамоўных беларусаў. У тых нумарох, што ўжо выйшлі, можна знайсьці ўсё: ад праектаў катэджаў і рэцэптаў баршчу да паважных дасьледаваньняў аб ролі Берасьцейскае вуніі ў гісторыі Ўкраіны, ад інфармацыі пра падзеі культурнага жыцьця Берасьцейшчыны да вестак з Украіны. Міхайла Петрукові́ч, галоўны рэдактар „БК“, сказаў, што газэта імкнецца падаваць увесь спэктар культуралягічных паглядаў на працэсы, што адбываюцца ў Берасьцейшчыне і пазьбягаць палітычных дыскусіяў. „БК“ перадрукавала шэраг артыкулаў з „Форуму“. Бальшыня матар’ялаў газэты — на ўкраінскай мове, але сустракаюцца таксама публікацыі на беларускай, расійскай мовах і на кайнэ берасьцейска-пінскіх загародзкіх дыялектаў, што, дарэчы, выклікае немалыя дыскусіі сярод газэтнага актыву (менавіта гэтаму мае быць прысьвечанае чарговае паседжаньне „Просвіті“). Ад самага пачатку прасьвіцянцы сутыкнуліся зь ня надта прыхільным стаўленьнем уладаў. Алег Пархач, галава „ПБ“, распавёў, што пасьля выхаду першага нумара зь Берасьцейскага аблвыканкама напісалі скаргу

ва ўкраінскую амбасаду ў Менску, закідаючы газэце тое, што яна друкуецца ў Ковелі ("там друк нашмат таньнейшы, хоць і менш якасны",— патлумачыў Алег). Між тым „Голос Берестейщини", орган Таварыства ўкраінцаў Берасьцейшчыны, які друкуецца ў Ковелі, не выклікаючы ніякіх заўвагаў уладаў, у чарговым нумары паддаў „БК" рэзкай крытыцы за тое, што „БК" надрукаваў шэраг матар'ялаў, падрыхтаваных сябрам яшчэ міжваеннае „Просвіті", камуністам з 60-гадовым стажам — Іванам Ласковічам.

Першае папярэджаньне ад Дзяржкамдруку газэта атрымала за тое, што не даслала сваіх першых нумароў у менскае ведамства. Але рэдактар скардзіцца, што пры рэгістрацыі іх з гэтай нормай не азнаёмілі. Неўзабаве прыйшло і другое папярэджаньне: на грунце матар'ялаў першага нумару газэту абвінавацілі ў распальваньні міжнацыянальнай варожасьці і закліках да падрыву тэрытарыяльнай цэльнасьці Рэспублікі Беларусь. „Между тем АН РБ в мае 1996 года признала ятвяжский вопрос несоответствующим и опасным для социально-политической стабильности в РБ..." Ні пра якіх яцьвягаў, ні яцьвяскія пытаньні ў газэце ні словам, ні паўсловам ня ўзгадваецца, ды й наогул, заснавальнікі газэты катэгарычна ня згодныя зь яцьвяскай канцэпцыяй, ніякіх заклікаў да парушэньня сёньняшніх межаў і ў намёках няма... Ініцыятары забароны газэты наўрад ці мелі вольны час, каб зазірнуць і прачытаць, што ж там пішуць тыя ворагі, што ня хочуць пераходзіць на „агульнаславянскую мову", затое рашэньне ўдала патрапіла ў плынь антыўкраінскай кампаніі.

Алег Пархач паведаміў, што рэдакцыя „БК" рыхтуе чарговы нумар газэты і дакумэнты ў суд, каб абскардзіць рашэньне Дзяржкамдруку, пра якое, дарэчы, ніхто яшчэ берасьцейцаў афіцыйна не паінфармаваў. Можа яго й няма? Забарона газэты нацыянальнай меншыні — трывожны прэцэдэнт, і, як заявіў на прэс-канфэрэнцыі ў Менску сябра камісіі Вярхоўнае Рады Ўкраіны па СМІ і правох чалавека Яраслаў Ілясэвіч, яно паўплывае на паскарэньне пабудовы рэтрансьлятара ўкраінскага тэлебачаньня ў раёне Ковеля, што дало б жыхарам Беларусі дадатковую крыніцу інфармацыі.

***Андрэй ДЫНЬКО***

*Ібрагім КАНАПАЦКІ*

# *Стала роднай ім беларуская зямля...*

***(Заканчэньне. Пачатак у №3)***

## *Да 600-годзьдзя татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Летувы і Польшчы, распачатага пры Вітаўце Вялікім*

*У імя Аллага Міласьцівага, Міласэрнага.*

У 1378 годзе хан Тахтамыш, аб'яднаўшы Белую і Сінюю Арду, пры дапамозе Цімура захапіў пасад у Залатой Ардзе (фармальна ён меў права, бо быў чынгізідам). Але непамернае ўзвышэньне Тахтамыша і нежаданьне яго стаць марыянэткай у руках Цімура выклікала непазьбежную сутычку Цімура з Тахтамышам. Жалезны Цімур вылучыў новага прэтэндэнта на пасаду хана Залатой Арды, спадзеючыся на падтрымку часткі ардынскай знаці, незадаволенай Тахтамышам. Тахтамыш ваяваў зь Цімурам двойчы (сярэднеазіяцкія гісторыкі-сучасьнікі падрабязна апісалі гэтыя бітвы). Першы раз войскі Тахтамыша пацярпелі паразу ў 1391 годзе, але тады хану ўдалося ўтрымаць уладу (хоць ягоныя землі былі спустошаныя). Толькі другі паход Цімура ў канцы зімы 1395 году прывёў да адхіленьня Тахтамыша ад пасады хана, што адбылося 22 джумадзі 797 году Хіджры (14 сакавіка 1395 году хрысьціянскага летазьлічэньня). Войскі Тахтамыша былі разьбітыя. Як пісаў сучасьнік тых падзеяў Шэраф ад-Дзін Едзі ў сваёй „Кнізе перамог" — „...Тахтамыш кінуў ханства, дом, усё, што меў, і, ратуючы сваё жыцьцё, зь некалькімі людзьмі ўцёк, пайшоў у бок Булара (Польшчы — *аўт.*), у лясную мясцовасьць, хаваючыся ад ільвіных кіпцюроў Цімура..."

Далейшы лёс Тахтамыша вядомы ўжо па заходніх — літоўскіх, рускіх і іншых крыніцах.

З заходніх улусаў Арды ён уцёк у Вялікае княства Літоўскае, да двара Вітаўта. Татарам, што прыйшлі туды разам з Тахтамышам, былі выдзелены землі ў раёне Чаркасаў і Канева. Сам Тахтамыш пасяліўся ў г. Лідзе. Тут хан жыў у асобным доме, які надоўга захаваў назву Тахтамышава двара. Вітаўт, зразумела, адразу ж ацаніў новыя мажлівасьці, што ўзьніклі ў выніку зьяўленьня ў ягонай дзяржаве зрынутага ардынскага ўладара, які шукаў дапамогі да вяртаньня на трон. Са старажытнага летапісу вядома выказваньне Вітаўта: „Пасадзім у Ардзе на царства яго цара Тахтамыша... і тое ўсё будзе наша і цар наш, і мы ня толькі Літоўскай зямлёй і Польскай будзем валодаць, але і ўсімі вялікімі князьмі рускімі". Атрымаўшы ў асобе Тахтамыша законнага прэтэндэнта на ханскі трон, Вітаўт пачаў дзейнічаць. У 1397 годзе, як паведамляе храніст Ян Длугаш, „Вітаўт рушыў супраць татар... прайшоў Дон... у ваколіцах Волгі разграміў татар з назвай Арда, і многа татар з жонкамі і дзецьмі і статкамі жывёлы ўзяў у палон і прывёў у Літву. Палавіну іх ён адаслаў у гонар перамогі каралю Ўладзіславу, польскім біскупам, абатам і паном, а палавіну пакінуў сабе". У Польшчы палонных ахрысьцілі, і ў выніку мяшаных шлюбаў татары сталі адным народам з палякамі. Інакш было ў Літве, дзе Вітаўт пасяліў татар у вёсках, і яны „сваім звычаем жывуць і захоўваюць сваю веру".

Зьвесткі пра пераможны паход Вітаўта на Волгу і ў Крым апісаў толькі Ян Длугаш, які нарадзіўся пазьней за тыя падзеі, якія ён апісвае. Нідзе больш пра

гэтыя падзеі не ўпамінаецца. Не ўпамінаецца і тое, што з Крыму прыйшлі татары ў Беларуска-Летувіскую дзяржаву таму, што Тахтамыш, які ўдзельнічаў у гэтым паходзе, у вачох крымскіх татар усё яшчэ лічыўся ханам Залатой Арды, чынгізі-



**Маладая татарка, дачка Мацьвея Давыдавіча Мухарскага і Хадыджы Самуілаўны Рыдлінскай**

дам, законным галавой ардынскіх татар. Вось за ім, як за сваім законным начальнікам, і пайшлі татары зь сем'ямі і маёмасьцю ў новыя землі, дзе ім абяцалі зямлю і свабоднае вызнаваньне мусульманскае веры. Паводле татарскай традыцыі нашы мусульмане самі сябе ніколі не лічылі палоннымі Вітаўта, таму ахвотна і верна служылі свайму беламу хану — Вітаўту, якога называлі Ватад — апорай ісламу на Захадзе. Тыя татары, якія прыйшлі з Тахтамышам раней, і тыя, што прыйшлі пазьней, якія на радзіме мелі годнасьць шляхты і знаці, атрымалі годнасьць шляхты і знаці ў Беларуска-Летувіскай дзяржаве. Яшчэ цэлае стагодзьдзе пасьля пасяленьня татараў на новых землях, яны пры неабходнасьці атрымлівалі дакументы ад крымскіх ханаў пра тое, кім былі іхныя продкі. Варта адзначыць, што мусульманская вера патрабуе, каб кожны мусульманін і мусульманка ўмелі чытаць і пісаць арабскімі літарамі. Дакладна вядома зь пісьмовых крыніц, хто і калі быў ханам у Крыме, хто военачальнікам, судзьдзём, вось чаму нельга прыдумаць і ўставіць у гісторыю нейкага начальніка, а тым больш хана, як гэта зрабілі некаторыя летапісцы, прыдумаўшы хана Койдана ці хана, пахаванага каля Целяханаў.

Паводле „Кронікі“ М. Бельскага, князь раздаў татарам некаторыя вёскі каля ракі Вакі, вызваліўшы іх ад усіх падаткаў, абавязаў толькі езьдзіць на вайну. „Але, — паведамляе храніст, — яны (татары — *аўт.*) аспрэчваюць, што паланёныя Вітаўтам, і кажуць, нібы з добрай волі прыйшлі яму на дапамогу супроць Прусіі“. Аб тым жа згадваюць і іншыя аўтары кронікаў — Мяхоўскі, Крамэр, Стрыйкоўскі. Як даводзіць апошні, самі татары лічылі, што Вітаўт не прывёў іх сілаю, а запрасіў ваяваць супроць крыжакоў. Пра свой дабравольны прыход у Літву яны ўпамінаюць у адной супліцы (прашэньні) на імя Жыгімонта Аўгуста ў 1563 годзе. Ананімны аўтар „Рысале-і-татары-і-Лех“) („Трактат пра татараў у Польшчы“) піша, што сьцьверджаньне пра тое, што татары былі паселены як палонныя, няправільнае, бо “калі б татары былі палоннымі, то даўно ўжо мусілі б стаць нявернымі (хрысьціянамі — *заўвага рэд.*), аднак жа застаюцца мусульманамі”. Сапраўды, наўрад ці ёсьць падставы для сумневу, што прыведзеныя Тахтамышам і Вітаўтам групы служылых татар у 1397 годзе і паселеныя, згодна зь сьведчаньнем Стрыйкоўскага і іншых храністаў, каля ракі Вакі, паблізу ад Трокаў, не былі вольнымі. На чале іх стаялі прыбліжаныя да Тахтамыша татарскія фэадалы, якія карысталіся даверам Вітаўта. Такім чынам, пачатак супольнасьці паклалі добраахвотныя пасяленцы. У далейшым татарская супольнасьць да пачатку XVI стагодзьдзя папаўнялася пераважна за кошт эмігрантаў з Арды. Урэшце добраахвотныя пасяленцы павінны былі скласьці пераважную бальшыню беларускіх татараў.

У дачыненьні да Залатой Арды палітыка Вітаўта была скіравана на ўмацаваньне межаў Вялікага княства Літоўскага. Гэтую палітыку працягвалі ягоныя наступнікі, набываючы саюзьнікаў, у тым ліку і з Залатой Арды (перш за ўсё для барацьбы з маскоўскімі князямі). У XV стагодзьдзі паміж Вялікім княствам Літоўскім і татарскімі ханствамі працяг-

валіся інтэнсыўныя ўзаемаадносіны. У гэты пэрыяд Літва практычна не вяла войнаў з татарамі. Але ў апошняй чвэрці XV стагодзьдзя зьмянілася сытуацыя на паўднёвых межах Вялікага княства Літоўскага. Пасьля сьмерці крымскага хана Хаджы Гірэя ягоны сын Нур Даўлет спрабаваў захапіць уладу, але пацярпеў паразу ў барацьбе з сваім братам Менглі Гірэем і вымушаны быў шукаць прыстанак разам з сваім братам Айдарам у Літве. Мэнглі Гірэй, які змагаўся з хаўрусьнікам Літвы ханам Залатой Арды Ахметам, адмовіўся ад літоўскай арыентацыі і заключыў саюз з Масквой. І ўжо ў 1503 і 1506 гадох войскі крымскага хана чыняць набегі на Клецак і Менск, а ў 1508 годзе спусташаюць Валынь. У далейшым, нягледзячы на шэраг замірэньняў зь Вялікім княствам Літоўскім, крымскія татары працягвалі напады на землі Вялікага княства Літоўскага. Найбольш буйнымі былі татарскія набегі ў 1508, 1510, 1521 і 1527 гадох.

Дзеля справядлівасьці трэба заўважыць, што крымскім ханам захоўваць мір зь Літвой і Польшчай было няпроста. Па-першае, асобныя орды не падпарадкоўваліся і нападалі на Вялікае княства Літоўскае і Польшчу. Па-другое, часта гэтыя паходы былі адказам на падобныя набегі запарожцаў, якія нападалі на крымскія землі, а запарожцы лічыліся пад уладай польскага караля. Запарожцы, як вядома, часам даходзілі да сталіцы Атаманскай імпэрыі — Стамбула, што было повадам для безупынных канфліктаў паміж Польшчай і Літвой, з аднаго боку, і Турцыяй і Крымам, з другога боку, у наступныя дзесяцігодзьдзі.

Ад гэтых набегаў у Літве і Польшчы засталіся палонныя татары, якія былі паселены паводле звычаю як пасяленцы ў гарадох і мястэчках Беларусі, а таксама на Валыні. Не падлягае сумневу, што ў літоўска-польскіх уладаньнях, уключаючы сюды Валынь і Падолію, колькасьць вольных пасяленцаў-татараў да гэтага часу была вельмі значная, калі ўзяць пад увагу тое, што пры захопе Падоліі ханам Батыем і нават значна пазьней, у XIV стагодзьдзі, калі ўлада Літвы ўмацоўвалася ў гэтым рэгіёне, асноўная маса насельніцтва складалася зь цюрка-татараў, якія падзяляліся на „цьмы“ і кіраваліся сваімі атаманамі, прычым былі тут ня толькі паўвандроўнікі, але і аселыя цюрка-татары, а таму запазычаная прафэсарам А.Мухлінскім з адной кнігі 1616 году лічба ў 100 тысяч чалавек не павінна здавацца перабольшанай для вызначэньня агульнай іх колькасьці пры адной умове, што яна стасуецца ўсіх польска-літоўскіх земляў; у самой жа Беларусі колькасьць татарскіх пасяленцаў вызначаецца ў 20-25 тысяч чалавек. Уся гэтая маса адрозьнівалася рухомасьцю і пачувала сябе незалежна, грунтуючыся як на законах, што спрыялі пасяленцам, так і на ўменьні пастаяць, калі трэба, за сябе. Таму, звычайна, і палонныя татары атрымоўвалі асабістую свабоду і зямлю з абавязкамі толькі несьці каралеўскую службу.

Доўгі час татарскія пасяленцы захоўвалі ў Вялікім княстве Літоўскім сваю сацыяльна-пляменную арганізацыю. Паводле сацыяльна-праўнага статусу бальшыня татараў была вайскоўцамі, якія юрыдычна прыраўноўваліся да шляхты. Яны атрымлівалі за службу зямлю, якая знаходзілася ў спадчынным карыстаньні. Сярод вайскоўцаў вылучаліся саслоўнародавыя вярхі — князі (бекі, мурзы) і ўланы, якія мелі сваю прыслугу — сялян нехрысьціянскай веры, путных і панцырных баяраў.

З другой паловы XVII стагодзьдзя ў беларускіх татараў зьнікаюць пляменныя адрозьненьні, татарскія пасяленцы ўсё часьцей прымаюць беларускія і польскія прозьвішчы (толькі пры наяўнасьці прозьвішча мажліва было прасачыць за перадачай наступніку маёмасьці, прывілеяў, павіннасьцяў перад дзяржавай): Кандратовічы — нашчадкі племя кунгратаў, Бараноўскія — нашчадкі племя Барын, Александровічы, Ахматовічы, Базарэвічы, Гембіцкія, Карыцкія, Раецкія, Смольскія, Хасеневічы, Якубоўскія і іншыя. Гербы, геральдычныя знакі XVI—XIX стагодзьдзяў сьведчаць пра тое, што ў Беларусі было больш за 50 вядомых татарскіх прозьвішчаў.

Талерантнасьць, якая панавала ў Вялікім княстве Літоўскім, дазваляла татарам будаваць мячэці. Першыя мусульманскія сьвятыні пачалі зьяўляцца ў ВКЛ яшчэ ў часы Вітаўта: у 1415 — у Некрашунцах (Лідзкі павет), з 1420 г. упамінаецца парафія ў Лоўчыцах пад Навагрудкам. Існаваньне парафіі дае падставы меркаваць, што ў пачатку XV стагодзьдзя тут таксама была мячэць, якая ў крыніцах упамінаецца ў 1558 г. Да 1558 г. адносіцца першае паведамленьне аб мячэці ў Даўбуцішках (Ашмянскі павет).

У XVI стагодзьдзі ў Навагрудку таксама існавала мячэць. Аб ёй паведамляе

аўтар трактату „Рысале-і-татары-і-Лех“, які апавядае пра тое, што ў кожным вялікім горадзе ёсьць мячэці. Аўтар сьведчыць, што ў ВКЛ было каля ста мячэцяў. Турэцкі гісторык Ібрагім Печэві (памёр у 1640 годзе) паведамляе, што ў Царстве Польска-Літоўскім у першай трэці XVII ст. налічвалася 60 мячэцяў. Хутчэй за ўсё гэтыя лічбы перабольшаны і не пацьверджаны пакуль што крыніцамі. Сучасны польскі дасьледнік Рышард Брыкоўскі на падставе аналізу розных публікацыяў мяркуе, што ў Вялікім княстве Літоўскім налічвалася 17 мячэцяў, а ў Польшчы (Кароне) — 6.



**Мячэць у Слоніме. Рэканструкцыя, 1938 г.**

У XVII ст. мусульмане Рэчы Паспалітай трапілі пад моцны ўціск каталіцкай царквы. У 1609 г. дайшло нават да руйнаваньня мячэці ў Троках. Ня выключана, што ў часе такіх бурлівых падзеяў некаторыя мячэці маглі зачыніцца, і аб іхным існаваньні засталіся сьціплыя ўпаміnаньні. У тыя гады шмат татараў выехала ў Турцыю і Крым. У выніку колькасьць татараў напачатку XVIII ст. зьменшылася ў Рэчы Паспалітай да 30 тысяч. Шукаць шчасьця на новых мясцох найчасьцей схільныя былі менш прыстасаваныя да ўмоваў жыцьця ў Польска-Літоўскай Дзяржаве, да такіх належалі пераважна тыя татары, што аселі на землях параўнальна позна. З гэтай жа прычыны перасяленьнем у Турцыю і Крым менш былі ахоплены жыхары старых татарскіх калёніяў у Беларусі, чым пасяленцы на Ўкраіне і Валыні. Польскае заканадаўства апошняй трэці XVIII стагодзьдзя імкнецца задаволіць пасяленцаў-татараў, зацьвердзіўшы (1768 і 1775 г.) за імі пажалаваныя землі і вярнуўшы права рамантаваць старыя і ўзводзіць новыя мячэці.

Татарам выпала важная роля ў жыцьці Беларуска-Летувіскай дзяржавы, а пазьней Рэчы Паспалітай. Пасяліўшыся ў мясцох, дзе ўсё было чужым, татары на працягу многіх стагодзьдзяў захавалі ня толькі мусульманскую веру (а разам зь ёй і сваю нацыянальную адметнасьць), але і прынесьлі шмат карысьці гасьцінным беларусам, летувіскаму і польскаму народам. Узаемадачыненьні паміж татарамі і іншымі народамі гэтых дзяржаваў былі амаль заўсёды мірнымі. Гісторыкі адзначаюць, што беларускія татары настолькі зжыліся зь мясцовым насельніцтвам, што часта выступалі супроць сваіх адзінаверцаў. У актах літоўскай мэтрыкі захаваўся ў перакладзе цікавы адказ літоўскіх татараў таго часу, які яны далі сваім супляменьнікам, што займаліся крадзяжом на беларускіх межах: „Ні Бог і ні Прарок, — пісалі яны, — не дазваляюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за драпежнікаў, а не братоў нашых. Заставайцеся за Волгаю, пакуль іншыя вас ня выжывуць, бо мы ля Вакі будзем кроў праліваць за ліцьвінаў, якія лічаць нас братамі сваімі“. У супліцы татараў да караля Жыгімонта ёсьць упамінаньне пра прысягу, якую на шаблях давалі іхныя бацькі, што будуць верныя беларусам, зь якімі „...пясок, вада і дрэвы ёсьць нам агульнымі“.

Стаўшы на баку беларусаў, летувісаў і палякаў пад Грунвальдам і ў многіх іншых бітвах, татары здабылі заслужаную славу.

Разам з польскімі і беларускімі патрыётамі яны мужна змагаліся за незалежнасьць Рэчы Паспалітай, захопленай трыма драпежнымі дзяржавамі ў выніку трох падзелаў (1772, 1793, 1795). У дакумэнтах таго часу захавалася паведамленьне, што „народ татарскі праз трох пасланых ад яго дэпутатаў даводзіў на правінцыяльнай сэсіі Вялікага княства Літоўскага, што як і ў Варшаве, так і ў правінцыях, адважныя ягоныя жаўнеры, сабраўшыся да сваіх імамаў, прысягалі на Кур'ане бараніць караля, Бацькаўшчыну і Канстытуцыю“. Вядомыя сваімі подзьвігамі і ўмельствам у баёх як шараговыя воіны, так і камандзіры. Гэта перш за ўсё генэралы Юсуф Бяляк, Якуб

Ясінскі, які загінуў у прадмесьці Варшавы — Празе. Вядомасьць атрымалі і іншыя генэралы — такія, як Муса Сулькевіч, многія афіцэры, што змагаліся за свабоду і незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны.

Перад Першай сусьветнай вайной на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю Расіі жыло каля 14 тысяч татараў-мусульман. Іслам быў адзінай апорай, якая абараняла іхную культуру ад асыміляцыі. Татары-мусульмане, жывучы ў суседзтве зь іншымі канфэсіямі, асабліва пануючым праваслаўем, здолелі зьберагчы сваю веру, свае звычаі, сваю культуру. Гэта адбылося таму, што жыла мусульманская грамада, існавалі мячэці. Вялікі крымскататарскі асьветнік Ісмаіл Гаспрынскі, які ў 1880 годзе наведаў губэрні Летувы і Беларусі з мэтаю больш блізкага вывучэньня ўплыву эўрапейскай культуры на „азіятцаў“, у сваёй брашуры „Русское мусульманство“ (1881 г.) адзначыў: „...на першы погляд, літоўскія мусульмане зусім не падобныя да такіх у іншых краінах. Абсалютная бальшыня зь іх больш ці менш адукаваныя і вельмі многія служаць на ваеннай і цывільнай службе... (на рускай службе перад Першай



Генэрал-маёр Давыд Юзафовіч



Генэрал-маёр Юсуф Якубоўскі

сусьветнай вайной знаходзілася 18 генэралаў-татар: Халіль Базарэўскі, Канстанцін Біцютка, Тамэрлян Бяляк, Юсуф Якубоўскі, Гіпаліт Янушэўскі, Давыд Юзэфовіч, Канстанцін Крычынскі, Лявон Крычынскі, Аляксандар Мількоўскі, Абу Талеб Мухля, Юсуф Палтаржыцкі, Аляксандар Рамановіч, Стэфан Сабалеўскі, Муса Сулькевіч, Аляксандар Талькоўскі, Аляксандар Туган-Бараноўскі, Ян Туган-Бараноўскі, Стэфан Вільчынскі. Палкоўнікаў, маёраў і ніжэйшых афіцэраў былі сотні — *аўт.*). Мне давялося наведаць адну татарскую вёску паблізу Вільні, дзе ўсе жыхары маюць той ці іншы ордэн і ўсе — маёры або паручыкі і губэрнскія сакратары ў адстаўцы. Увогуле — літоўскія татары — найлепшыя татары Расіі і стаяць на чале мусульманства паводле культуры і адукаванасьці. Было б вельмі пажадана далучыць іх да дзейнасьці сярод астатніх мусульманаў Расіі. На службе ім можна б даць некаторыя ільготы, каб палегчыць гэта, і я думаю, іхнае культурнае жыцьцё зьявілася б прыкладам для многіх іншых мусульманаў“[1].

[1] Исмаил бей Гаспралы (Гаспринский). „Русское мусульманство. Мысли, заметки и наблюдения“. В кн.: И.Гаспринский. Из наследия. Симферополь, Таврия, 1991, сс. 39-40.

Пасьля Першай сусьветнай вайны частка беларускіх татараў заставалася на тэрыторыі Расіі, куды ў 1915 годзе яны былі эвакуяваныя (пераважна ў Казанскую, Уфімскую і Таўрычаскую губэрні). Большая частка татараў (каля 6 тысяч чалавек) апынулася ў межах адроджанай Рэчы Паспалітай, частка (прыкладна 1,5 тыс. чалавек) — у Летуве, астатнія — у Савецкай Беларусі.

У 1925 годзе татары-мусульмане ў Вільні ўтварылі муфтыят, абвясьцілі аўтакефалію ісламскіх джаміятаў (парафіяў) у Польшчы. Да гэтага духоўным жыцьцём татараў Беларусі, Летувы і Польшчы апекаваўся муфтый Таўрычаскай губэрні з Сымфэропаля (у Крыме).

У Польшчы ў міжваенны пэрыяд (1918-1939 гг.) вялася вялікая работа па адраджэньню культуры татарскага народу. Было створана Мусульманскае рэлігійнае задзіночаньне (1925 г.), Культурна-асьветнае задзіночаньне татараў Польшчы (1926 г.). Выдаваліся „Татарскі штогоднік“, часопісы „Татарскае жыцьцё“, „Ісламскі весьнік“, мусульманскія календары, падручнікі для татарскіх дзяцей, асобныя суры (разьдзелы) з Кур'ана на арабскай і польскай мовах. Друкаваліся шматлікія артыкулы аб татарах у польскіх навуковых і навукова-папулярных выданьнях. Вялікай падзеяй у жыцьці татараў быў выхад у сьвет „Гербоўніка татарскіх сем'яў у Польшчы“, які склаў у 1929 годзе Станіслаў Дзядулевіч. У мясцох кампактнага пражываньня татараў-мусульман татарскія дзеці вывучалі Іслам у школах, для чаго ў раскладзе агульнаадукацыйных школаў былі спэцыяльна прадугледжаны ўрокі. Найбольш старанныя і здольныя татарскія юнакі пасылаліся на вучобу ў мусульманскія краіны (Босьнію, Эгіпэт).

Адраджэньне мусульманскай веры і татарскай культуры ў Польшчы было перарвана Другой сусьветнай вайной. Шмат татараў загінула на франтох, у партызанскіх атрадах, у барацьбе зь нямецкім фашызмам. Нямала татараў было адпраўлена таталітарным рэжымам у Сібір і Казахстан. Многія татары-мусульмане, баючыся таго, што іх можа спасьцігнуць лёс крымскіх татараў, каб ня трапіць у Сібір, самі пакінулі родныя мясьціны. Як былыя грамадзяне Польшчы яны атрымалі магчымасьць выехаць на Захад, а ўжо адтуль некаторыя пераехалі ў ЗША (там яшчэ да Першай сусьветнай вайны пасяліліся беларускія татары), Аўстралію і іншыя краіны.

Мусульманская культура татараў Беларусі, Летувы і Польшчы, якая зьберагалася на працягу многіх стагодзьдзяў, за гады савецкай улады прыйшла ў заняпад. Зачыняліся, руйнаваліся асяродкі культуры татараў-мусульман — мячэці, забываліся традыцыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны на тэрыторыі Польшчы зьберагліся дзьве мячэці — у Крушынянах і Багоніках. Нядаўна ў Гданьску на сродкі мусульман з Блізкага Усходу пабудавана прыгожая мусульманская мячэць. У Летуве зьберагліся тры мячэці — у вёсках Сорак Татараў, Немеж, Рэйжы. У Каўнасе з дапамогай дзяржавы ў 1930 годзе пабудавана прыгожая мураваная мячэць у памяць таго, што татары-мусульмане былі мужнымі ваярамі і абаронцамі сваёй новай радзімы — Вялікага княства Літоўскага.

На Беларусі захавалася толькі адна — у г.п. Іўе.

Толькі напрыканцы 80-х гадоў адыходзячага стагодзьдзя, калі пачаўся працэс нацыянальнага адраджэньня народаў, актыўныя прадстаўнікі татарскага народу аб'ядналіся і ўтварылі грамадзка-культурныя згуртаваньні ў Летуве і Беларусі. У Польшчы адноўлена мусульманскае культурна-асьветніцкае задзіночаньне, якое дзейнічае з 1925 г.

У Беларусі ўсю работу па адраджэньні і захаваньні самабытнага (паводле вызначэньня ЮНЭСКА рэліктавага) татарскага народу каардынуюць і накіроўваюць створанае ў 1989 годзе Беларускае згуртаваньне татараў-мусульман „Аль-Кітаб“ і Мусульманскае рэлігійнае аб'яднаньне (1994 г.), якія аб'ядноўваюць 25 грамадаў татараў-мусульман. Напачатку 1992 г. на канфэрэнцыі ў Менску была зроблена спроба ўтварыць уму татараў-мусульман Беларусі, Летувы і Польшчы. Праводзіцца разнастайная праца па падрыхтоўцы да агульнанацыянальнага сьвята — 600-годзьдзя пасяленьня татараў на землях Беларусі, Летувы і Польшчы.

# Письма русского белоруса

*Научимся, наконец, думать,*
*что мы говорим, а в конце концов,*
*может быть, и говорить то, что думаем.*

*Сирил Н.Паркинсон*

**Андрей КИШТЫМОВ**



**Андрэй Кіштымаў нарадзіўся ў 1954 г. у горадзе Пінску. Закончыў БДУ (1981). Працуе навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі АНБ. Займаецца вывучэньнем сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі канца XVII — пачатку XX стагодзьдзяў, гісторыі беларускага прадпрымальніцтва, геапалітыкі і фармаваньня беларускай нацыі.**

1.

Русско-белорусский диалог. Возможен ли он? И, если да, то о чем?

2.

Далеко не все в национальных отношениях поддается арифметическому измерению. Русские в Беларуси — это меньшинство, которое никогда себя меньшинством не признает. Почему нигде, во всем бывшем Советском Союзе, в русской общине количество не переходит в качество? Потому что для русских объединиться по национальному принципу, создать свою организацию и даже партию, означает тем самым и признать за собой статус такого национального меньшинства. Пойти на это, пусть даже и с пользой для себя лично, не представляется для них приемлемым вариантом.

В ментальности русских заложено служение государству. Естественно, государству Российскому, как бы оно в разные исторические периоды не называлось — Русь Дмитрия Донского или Русь Петровская... А если государство чужое? Латышское, казахское или белорусское? В таком случае возникает ситуация, с которой русский этнос столкнулся впервые. Ситуация, которая привычна для других народов, в том числе и белорусского, ситуация народа, разделенного государственными рамками.

Да, нередко бывали времена, когда русский этнос делился, но он делился внутри себя, на Россию никониан и старообрядцев, Россию Екатерины и Россию Пугачева, Россию советскую и

Россию белогвардейскую. И каждый раз единство восстанавливалось через кровь, насилие, гражданскую войну. Сегодня русские оказались по разные стороны границ в мирное время, и число желающих восстановить единство военным путем пока не достигло критической массы.

Русская община есть везде, и иногда весьма значительная по своей численности. Но она почти нема, неорганизована и хотя испытывает нередко дискомфорт на бытовом и личном уровнях (характерный тому пример — страны Балтии), организованным сопротивлением на него не отвечает. Почему? Ответ прост: служить Отечеству научились, а служить себе — нет. Пока еще это Отечество было — с последним псевдонимом Советский Союз — были и Интерфронты, с русскими в качестве основной ударной силы. Когда это Отечество рухнуло — рухнули и политические организации русских в бывших союзных республиках.

Защищать оказалось нечего, а защищать себя пока еще русская диаспора не научилась.

### 3.

А, может быть, она и не будет этому учиться. Ведь главное отличие русских от других народов СССР в том, что они уже сложились как историческая нация. Такая же, как немцы, итальянцы, французы... У всех исторических наций, в отличие от наций новых, молодых, нет беспокойства за свою судьбу. Они уже сказали свое слово в истории, и как и чем будут заполнены ее следующие страницы, их волнует гораздо меньше, чем те нации, у которых инстинкт самосохранения, помноженный на стремление самовыражения, составляет сегодня основу национальной идеи.

И пусть никого не смущают кокетливые заявления о грядущей гибели России. Действительно, российские государственные рамки могут изменить свои очертания либо модифицироваться, но русской нации ничего не грозит. Она неоднократно отвечала на вызов истории, особенно грозный в Октябре 17-го года, и все мыслимые и немыслимые новые сценарии явно проигрывают историческому прошлому России.

Царство большевиков, Советский Союз — „атомная бомба" истории — не стерла русскую нацию с лица земли. С таким прошлым можно спокойно смотреть в будущее.

Так рассыпалась Британская империя, а англичане остались. Впрочем, „жива" и империя: в том прошлом, которое связывает ее историческую нацию — англичан — и народы, в нее входившие — новые нации; в обломках самой империи (от Северной Ирландии до Гонконга); в архаике государственного устройства (в Канаде, Австралии или Новой Зеландии номинальным главой по-прежнему является английская королева); в английском языке, от которого оказалась не в силах отказаться даже британская колониальная жемчужина — Индия; в Содружестве — мягких рамках былой жесткой империи.

Англичане диаспоры не склонны к национально-культурным объединениям за пределами Британии. У них нет беспокойства оказаться забытыми и потерянными без напоминания о своей национальной принадлежности.

Нет такого беспокойства и у русских. Поэтому так слабы и условны их национально-культурные организации за пределами России, так малочисленны при такой многочисленной русской диаспоре. Стимулы к объединению у заграничных русских отсутствуют.

### 4.

Где же выход? Что ждёт русскую диаспору, русское меньшинство, которое даже белорусы в своей стране, Беларуси, боятся так называть?

В отличие от евреев или белорусов, отдельные представители или целые слои которых делали попытки „потеряться" среди других народов (и иногда это им почти удавалось, как, например, белорусской шляхте или белорусскому православному духовенству), у русских такого стремления нет и не было. Более того, если бы даже они и попытались это сделать, чужой этнос не принял бы их, отторг, идентифицируя самое себя через это отторжение.

Самоорганизация русских, по причинам, названным выше, исключена.

Возвращение в Россию? Но их там никто не ждет. Уехавшие из России отцы слишком стары для нового поколения теперь уже российской „целины", а для родившихся за пределами России детей она чужая, она луна, светящая отраженным светом, а не солнце, дающее этот свет. Вчера огромные массы людей перемещались на стройки коммунизма, сегодня с обжитых мест их срывает война и этнические чистки. Оба эти

пути для Беларуси не подходят.

Белорусы боятся всех, их не боится никто.

5.

Помочь белорусским русским могут только белорусы. И не только русским, а всем этносам, населяющим современную Беларусь.

„Джинсы Джордаш — в них выросла вся Америка“, — гласит реклама. Гумовыя боты і ватоўка — в них выросла Беларусь. В предельно остром виде вопрос о прошлом, настоящем и будущем белорусской нации формулируется так: „А может ли негр стать белорусом?“ Ответ и будет свидетельствовать о степени зрелости белорусов как нации.

От того, как дело формирования белорусской нации пойдет дальше, от выбора белорусского народа будут, в конечном итоге, зависеть и судьбы других народов Беларуси. Выбор в пользу независимости Беларуси будет означать для них не потерю своей идентификации, а приобретение нового качества, возможность жить в среднеевропейской стране, которая опирается на ценности мировой цивилизации. Но это идеал, весьма далекий от сегодняшней политической и экономической белорусской картинки.

Белорусы не пропали при господстве польской культуры, не погибли при тотальном русском языке. Сегодня новая проблема — как им уцелеть в своих государственных рамках? Смогут ли они пройти испытание собственной государственностью?

6.

Беларусь еще ждет демографический сюрприз. Вся современная статистика основана на данных последней переписи времен СССР, переписи 1989 года. Новая, уже своя, всеобщая перепись населения Беларуси, запланированная на 1999 год, даст иную конфигурацию демографической картины. И, в первую очередь, эти изменения коснутся национального состава. При достаточно свободном волеизъявлении, в целом при уменьшении удельного веса белорусов в составе населения, возрастет как общая, так и относительная численность других народов, живущих в Беларуси. Так, с большой долей уверенности можно прогнозировать резкое увеличение числа поляков и, вероятно, русских, а, возможно, и украинцев.

Отметим сложность задачи, стоящей перед белорусами уже сегодня: как строить себя, одновременно встраивая в Беларусь другие народы? К концу века острота этой проблемы не снизится.

Перспектива Беларуси: национальное, культурное и языковое разоружение. Оно произойдет, когда все это перестанет использоваться как аргумент в споре, а начнет выполнять свою изначальную роль.

7.

Тень России за спиной или перед лицом белорусов (в зависимости от их политической ориентации и личной позиции) не исчезнет. И никакие заклинания в духе „империи зла“ здесь не помогут. По-настоящему независимой Беларусь станет тогда, когда перестанет измерять себя российской линейкой. Тогда, когда я открою любое белорусское издание и там не будет ни слова про Россию: ни слова хорошего, ни слова плохого, а будет одна Беларусь. И не будет в статьях публицистических ударений в виде строчек из русского литературного наследия, и не будет там в качестве аргумента о воинствующем материализме большевиков приводиться псевдоним русского поэта — Беспощадный, а приведут подобное из белорусской поэзии — Танк, и, говоря о кровожадности революционеров, дадут не громкое „К топору!“ Чернышевского, а аналогичное — Калиновского. Пусть хоть одно белорусское издание и хотя бы на один номер забудет о России, Беларусь от этого только выиграет.

Парадокс, но труднее всего это будет сделать самым белорусским из всех белорусских СМИ. Освободите от России „Свабоду“, и свободнее станет Беларусь...

Сегодня мы прикованы к России, как каторжник к тачке. Клятвами в верности или проклятьями в ее адрес Беларусь утверждает себя. И все же, день без России — будущий первый день свободы Беларуси.

8.

Подобно врачам, ставящим эксперимент на себе, я решил проверить: может ли русский прожить в Беларуси, оставаясь русским. Ведь ставят же такой опыт, только как белорусы, Алексей Кавка в Москве или Валентин Грицкевич в Петербурге.

Теперь о самом трудном. Почему я не хочу быть белорусом? Я уже выпрямился и не хочу примерять белорусский горб. Этот горб — лицемерие. Белорусский народ столетиями несет его на себе. Без него он был бы неполным. Из лицемерия

можно вывести многое в белорусском характере и белорусской истории. В смягченной форме это иногда предпочитают называть приспособленчеством. Действительно, удивительна жизнестойкость белорусов: к каждой новой власти они поворачивались выгодным и знакомым для нее набором качеств, так отвечая на исторический вызов. Но подходит ли эта формула для диалога со своей властью? Можно ли с таким стереотипом выйти на стадию перехода от аборигенности, „тутэйшасьці“, к национальному самосознанию?

На пути к нации белорусам еще предстоит убить своего короля. Как Зевсу. Как англичанам, французам, американцам или русским... Путь для этого один — прощание с лицемерием.

* * *

Як ствараліся гэтыя лісты? Па-рознаму. Іншы раз па дробязі, а іншы — адразу добрым кавалкам тэксту.

Для каго гэтыя лісты? Для ўсіх, для цябе, для Беларусі. Але ж, у першую чаргу — для сябе.

Працяг будзе? Калі буду жыць я, ты і жыве Беларусь — працяг будзе. Калі ўсё зьнікне — застануцца лісты. Тэксты — як піраміды. Ня будзе мяне — упэўнены, іх дапіша хтосьці іншы.



# Расійская меншасьць у Беларусі

***Рэдакцыя інфармацыйна-культурнага бюлетэню „Форум" правяла апытаньне на тэму „Расійская меншасьць у Беларусі". Мэтаю апытаньня быў ня столькі сацыялягічны аналіз сытуацыі (і адпаведныя праблемы рэпрэзэнтатыўнасьці выбаркі і г.д.), колькі выяўленьне „тыповых" меркаваньняў, тыповага падыходу да гэтай праблемы.***

***Вось якія пытаньні былі прапанаваныя нашым рэспандэнтам:***

**1. Ці існуе ў Беларусі „праблема" (праблемы?) расійскай нацыянальнай меншасьці? Калі існуе, дык на чым яна палягае?**

**2. Як бы Вы ацанілі ступень згуртаваньня расійскай меншасьці, ці мае гэтая група выразную культурную саматоеснасьць?**

**3. Як бы Вы ацанілі кантакты расійскай меншасьці зь іншымі культурамі / этнічнымі групамі ў Беларусі: адкрытасьць да дыялёгу, абыякавасьць, прыхаваная варожасьць, варожасьць?**

**4. Як бы Вы ацанілі стаўленьне расійскай меншасьці да беларускай культуры?**

**5. Вашае бачаньне „ідэальнае" этнакультурнае мадэлі Беларусі: мультыкультуралізм, дамінацыя расійскай культуры, памяркоўная беларусізацыя, нешта іншае?**

***Шэсьць адказаў на гэтую анкету мы публікуем у сёньняшнім нумары бюлетэню. Адказы друкуюцца без купюраў і рэдагаваньня, на мове аўтара.***

### Александр Майснер, председатель белорусского общества немцев „Возрождение"

1. Полагаю, что этно-культурные задачи в условиях Беларуси должна для себя российская диаспора определить сама. Единственное требование — максимальная демократизация подходов к проблеме.

2. Я знаю о наличии в Беларуси по крайней мере двух российских объединений по этническому признаку. О степени самобытности и специфичности задач этих объединений судить не могу.

3. Несмотря на относительный радикализм требований у отдельных представителей российского этноса, в целом диаспора, полагаю, готова к открытому диалогу.

4. Считаю, что для негативной реакции относительно белорусской культуры, у российского, как впрочем и у представителей любого другого этнического меньшинства, оснований нет и быть не должно.

5. Исходя из принципов гуманности и справедливости, необходимо содействовать развитию культуры всех народов, населяющих Беларусь, если хотя бы у части людей того или иного этноса есть в этом потребность. Вместе с тем, нужно помнить, что и у „титульной нации" — белорусов, в силу исторически сложившихся условий, имеются примерно те же проблемы этно-культурного возрождения, как и у большинства „малых народов" Республики. И когда в рамках Белорусского государства принимаются программы развития белорусского языка и культуры, к этому необходимо относиться с сочувствием и пониманием.

### Віктар Мацюшэнка, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культураў

1. Расейцы не прызнаюць сябе меншасцю.

2. Жывучы на Беларусі, згубілі нацыянальную адметнасць. Прыклад: не маюць аўтэнтычных традыцый у святкаванні народнага календара.

3. Прымаюць пазіцыю расейскага кіраўніцтва.

4. Адмоўнае.

5. Прыярытэт беларускай культуры і мовы.

**Ібрагім Канапацкі, віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман „Аль-Кітаб“, дацэнт, кандыдат гістарычных навук**

1. Лічу, што гэтае пытанне пастаўлена некарэктна. Яно абражае менталітэт рускіх беларусаў, якіх у краіне, як вядома, большасць (больш правільна, можа, трэба сказаць — зрусіфікаваных беларусаў). Якая можа быць „меншасьць“, калі пануючай мовай з'яўляецца руская, пануючай культурай — руская, пануючай (пакуль што не афіцыйнай, але думаю, у хуткім часе будзе афіцыйная) рэлігіяй — праваслаўная (руская). Пра палітыку я ўжо не кажу, таму што яшчэ з часоў В.Ф.Кебіча нам — „нацменам“ — не перастаюць даводзіць, што яна (г.зн. палітыка) не вашай галавы справа.

Больш правільна будзе гаварыць аб праблеме беларускай нацыянальнай меншасці (хаця „па пашпарту“ ў нас каля 8 млн. беларусаў, але, як вядома, „па пашпарту не б'юць...“)

2. Расійская нацыянальная большасць згуртавана вельмі добра, атрымала і атрымлівае магутную падтрымку ад дзяржавы, асабліва пасля вядомага рэферэндума 14 мая 1995 г.

3. Не ведаю, як з іншымі згуртаваннямі, а з нашым згуртаваннем „Аль-Кітаб“ аб'яднанне „Русь“ амаль што не кантактуе. Акрамя некалькіх неафіцыйных запрашэнняў на вечарыны, я не магу больш нічога сказаць пра нейкае супрацоўніцтва. Больш цесныя кантакты ў нас існуюць з яўрэйскім, польскім, украінскім згуртаваннямі. Думаецца, што гэта наша агульная праблема, праблема, над якой павінен працаваць Цэнтр нацыянальных культур, якому не хапае ні сіл, ні сродкаў для гэтага.

4. Гэтае стаўленне яскрава праявілася падчас згаданага ўжо мною рэферэндума. Тут, як кажуць, ні адняць, ні дадаць. Горка ўсё гэта. Горка нам, беларускім татарам, за нашых „памяркоўных“ братоў-беларусаў.

5. Калі гэта суверэнная дзяржава, то дамініруючай культурай павінна быць беларуская культура. Але пры гэтым, у адпаведнасці з Канстытуцыяй і прынятымі законамі, права на развіццё павінны мець і культуры іншых народаў (асабліва тых, што спрадвеку жывуць на гэтай зямлі). На жаль, пакуль што гэтага не адбываецца.

**Геннадий Власов, председатель Минского городского общества русской культуры „Русь“**

1. Несмотря на то, что многие проблемы русских были сняты на майском референдуме 1995 г., тем не менее отдельные из них существуют. Некоторые национал-радикальные организации в бедах Беларуси обвиняют только русских, на страницах их изданий подчас звучат русофобские призывы, разжигаются антирусские и антироссийские настроения, вплоть до экстремистских выпадов. Нужен пример? Витебская газета „Выбар“ и выступления С.Адамовича. До сих пор на общество влияют статьи о русском „шовинизме“ лидеров национал-радикализма. Нелегко работается в вузах русским преподавателям гуманитарных дисциплин. Но данные замечания относятся лишь к небольшой части населения республики. С подавляющим большинством белорусского народа у русских самые тёплые и благожелательные отношения.

2. В республике нет организаций наподобие „Союза поляков Беларуси“, которые бы объединяли всех русских только по национальному признаку. Во-первых, в этом нет нужды, учитывая спокойную обстановку в Беларуси. Во-вторых, среди русских есть люди самых различных политических взглядов, что нормально. Кроме того, надо подумать: а являются ли русские в Беларуси национальным меньшинством. Скорее всего они входят в „большинство“, так как исторически они являются наряду с белорусами коренной на данной территории нации. Но во время опасности, как это ни раз бывало в истории, русские для отпора могут сплотиться и дать отпор. Но если до этого дойдет дело, то такое сплочение будет происходить в тесном союзе с братским белорусским народом. Конечно, русские в Беларуси, как и везде, имеют отчетливо выраженные признаки. Это русская культура мирового уровня, язык („великий и могучий...“), православная вера, причастность к истории великого народа. А в истории этого

народа не только завоевательные войны, которые были у всех, но и успешная борьба с многими жертвами против мировой агрессии — монголо-татарского ига и германского фашизма.

3. Вопрос поставлен некорректно. Кто вам ответит: „скрытая враждебность“, „враждебность“? У русских нет и не может быть враждебности, в том числе и скрытой, к какой либо культурной или этнической группе в Беларуси. У русских особо близкие и тёплые отношения большинством белоруского народа — у нас общая история, вера, очень похожий язык, но при взаимном уважении русские уважительно относятся к любым народам и культурам.

4. Отношение русских к белорусской культуре самое доброе и блажелательное. Что тут можно ещё сказать? Что русским не нравится, так это отношение политизированной части белорусского народа к своему родному языку. Непонятно почему — то ли из-за политиканства, эпатажа или борьбы с русификаторством на грани русофобии, часть интеллигенции считает нужным писать на т.н. терашковице. Поэтому ответьте на вопрос: какую грамматику изучать русским детям? Кстати, те издания, которые выходят на терашковице, более всего грешат антирусскими настроениями и русофобией. В вопроснике вашего бюллетеня содержится почти четверть сотни ошибок. Не понятно что слово „домінацыя“. Русские склонны к „дыялогу“ и к „дыялёгу“. Только определитесь, пожалуйста, без политиканства.

5. Ничего идеального не бывает. Самая приемлемая этнокультурная модель для Беларуси та, которая существует сегодня.

## Юры Дракахруст, журналіст

1. У сучасны момант праблемы рускай нацыянальнай меншасьці не існуе. Існуе праблема ўзаемадзеяньня паміж беларускамоўнай і рускамоўнай часткамі беларускай нацыі.

2. Выразнай саматоеснасьці гэтая меншасьць ня мае, групы накшталт Русі і панславісцкіх груповак ня маюць сярод іх уплыву. Парадаксальна, але нявызначаная беларуская саматоеснасьць, мэнтальны кантэкст аказваецца дастаткова моцным, каб растварыць у сябе ў Беларусі рускі этнічны элемент.

3. Рускія ў Беларусі не дыфэрэнцуюць сябе ад беларусаў. На мой погляд, няма адрозненьняў у стаўленьні да іншых меншасьцяў рускіх і беларусаў.

4. Большасьць рускіх, як і беларусаў, не адносяць сябе да беларускай культуры, але адзінкі ставяцца да яе варожа. Сярод рускай інтэлігенцыі і паўінтэлігенцыі ня больш праціўнікаў беларускай культуры, чым сярод гэтых жа беларускіх груповак.

5. Мультыкультуралізм.

## Богдан Михайлюк, президент Білоруської асоціації українців „Ватра“

1. На мій погляд, в царині духовного життя російська національна меншина ніяких проблем не має. Дитячі садки, школи, радіо, телебачення, періодика — все домінує на російській мові.

2. Взагалі будь-яка діаспора в світі, перебуваючи в інородному оточенні, вбирає в себе в тій чи іншій мірі риси того культурного грунту, на якому вона зростає. Щодо російської національної меншини, то мені досить важко найти чинники, які б свідчили про її культурну самототожність.

Щодо згуртованості російської нацменшини, слід сказати, що оскільки політична мозаіка Росії знаходить своє дзеркальне відображення в діаспорі, то, меншину, розбиту в психиці на соціялістів, комуністів, націоналістів і хтозна-що, не в стані об'єднати ніяка здорова ідея.

3. Щоб дати відповідь на це питання, спочатку потрібно дещо конкретизувати. За своїми політичними переконаннями, інтелігентним ступенем, духовними цінностями, тощо, будь-яку національну меншину можна розділити на відповідні прошарки, які по-різному будуть ставитись до культур інших націй.

Приймаючи це до уваги, можна беззастережно стверджувати, що звиклі представники російської меншини відносяться до інших націй на доброзичливих, дружніх засадах.

Інша справа — різні „политики“, „меч-

татели величия“, прихильники „своей миссионерской роли“. З іхньої міміки та й публічних висловлювань може скластися враження, що почувати себе національною меншиною в Білорусі— це є для них просто образа і що вони відчувають себе серед інших національних меншин, як муха в окропі.

Взагалі, щоб оцінити, що більш притаманне їм по суті, чи відкритість, чи байдужість, чи скрита ворожість, потрібні не побіжні суб'єктивні висновки, а науковий об'єктивний аналіз на підставі певних соціологічних досліджень.

4. Якщо брати до уваги, що одним з найважливіших чинників культури є мова, то, безсумнівно, любов російської меншини до білоруської мови по своїй силі, палкості та обсягу повністю співпадає з любов'ю до неї білоруського Уряду і Президента. Не можуть же росіяни любити білоруську мову більше ніж білоруська еліта. І якраз в цій проблемі у них найглибше взаємопорозуміння.

5. Я вважаю, було б доцільним вести мову не про „ідеальну“ етнокультурну модель, а про, так би мовити, практичну модель майбутнього. Отже, з усуненням з нових паспортів графи „національність“ призведе по експоненті до ліквідації таких понять як „національні меншини“, „національна культура“. Практично ні в одного громадянина республіки не буде ніякого документу, де була б зазначена його приналежність до тої чи іншої нації. Це означає, що не може бути мови про облік кількісного складу нацменів та їх запитів, що, в свою чергу, не дозволить планувати кошти на культурні цілі. Таким чином, всі жителі республіки стануть називатись формально білорусами, а зміст іхньої культури буде таким, яким йому дозволить стати конституція і закони конфедеративної держави.



*Илья ЛЕВЯШ*

# *Национальное меньшинство: проблемность понятия, белорусские реалии.*

На октябрьском (1993 г.) заседании Совета Европы так и не удалось однозначно определить содержание понятия „национальное меньшинство". Такой парадокс, неожиданный для умудренных опытом экспертов объединенных европейских наций-государств, отнюдь не случаен. Классические представления о базовом (относительно понятия национального меньшинства) понятии **этноса** включают в себя такие параметры, как общность предков („крови") и социокультурного комплекса (ценностей, менталитета, языка). Однако реалии обнаруживают явно **неклассическое**, маргинальное состояние родовых и социокультурных характеристик национальных меньшинств, несоответствия и разрыва между ними. Такая „расщепленность" кумулируется стойким переживанием действительного или мнимого социально-экономического и политического статуса определенной этнической общности как „большинства" или „меньшинства" — безотносительно к удельному весу в составе населения и даже роли титульного этноса.

Рассмотрим белорусскую модель такого прецедента.

Говоря о его белорусской модели, следует избегать двусмысленности в постановке проблемы. Она может подразумевать ее **русскую** ипостась в Беларуси (см. И.Я.Левяш. Русские в Беларуси: дома или в гостях? — Социс, 1994, №8-9) и **этно-белорусскую** — парадоксальное видение титульного этноса как „национального меньшинства" в собственной республике. „Белорусы по-прежнему младшие братья", „фактическое национальное меньшинство в государстве" (Л.Борщевский. — Сов.Бел., 12.11.1992) — такова интерпретация этого реального статуса.

Адекватность таких представлений не может быть ни подтверждена, ни опровергнута априорными суждениями и подлежит верификации путем научного анализа динамики состояния и роли белорусского этноса. К сожалению, в системном виде подобные исследования не проводились, хотя такое равнодушие — не автоматический довод в пользу сентенции „Кому на Беларуси жить хуже". Достаточно заметить, что впервые по этой тематике автор совместно с Белорусской службой „Общественное мнение" провел репрезентативный национальный опрос, его результаты были обобщены и в виде аналитического доклада представлены недавнему национал-патриоту, бывшему спикеру парламента С.Шушкевичу, но остались гласом вопиющего в пустыне. В этой космополитической пустыне еще господствовал принцип из „Бориса Годунова": „А может быть, мальчика вовсе и не было?" Национального вопроса в Беларуси на официальном уровне определенно не было.

Между тем исследование стало лакмусовой бумажкой степени чистоты слез и мотивов плакальщиков по белорусской „ущемленности". По нашим данным, в решающей сфере человеческой жизнедеятельности — ее **структуре и образе жизни** — выявлены важнейшие признаки белорусской и русской групп респондентов (для целей нашего доклада показатели других национальных групп респондентов не существенны).

Занятость, обеспеченность работой белорусских и русских респондентов примерно равны: преимущественно физическим или умственным трудом заняты соответственно 17,8% и 18,8%. Рабочих —

---

**І.Я. Лявяш — акадэмік Нью-Ёркскай Акадэміі Навук, доктар філязофскіх навук, прафэсар.**

28,2% и 26,9%, служащих — 20,4% и 26,7%, крестьян — 19,6% и 10,4%. Среднее специальное образование — у 55,7% и 53,5%, высшее (неполное высшее) — 30,7% и 41,1%. Достаточная зарплата — 10,3% и 11,4%, недостаточная — 54,1% и 55,4%, совершенно недостаточная — 16,8% и 19,1%. Не удовлетворены своей работой — 59,3% и 56,9%. Трудности устройства на работу отметили 29,3% и 37,1%. Если 95% белорусов и 89,6% русских никогда не испытывали на себе явно недоброжелательного отношения по национальным мотивам на производстве, то на отсутствие его неявных форм указали только 80,4% и 75,2%. 86,4% белорусов и 81,7% русских считают, что национальные отношения „изменились к худшему".

Это — информация к размышлению, очень немногое из более чем 2 тысяч таблиц „говорящей" статистики. Но даже скромного объема приведенных данных достаточно для вопроса: **на какой борт** однозначно наклонена лодка, если, допустим, среди респондентов больше белорусов-крестьян, но примерно столько же русских испытывают большие трудности устройства на работу, и т.п.? Как будет отмечено далее, с некоторой точки зрения крестьянский уклад жизни — скорее не порок, а добродетель, но дамоклов меч угрозы безработицы нависает **над всеми**, не ведая национальных предпочтений.

Далеко не линейный характер имеет и **политическое представительство** белорусского и русского этносов. В прежнем составе парламента республики белорусов было несколько меньше их доли в составе населения (соответственно 73,5 и 77,9%, русских — 19,5 и 13,2%. Однако в целом в руководящем корпусе республики белорусов было 77,7%, т.е. „один к одному" (Социс, 1990, №7, с.40). А пока, как известно, именно он, а не парламент, вершит судьбы.

И все же исследователи республиканской элиты правы, отмечая серьезные диспропорции в уровнях интеллектуальной оснащенности представителей белорусской и русской национальностей в республике. Так, в 1989 г. в расчете на 100 тысяч человек было 6 белорусов и 33 русских — докторов наук, соответственно 93 и 393 — кандидатов наук, 84 и 226 — с высшим образованием (последняя параллель не соответствует нашим данным — 30,7% и 41,1%). Среди преподавателей вузов белорусы составляли 56%. Вместе с тем отмечается, что „нам неизвестны примеры отказов в присвоении ученых званий и степеней по национальному критерию" (Снапковский В.Е. Элита. — Неман, 1995, №7. С.173).

По гамбургскому счету после гениев русской культуры — „мавра" Пушкина и белоруса Достоевского — квотный критерий состоятельности того или иного этноса нельзя признать оптимальным, тем более в режиме „один к одному". Но даже исходя из него, специалисты отмечают, что указанные перекосы имеют прежде всего объективный характер и коренятся в крестьянском укладе и крестьянско-народническом характере белорусского национального движения. Если сопрячь эту причину с угасающей в последние десятилетия, но еще до конца не преодоленной тенденцией к русификации, то **объективный** фон подобных диспропорций становится достаточно ясным.

Однако этим проблема далеко не исчерпывается. Как ни странно, катализаторами перекосов стали некоторые принципиальные установки белорусской **радикально**-националистической ориентации.

Разумеется, важно знать и чувствовать, что истоки национального менталитета — в крестьянской среде. Однако следует уважать прошлое, но нельзя **жить** в прошлом и только им. Так, для профессора В.Конана именно „село и селяне [...] создали культуру [...] Урбанистическое общество создает не культуру, а современные формы унифицированной цивилизации" (ЛіМ, 05.1992). Такая ориентация — плод недоразумения. Достоевский — „законченный" урбанист, мыслитель „северной Пальмиры", но его творчество — вершина как раз культуры, а не цивилизации, жестокий приговор последней. Возможно, у некоторых идеологов белорусского Возрождения есть иные — политические и профессиональные — причины антипатии к городам и их демосу (подобно русским „деревенщикам"), но это уже их проблема. Если учесть, что 8 млн. человек сейчас составляет городское население республики, то есть смысл прислушаться к Я.Запруднику, который выступил против стремления лишить белорусскую национальную идею „общенациональной родословной".

Стратегическая переориентация стражей белорусского архетипа на ценности современной **общенациональной** — не только крестьянской, но и урбанистической — культуры могла бы лучшим образом содействовать формированию и реа-

лизации массовой потребности в ней и преодолению отмеченных выше перекосов. Объективных препятствий для этого сегодня решительно нет.

Негативное воздействие на этот процесс оказывают и разночтения в трактовке белорусской национальной идеи, пропасть между ее этноцентристским и полиэтническим полюсами. В результате упорного непонимания консолидирующей роли белорусского титульного этноса, автаркической трактовки белорусизации и практических попыток ее реализации „штурмом и натиском" идеологи этого направления сами себя загнали в культурное гетто претензией на **моно**-государственность белорусского языка... в республике с преимущественно русскоязычным населением (включая 8/10 русскоязычных этнических белорусов).

В контексте реалий такой максимализм просто инфантилен, в лучшем случае — романтичен. В нашем исследовании за моногосударственный статус белорусского языка высказались лишь 29,3% белорусов и 8,9% русских, а через три года на референдуме 14 мая 1995 года уже подавляющее большинство граждан защитили свое право на **двуязычие**.

Спору нет: владение белорусским языком на любом „государевом" уровне — императив. Но культура не сводима к государственности, и если она принуждает культуру, диктует ей форму (а для иных — и смысл) выражения, то это типичный синдром фельдфебеля при Вольтере. С другой стороны, и русский человек, и всяк иной „сущий язык", правомерно не считая белорусский „монастырь" чужим, тем более не может навязывать любой небелорусский „устав" и должен приобщиться к языку титульного этноса. Становление полиэтнической белорусской нации возможно лишь при условии свободного и расширенного воспроизводства белорусского языка в новых поколениях, но не „гвалтоўна", а **эволюционно**, органически, а не механически.

К чести реалистически мыслящих представителей белорусской национальной идеи, они вычерчивают все более перспективную лоцию. Историк-эмигрант Л.Валович обращает внимание на то, что акцентирование на языковом моменте Возрождения как самоцели может привести к эффекту бумеранга — **расколу** не только между белорусами и русскими, но и между русско- и белорусоязычными белорусами. На первый план он предлагает ставить **патриотическую** идею как консолидатора нации. Такая идея созвучна с мыслью о том, что белорусская идея прекрасно звучит на **обоих** — белорусском и русском — языках.

Центр тяжести Возрождения необходимо перенести в иную плоскость. „Если бы не было истории, — отмечает О.Трусов, — не было бы языка. Язык сам по себе ничего не определяет. Все определяет историческое сознание. Язык будет оставаться мертвым, пока у народа не появится историческая концепция. ...Язык возвращается лишь тогда, когда приходит историческое сознание" (ЛіМ, 9.10.1992).

Когда белорусский этнос осознает свою ответственность за становление полиэтнической и билингвистической белорусской нации, ее политической тверди — суверенитета, он окончательно избавится от комплекса „младшего брата", „национального меньшинства" и обретет качество титульного этноса.

Резюмируем.

1. Верифицированное белорусскими реалиями, понятие „национальное меньшинство" обнаруживает свою неадекватность и отсутствие эвристического потенциала.

2. Оперирование этим понятием объективно ведет к эффекту „песочных часов" — воспроизводству былого соотношения иерархического „братства", неправедной национальной политики и некорректного отношения между национальностями.

3. Более адекватное и саентистски нейтральное понятие — **национальная общность** (безотносительно к ее количественным параметрам).

4. Для белорусского этноса принципиально важна самоидентификация не в качестве „большинства", а **титульной** этнической общности, обретение ее необходимого качества.

07.02.1996 г.



*Віталь ЗАЙКА*

# *Урыэль Вайнрайх (1926-1967)*

Выдатны лінгвіст і асьветнік, Урыэль Вайнрайх нарадзіўся ў Вільні ў сям'і мовазнаўцы Макса Вайнрайха. Ад самага дзяцінства ён знаходзіўся ў эпіцэнтры мовазнаўчых, сацыялягічных і палітычных спрэчак, у якія быў заангажаваны бацька і якія пераважна тычыліся лёсаў мовы ідыш ды гэбрайскага народу ва Ўсходняй Эўропе.

Шматнацыянальная Вільня зь яе культурнай і моўнай разнастайнасьцю ў значнай ступені спрычынілася да фармаваньня сьветапогляду і зацікаўленьняў Урыэля Вайнрайха. Ужо ў маладыя гады яго прывабіла мовазнаўства. Як пісаў славуты навуковец Раман Якабсон, успамінаючы дванаццацігадовага Урыэля ў даваенным Капэнгагене, у доме дацкага лінгвіста Люіса Ельмсьлева, „з таго, як хлопец прыслухоўваўся да нашых дэбатаў, я адразу адчуў, што нягледзячы на свой узрост, ён ужо быў захоплены фундамэнтальнымі пытаньнямі мовы і спрабаваў знайсьці свой незалежны падыход да абмяркоўваных тэмаў. Пазьней, ужо сталым навукоўцам, Урыэль вылучаўся сваёй незалежнасьцю, і гэта лёгка растлумачыць, бо як сын выдатнага навукоўца, ён адчуваў, што стваральнай асобай ён можа зрабіцца толькі шукаючы далейшых, новых і недасьледаваных сфэраў і мэтадаў“[1].

Апынуўшыся далёка ад Вільні перад пачаткам Другой сусьветнай вайны, сям'я Вайнрайхаў перабралася ў Амэрыку, у Ню-Ёрк. Там Урыэль скончыў штудыі ў Калюмбійскім унівэрсытэце і ў 1951 г. атрымаў дактарат у лінгвістыцы. Тагачасная Калюмбія, паводле словаў Якабсона, унівэрсытэцкага настаўніка Вайнрайха, была асяродкам разнастайных навуковых плыняў і тэндэнцыяў, але Вайнрайх не зрабіўся ані сэктантам, ані эклектычным спалучальнікам модных трэндаў. Ён знайшоў свой шлях у складанай структуры лінгвістычнай навукі, што знаходзілася ў стане рэфармаваньня.

Калі Вайнрайх зрабіўся прафэсарам у дасьледаваньні мовы ідыш, шмат хто выказваў скептыцызм наконт магчымасьці спалучыць ідыш і агульную лінгвістыку. Але спалучэньне гэтае аказалася для Вайнрайха вельмі плённым, бо ідыш мае некаторыя незвычайныя, у параўнаньні да іншых моваў, асаблівасьці. Мовы звычайна маюць свой кампактны абшар, чаго не было для ідыш як мовы дыяспары. І ў сувязі з гэтым пытаньне рэлевантнага чыньніка прасторы зрабілася стрыжнявою тэмай ягоных досьледаў — як мовы разьвіваюцца ў прасторы, як узаемадзейнічаюць і як уплываюць адна на адну.



На матар'яле доктарскай дысэртацыі паўстала кніга „Мовы ў кантакце: знаходкі і праблемы“ (1953)[2], што адразу зрабілася клясычнай працай і шчасьліва спалучыла дакладныя эмпірычныя назіраньні з распрацаванай тэорыяй. Праблема разьвіцьця мовы ідыш у яе славянскім, балцкім і германскім асяродзьдзі і праблема білінгвізму сталі вельмі прадук-

цыйнай тэмай, якая забясьпечыла новым мэтадалягічным матар'ялам і фактамі ня толькі дасьледаваньне закранутых у кнізе моваў, але й агульную навуку аб мове.

Унёсшы ў свае досьледы часавае вымярэньне, Вайнрайх заняўся пытаньнем трансфармацыі моваў. Вынікі гэтых досьледаў былі сабраныя вучнямі, ужо пасьля заўчаснай сьмерці Вайнрайха ад раку, у кнізе „Тэарэтычныя асновы тэорыі зьмяненьня мовы".

Вучань і пасьлядоўнік фармаліста Р.Якабсона і структураліста Андрэ Мартынэ, сябра Нью-Ёрскскага Лінгвістычнага Гуртка, Вайнрайх лічыцца адным з заснавальнікаў сучаснай амэрыканскай школы структуралізму і адным з найбольш інавацыйных і стваральных навукоўцаў у галіне сэмантыкі. Ягоныя досьледы ў сэмантыцы былі зьвязаныя з пытаньнямі білінгвізму, а таксама з досьледамі ў лексікалёгіі і дыялекталёгіі. Выходзячы з унікальнай сытуацыі ўсходняга кшталту мовы ідыш як мовы дыяспары й германскай субстратнай структуры, што ўжывалася ў разнастайных негерманскіх моўных асяродзьдзях, Вайнрайх перайшоў да досьледу катэрытарыяльных (суабшарных) і донарскіх моваў. Займала ягоную ўвагу таксама „экзыстэнцыяльная сытуацыя мовы меншасьці", якая, у дадатак, была носьбітам іншай культуры, зьвязанай зь іншай мовай (гэбрайскай), што тэрытарыяльна знаходзілася па-за межамі дадзенага рэгіёну. Гэтае кола праблемаў прывяло да досьледаў дыялекталягічнай фрагмэнтацыі й білінгвізму, мультылінгвізму, кантактных (крэольскіх) моваў. Лексыкаграфія зрабілася падвалінай для досьледаў у сэмантыцы. Працы па сэмантыцы выйшлі асобнай кнігай пасьля сьмерці аўтара[3].

Вайнрайх крытыкаваў нэа-блумфэльдыянскую дэскрыпцыйную лінгвістыку, імкнуўся памірыць супрацьлеглыя погляды структуралістаў і традыцыйных дыялектолягаў у артыкуле „Ці магчымая структурная дыялекталёгія?"[4]. У канцы жыцьця ён дыскутаваў супраць рэдукцыяністцкіх памкненьняў у сучаснай лінгвістыцы.

Кола зацікаўленьняў Вайнрайха складалася з узаемна зьвязаных, хоць на першы погляд і не зусім блізкіх, тэмаў, дзе былі і фальклярыстыка, і моўнае плянаваньне, і фаналёгія. Трэба толькі заўважыць, што эмацыйна Вайнрайх быў найбольш прывязаны да мовы ідыш, і два зьвязаныя зь ёю праекты — дыялекталягічны атлас ашкенаскага гэбрайства й ідыш-ангельскі слоўнік — дагэтуль застаюцца аднымі з найбольш уражваючых зь ягоных дасягненьняў, хоць ён і не пасьпеў асабіста завершыць іх. Вайнрайху належыць таксама шэраг артыкулаў, што ўзьнялі досьледы ідыш на прынцыпова новую вышыню. Ён быў, разам з бацькам, Максам Вайнрайхам, адным з найвыдатнейшых сяброў Гэбрайскага Навуковага Інстытуту (IBO) у Нью-Ёрку.

Знайшлося ў коле навуковых праблем, распрацоўваных Урыэлем Вайнрайхам, месца і для беларускай мовы. Пазнаёміўшыся зь ёю яшчэ ў віленскія часы, Вайнрайх назіраў за разьвіцьцём беларускага мовазнаўства, асабліва ў сувязі з сваімі досьледамі моўных кантактаў і дзьвюхмоўнай дыялекталёгіі. Найбольш характэрным у гэтым пляне ёсьць артыкул „Геаграфічны лад беларускага ідыш" (на беларускай мове), знойдзены аўтарам гэтых радкоў у архіве IBO. Гэты артыкул і прапануецца ўвазе чытачоў „Форуму".

Неабходна адзначыць таксама іншыя аспэкты дзейнасьці У.Вайнрайха. Ён стаў першым прафэсарам мовы ідыш (Калюмбійскі ўнівэрсытэт) і зьяўляецца аўтарам першага ўнівэрсытэцкага падручніка ідыш. Ён быў таксама старшынём дэпартамэнту лінгвістыкі таго ж унівэрсытэту (1957-65 гг.). У 1953-1960 гг. Вайнрайх быў рэдактарам найбольш аўтарытэтнага лінгвістычнага часопіса *Word*. Рэдагаваў таксама сэрыю працаў „Поле ідыш" (*The Field of Yiddish*) і пэрыёдык IBO „Ідышэр фольклор".

Варта ўзгадаць таксама іншы бок навуковай дзейнасьці У.Вайнрайха — як дасьледніка зьмяненьня моваў пад уплывам моўнай палітыкі таталітарнага рэжыму. Гэтаму ён прысьвяціў досьлед русіфікацыі моваў у Савецкім Саюзе. Гэтаму ж (лепш сказаць — супраць гэтага) была прысьвечана ягоная праца як рэдактара часопісу „Праблемы камунізму" (*Problems of Communism*), які з антыкамуністычных пазыцыяў дасьледаваў наступствы расійскай камуністычнай дамінацыі ва Ўсходняй Эўропе і сьвеце. Як кожны цывілізаваны навуковец, Вайнрайх быў занепакоены ўціскам нацыянальных моваў пад саветамі і ідэалягічнай дэтэрмінаванасьцю мовазнаўчых досьледаў у СССР. Матар'ялы ягонага артыкула „Русіфікацыя моваў савецкіх меншасьцяў"[5] сьведчаць пра інфармаванасьць Вайнрайха наконт долі беларускай мовы ў савецкай Беларусі.

Тэкст артыкула грунтуецца на рэфэраце, прэзэнтаваным на канфэрэнцыі па дыялекталёгіі ідыш. Ён быў адмыслова напісаны для навуковага зборніка мовазнаўчых працаў у гонар акадэміка Кандрата Крапівы, аде дзеля шэрагу ідэалягічных прычынаў і спэцыфікі савецкага трактаваньня мовы ідыш не ўвайшоў у гэты зборнік. Артыкул напісаны „наркомаўкай“ і з шэрагам русізмаў, з чаго аўтар здаваў сабе справу. Англамоўны варыянт, зь невялікімі зьменамі, быў надрукаваны ў 1969 г. Усе мапы ўзятыя з гэтага выданьня. Існуе таксама расійскамоўны варыянт. Артыкул друкуецца з добразычлівага дазволу спадарыні Беатрыс-Біны С.Вайнрайх, жонкі й калегі Урыэля Вайнрайха.

[1] Roman Jakobson. Funeral Eulogy for Uriel Weinreich (1926-1967). In: YIVO Annual XIV, N.Y., 1969, p.9.

[2] Languages in contact: findings and problems (Linguistik Circle of New York, special publications, 1), N.Y., 1953.

[3] Uriel Weinreich. On Semantics. University of Pennsilvannia Press. 1980.

[4] Is a structural dialectology possible? Word 10. 338-600, 1954.

[5] The Russification of Soviet minority languages. Problems of Communism 2: 6.46-57, 1953.

*Урыэль ВАЙНРАЙХ*

# *Геаграфічны лад беларускага ідыш*

*1. Значнасць беларускага ідыш. 2. Выразнасць дыялектнага раёна. 3. Храналагічныя рамкі. 4. Пранікненні з поўдня. 5. Уплыў з паўднёвага захаду. 6. Мясцовае раздрабленне. 7. Роля рускай мовы. 8. Заключэнне.*

**§1.** Беларускае мовазнаўства мае патрэбу не толькі ў вывучэнні беларускай мовы, але таксама ў поўным азнаямленні з іншымі мовамі, якія ўжываюцца на тэрыторыі Беларусі. Карыстаючыся запрашэннем Беларускага Камітэта славістаў і Інстытута мовазнаўства АН БССР, аўтар гэтага артыкула, прысвечанага юбіляру акад. К.Крапіве, хоча коратка ахарактарызаваць тое месца, якое ў гэтым сэнсе належыць яўрэйскай мове (=ідыш).

Гісторыя яўрэйскай мовы на тэрыторыі цяперашняй БССР вядзе да самага пачатку ашкеназійскага пасялення ў Вялікім княстве Літоўскім. Не пазней XIV ст. былі заснаваны яўрэйскія абшчыны ў Брэсце і Гродні[1]. З кожным новым стагоддзем лік гаворачых па-яўрэйску ўзрастаў і распаўсюджваўся ўсё далей на ўсход і поўнач. К канцу XVIII ст. не было ўжо кутка ў Беларусі, дзе б яўрэі не складалі значнай часткі насельніцтва гарадоў і мястэчак. У дадатак трэба лічыцца з некаторым рассяленнем яўрэяў і па вёсках. Агульнапрызнанай з'яўляецца роля яўрэяў ва ўнутраным і знешнім гандлі, у росце рамяства, у развіцці буржуазіі і рабочага класа[2]. Такім чынам, кантакты паміж беларускай і яўрэйскай мовамі, якія ахопліваюць сотні гадоў, не маглі не быць блізкімі.

Са свайго боку яўрэйскае мовазнаўства

[1] Ад таго ж ранняга перыяду бяруць свой пачатак абшчыны ў Троках і Луцку. Гл. І.Шиппер, Расселение евреев в Польше и Литве, у кн. История еврейского народа, выд. Т-ва „Мир“, М., 1914 г.

[2] Гл. Гісторыя Беларускай ССР, выд. АН БССР, Мінск, 1955, ст.73-74, 77. Больш падрабязна ў главе „Экономический быт“ ва ўказ. кн. История еврейского народа. Адносна гісторыі рэвалюцыйнага руху пар. зб. Rojte bleter (на яўр. мове), Мінск, 1929. Развіццё яўрэйскай сельскай каланізацыі рэзюмавана ў доктарскай дысертацыі Х.Шмерука, Hakівіс hayehudivehahityasvut hexaklait hayehudit bebyelorusiya hasovyetit, 1918-1932 (Яўрэйскае насельніцтва і яўрэйская сельскагаспадарчая каланізацыя ў Савецкай Беларусі 1918-1932; на мове іўрыт), Іерусалім, 1961 (мімеагр.).

натуральна ўдзяляе Беларусі належнае месца. Беларускія яўрэі ў XIX і XX стст. адыгралі значную ролю ў росквіце сучаснай яўрэйскай культуры. Яўрэйскія навуковыя ўстановы, якія функцыяніравалі як органы Акадэміі Навук БССР у першыя два дзесяцігоддзі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, былі вядомы далёка за межамі Савецкага Саюза. Творчыя сілы беларускіх яўрэяў выявіліся як на радзіме, так і за рубяжом.

Зразумела, што нават чыста апісальная трактоўка беларускага ідыш заслугоўвае ўвагі навукі. Але ёсць прычына, дзякуючы якой іменна дыялектаграфічнае вывучэнне беларускага ідыш набывае асаблівае значэнне. Абставіны склаліся так, што захаваліся толькі нямногія яўрэйскія моўныя помнікі з гэтай тэрыторыі. Канвенцыянальная гісторыя гэтых дыялектаў таму павінна быць расшырана шляхам рэканструкцыі, пабудаванай на сучасным стане мовы. Фундамент для такой рэканструкцыі быў пакладзен ужо некалькі дзесяткаў гадоў таму назад. Пасля папярэдняй анкетнай работы нябожчыка М.Вейнгера (1926-1929 гг.), Л.Віленкін апублікаваў „Атлас яўрэйскай мовы СССР“ (Мінск, 1931)[3], які з'яўляўся адным з першых дыялекталагічных атласаў, выйшаўшых у Савецкім Саюзе[4]. У больш шырокім маштабе гэта работа прадаўжаецца вось ужо некалькі год у ЗША, дзе пры Калумбійскім Універсітэце ў Нью-Йорку пад кіраўніцтвам аўтара рыхтуецца Атлас мовы і культуры ашкеназійскага яўрэйства[5].

Гэты новы атлас ахоплівае ўсю яўрэйскую тэрыторыю Еўропы, ад Дзвіны і Дняпра да Рэйна і Мозеля. Пры дапамозе вусных інтэрв'ю абследуецца не толькі фанетыка, але і граматыка і лексіка. Дзве вартасці наватарскай работы М.Вейнгера-Л.Віленкіна, на жаль, непаўторны: сетка іх інфармантаў была больш густой і матэрыял быў здабыты на месцах. Аднак аказваецца, што абследаванне роднай мовы эмігрантаў дае нечакана дакладны і самога сябе пацвярджаючы малюнак геаграфічнага размяшчэння дыялектаў да эміграцыі[6]. Нягледзячы на тое, што сетка апытанняў для новага атласа яшчэ не дасягнула прадбачанай густаты, на папярэдніх картах, складзеных нават не на канчаткова прарэдагаваным матэрыяле, ужо напрошваюцца вывады аб гісторыка-геаграфічных працэсах, якія вызначылі сучасны контур беларускага ідыш. Разам з тым узнікае магчымасць уключыць гэтыя працэсы ў рамку з'яў, якія аформілі, пачынаючы з позняга сярэдневякоўя, дыялектнае аблічча моў, катэрытарыяльных з яўрэйскай. Такая двухмоўная дыялекталогія — г.зн. геаграфічнае вывучэнне двух моў на адной і той жа тэрыторыі — адкрывае новыя перспектывы для разумення працяглага двухмоўя, якое параджае моўныя саюзы[7]. Адначасова накопліваецца матэрыял для ацэнкі адноснай вагі структурных і пазамоўных фактаў у развіцці моў.

§2. Беларускі ідыш як самастойная тэма дагэтуль амаль не фігурыраваў на парадку дня яўрэйскага мовазнаўства. Аперыруючы гісторыка-фанетычнымі крытэрыямі, яўрэйская дыялекталогія вызначыла паўночна-ўсходні дыялект, які ахоплівае як Беларусь, так Літву і Латвію[8]. Мовазнаўцы грунтаваліся на фаналагічных прыкметах не толькі таму, што ў той перыяд гэта было прынята ўсюды, але і таму, што разыходжанні ў яўрэйскіх

[3] L.Vilenkin, Judišer špraxatlas fun Sovetn-farband (Яўрэйскі лінгвістычны атлас Савецкага Саюза), Мінск, 1931.

[4] Некалькі раней, у 1928 годзе выйшла праца П.Бузука „Спроба лінгвістычнае геаграфіі Беларусі“, ч.1, вып.1, 1928. Пар. В.Жырмунскі, О некоторых вопросах еврейской диалектологии (По поводу „Еврейского диалектологического атласа“ Белорусской Академии Наук), „Язык и мышление“, IX, 1939, ст.135.

[5] Jidišer šprax- und kultur-atlas (Language and Culture Atlas of Ashkenazic Jewry). Аб гэтым пачынанні гл. У.Вайнрайх, О новом атласе еврейского языка и еврейской культуры (на яўр. мове), „Di goldene kejt“, №37, Тель-Авив, 1960; яго ж, Multilingual Dialectology and the New Yiddish Atlas, „Anthropological Linguistics“, 1962, №1; Cultural Geography at a Distance: Some Problems in the Study of East European Jewry, „Proceedings of the 1962 Annual Spring Meeting of the American Ethnological Society“, Seattle, 1963. Падрыхтоўка Атласа падтрымліваецца субсідыяй № MH 08106 з боку Дэпартамента аховы здароўя, асветы і дабрабыту (Health, Education and Welfare) ЗША.

[6] Цікавая, напрыклад, дакладнасць ізаглос, якія прыводзіць M.I.Herzog у сваёй манаграфіі The Yiddish Language in Northern Poland: Its Geography and History, Bloomington, Indiana, 1965, заснаванай на матэрыялах нью-йоркскага Атласа.

[7] Пар. U.Weinreich, Four Riddles in Bilingual Dialectology, „American Contributions to the Fifth International Congress of Slavicists, Sofia, 1963", The Hague, 1964.

[8] Беларусь надзелена асаблівай традыцыйнай яўрэйскай назвай — Raisn. Стары яўрэйскі тэрмін Lite уключае не толькі тэрыторыю этнаграфічнай Літвы, але і Беларусь.




абласных сістэмах гукаў, і асабліва галосных, сапраўды здзіўляюць сваёй рэгулярнасцю. Напрыклад, словазлучэнне, якое перакладаецца як 'вялікі сад', адразу характарызуе паўночна-ўсходні ідыш, дзе яно вымаўляецца *grejser gortn* у адрозненне ад „паўднёвага“ ідыш Польшчы і Украіны, дзе яно гучыць *grojser gurtn*[9]. (Гутарка ідзе аб праяўрэйскіх галосных[10], якія адпавядаюць сярэдневерхненямецкім *â* і *ô*.) Існуюць і іншыя спецыфічныя рысы паўночна-ўсходняга ідыш, не толькі ў вакалізме, але і ў кансанатызме (супадзенне апазіцыі шыпячых і свісцячых, толькі часткова адноўленай[11]), а за межамі фаналогіі і ў граматыцы (напр., карэнная перабудова сістэмы граматычнага роду і марфалогіі імён наогул[12]) і ў лексіцы (напр., *holt hobn // lib hobn* 'любіць', *dekl // stercl, pókriske* 'крышка для посуду' і інш).

Пры ўсім заўважаным адзінстве яўрэйскага паўночнага ўсходу, гэта вобласць, аднак, перасякаецца шэрагам ізаглос. На карце №1 паўночна-ўсходні ідыш адмяжоўваецца з поўдня ізаглосамі I) *grejser // grojser* і II) *gortn // gurtn*. Адначасова паказаны некаторыя ізаглосы, якія пад-

[9] Яўрэйскія словы перадаюцца, як прынята ў савецкай навуковай літаратуры, лацінскай транскрыпцыяй. Націск, дзе ён не адзначан асобым знакам, падае на перадапошні склад; n і l пасля зычнага, на канцы слова ці перад другім зычным, утвараюць склад.

[10] Адносна рэканструкцыі праяўрэйскай гукавой сістэмы гл. М.Вайнрайх, „Сістэма праяўрэйскіх галосных“ (на яўр. мове), „Jidiše šprax“, 1960, №3.

[11] Пар. U.Weinreich, Sábesdiker losn in Yiddish: a Problem of Linguistic Sffinity, „Word“, 1952, №4; яго ж, Four Riddles in Bilingual Dialectology, с р. с ар. 348, 353 і наст.

[12] Пар. M.L.Wolf, Case and Gender Variation in Yiddish Dialects, „The Field of Yiddish“, vol.III, The Hague (у друку).

раздзяляюць гэты паўночна-ўсходні масіў на заходнюю, „літоўскую“ і ўсходнюю, „беларускую“ палавіны. Гэтыя апошнія ізаглосы заадно адмяжоўваюць паўночна-ўсходні ідыш ад паўднёвага, хаця на поўначы Украіны яны часам размяшчаюцца веерам. У пералічаных далей ізаглосах, першая з названых форм належыць да беларускага ідыш: 1. *s'iz mir tut-véj // s'tut mir vej* 'у мяне баліць...'; 2. *voncn // vonces* 'вусы'; 3. *behejmes // ki(en)* 'каровы'; 4. *mojl* 'рот' у мужчынскім // жаночым, ніякім родзе; 5. *teler* 'талерка' ў жаночым // мужчынскім родзе; 6. *fencter* 'вакно' ў жаночым // мужчынскім, ніякім родзе.

Для паўнаты трэба дадаць, што ў матэрыялах Нью-Йоркскага Атласа выяўляюцца і некаторыя іншыя падраздзелы разглядаемай тэрыторыі. Так, напрыклад, кідаецца ў вочы канфігурацыя ізаглос, якія аддзяляюць новаўвядзенні ў цэнтры ад рэліктаў на паўночнай ускраіне (пар. замену дыфтонга на *u* новым *j*-дыфтонгам у словах тыпу *moul // mojl* 'рот'; замену формы *gor* 'ханукальная юла' назвай *drejdl*; і інш.). У іншых выпадках вылучаецца рэліктавы арэал на крайнім паўночным захадзе (пар. дыфтонгі на *u* ці *ü* ў словах тыпу *greuser, groüser* 'вялікі'). Іншы ж раз, наадварот, іменна Курляндыя і Жмудзь адрозніваюцца сваёй навізной (*bud* 'лаўка' замест агульнага паўночна-ўсходняга *krom; bord* 'барада' ў мужчынскім родзе, замест агульнаяўрэйскага жаночага[14]). У сваю чаргу, намечаны намі беларускі ідыш (гл. карту №1) сам перарэзан рознымі ізаглосамі. Мы, аднак, не ставім перад сабой задачы ўстанавіць аўтарытэтную класіфікацыю дыялектаў і паддыялектаў. Такая мэтаўстаноўка наогул здаецца аўтару мала актуальнай у сучаснай дыялекталогіі. Больш надзённай задачай, на наш погляд, з'яўляецца размеркаванне ўсіх прыкметных інавацый па іх геаграфічнаму размяшчэнню; затым трэба намеціць культурна-гістарычныя сілы, якія прывялі да таго, што перыметры вялікай колькасці новаўвядзенняў спыніліся ў той лініі ці ў тым раёне, дзе мы цяпер знаходзім узор ізаглос.

На гэты раз мы не будзем спыняцца на адмежаванні беларускага ідыш ад суседніх дыялектаў (паўднёва-ўсходняга і цэнтральнага), а сканцэнтруем увагу на ізаглосах, што праходзяць праз гэты масіў.

**§3.** Трэба прыняць пад увагу, што часавыя рамкі, у якіх адбывалася раздрабленне беларускага ідыш, параўнальна вузкія — значна больш вузкія, чым можа здацца на першы погляд, улічваючы ўпамянутую (у §1) даўнасць яўрэйскага насялення на тэрыторыі Беларусі. Гэта вынікае з карты №2. Дробнымі кропкамі адзначаны тут яўрэйскія абшчыны, якія з'явіліся паміж 1671 і 1775 г. Відавочна, што да 1650 г. ужо існавалі яўрэйскія абшчыны ва ўсіх значных гандлёвых цэнтрах Вялікага княства: у Віцебску, Полацку, Вільні і г.д. Густа заселены яўрэямі былі, аднак, толькі Брэсцкае і Навагрудскае ваяводствы і паўднёвыя часткі Трокскага і Віленскага. Справа гісторыкаў — растлумачыць, чаму хваля яўрэйскай міграцыі з захаду, якая ў гэты перыяд ішла такім інтэнсіўным патокам на Украіну, да 1650 г. пакідала ў баку большую частку Беларусі. Як бы там ні было, пачынаючы з перыяду казацкіх паўстанняў, спагнаўшых такую крывавую даніну з украінскага яўрэйства, міграцыйны паток яўрэяў павярнуўся на паўночны ўсход. Такім чынам, на працягу 125 гадоў, да першага падзелу Польшчы, напоўніліся яўрэямі Віленскае, Мінскае, Віцебскае, Полацкае і Мсціслаўскае ваяводствы.

Гэта храналагічная схема прыводзіць да вываду, што да спынення руху яўрэяў на ўсход, г.зн. па крайняй меры да сярэдзіны XVIII ст.[15], не маглі яшчэ існаваць тыя ізаглосы, якія ў сучасны момант перасякаюць беларускі ідыш. Павучальна ў гэтай сувязі карта №3, на якой указаны яўрэйскія назвы качкі. З двюх форм, *entl* і *kačke*, першая з'яўляецца больш старадаўняй (пар. зах.-яўр. *ant*[16] з сярэдневерхненям. *ente*). Форма *entl* не магла ўзнікнуць самастойна ва ўсходняй Беларусі, значыць, яна была імпартавана. Яна магла з'явіцца толькі разам з іміграптамі з Брэста-Навагрудка-Трок паміж 1650 і 1750 гг. Але калі б на захадзе Беларусі ў той час ужо панавала форма *kačke*, то перасяленцы на ўсход вывезлі б з сабой гэта слова, і формы *entl* на ўсходзе не было б. Вось чаму мы прыходзім да вываду, што да сярэдзіны XVIII

[14] Падрабязнасці ва ўказ. рабоце M.L.Wolf'a.

[15] Як паказвае карта, тэмп з'яўлення новых абшчын падае пасля 1750 г., так што ёсць падстава прыняць сярэдзіну XVIII ст. як рубеж галоўнай плыні рассялення.

[16] Ср. ар. U.Weinreich, Multilingual Dialectology and the New Yiddish Atlas, карта №3.




ст. *entl* і на захадзе было пераважнай формай.

Можна было б, вядома, дапусціць, што *entl* уваходзіла ў слоўнікавы фонд першапачатковых перасяленцаў, якія аселі да 1650 г. у больш буйных гарадскіх цэнтрах, і што гэта форма ў далейшым распаўсюдзілася адтуль па ўсіх новаўзнікаючых абшчынах усходняй Беларусі, выцясняючы імпартаванае *kačke*. Мала верагодна, аднак, што невялікія і нешматлікія старыя абшчыны былі ў стане накласці свой адбітак на больш познюю і моцную плынь перасяленцаў. Яшчэ менш верагоднай з'яўляецца трэцяя гіпотэза, паводле якой першапачатковая сінанімнасць *kačke-entl* на ўсёй прасторы беларускага ідыш у больш позні час была заменена тэрытарыяльным размежаваннем абазначэнняў *kačke // entl*. Аргумент, на першы погляд, заманлівы, што яўр. *kačke* магло абаперціся на форму *качка*, распаўсюджаную ў заходніх дыялектах беларускай мовы[17], абвяргаецца тым, што ўсходне-бр. *вутка* з свайго боку наўрад ці магло быць апорай для яўр. *entl*, нягледзячы на далёкую этымалагічную роднасць гэтых слоў. Цяжка прыпісаць радавым членам моўнай агульнасці такую кампаратыўную дальнабачнасць.

Такім чынам, мы сцвярджаем, што да сярэдзіны XVIII ст. беларускі ідыш быў ці аднастайным, ці бессістэмна змешаным; тэрытарыяльных размежаванняў яшчэ не магло быць. Можна прыняць гэты час як *terminus a quo* для крышталізацыі сучаснага ўнутранага геаграфічнага ладу беларускага ідыш.

Мы паспрабуем прааналізаваць падраздзяленне беларускага ідыш пад трыма загалоўкамі: уплыў з поўдня (§4); уплыў з паўднёвага захаду (§5) і раздрабленне на месцы (§6).

[17] Пар. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы (у далейшым — ДАБМ), карта №297.




**Паказальнік абследаваных пунктаў**

*За межамі БССР*

Лат. ССР: 1 — Лудза, 2 - Даўгаўпілс. Літ. ССР: 3 — Зарасай, 4 — Муснінкай, 5 — Вільнюс. Польшча: 6 — Ліпск, 7 — Беласток, 8 — Бельск-Падляскі, 9 — Клешчэле, 10 — Бяла-Падляска, 11 — Ломазы, 12 — Славатычэ. УССР: 13 — Ковель, 14 — Нуйна, 15 — Любешаў, 16 — Оўруч, 17 — Чарнігаў. РСФСР: 18 — Белае, 19 — Невель.

*У межах БССР*

Маладзечанская вобл.: 20 — Глыбокае, 21 — Камелішкі, 22 — Докшыцы, 23 — Куранец, 24 — Вілейка, 25 — Трабы, 26 — Валожын, 27 — Ракаў. Віцебская вобл.: 28 — Асвея, 29 — Кублічы, 30 — Лепель, 31 — Чашнікі, 32 — Бешанковічы, 33 — Колышкі, 34 — Орша, 35 — Слаўнае. Гродзенская вобл.: 36 — Гродна, 37 — Індура, 38 — Астрына, 39 — Іўе, 40 — Карэлічы, 41 — Вял. Бераставіца, 42 — Казлоўшчына. Мінская вобл.: 43 — Барысаў, 44 — Беразіно, 45 — Самахвалавічы, 46 — Дзяржынск, 47 — Узда, 48 — Нясвіж, 49 — Новыя дарогі. Магілёўская вобл.: 50 — Шклоў, 51 — Чавусы, 52 — Свіслач, 53 — Гайшын, 54 — Бабруйск. Брэсцкая вобл.: 55 — Малчадзь, 56 — Ружаны, 57 — Быцень, 58 — Ляхавічы, 59 — Камянец, 60 — Пружаны, 61 — Малеч, 62 — Брэст, 63 — Драгічын, 64 — Пінск, 65 — Лемяшэвічы. Гомельская вобл.: 66 — Жлобін, 67 — Азарычы, 68 — Тураў, 69 — Калінкавічы, 70 — Гомель.

**§4. Углядаючыся ў карту №4[18], мы заўважаем ступеньчаты рад яўрэйскіх „гарызантальных“ ізаглос (да беларускіх ізаглос на гэтай карце мы вернемся). Гэтыя лініі пераняты з Атласа Л.Віленкіна і таму заканчваюцца на савецка-польскай граніцы, якая папярэднічала Другой сусветнай вайне. Вось яны[19]: 1 — *ž* // *z* перад націскным і (напр. *zilber* 'серабро'); 2 — ненаціскное *em* // *om* у канцы слова (напр. *ojlem* 'публіка'); 3 — паслядоўнае ўжыванне *o* // ваганне з *oj, uv* у слове *grojer* 'шэры'; 4 — рэшткі *u* // паслядоўнае *oj* у словах тыпу *bojx* 'жывот'; 5 — ненаціскное *ex* // *ax* у канцы слова (напр. *lajlax* 'прасціна'); 6 — *ž* // *z* перад *i, e* ў паслянаціскным складзе (напр. *buzem* 'пазуха'); 7 — *o* // *oj* у слове *blojer* 'сіні'; 8 — захаванне // знікненне *av* у слове *gedójern* 'прадаўжацца' (г.зн.**

[18] Дзеля нагляднасці лічбы, якія абазначаюць асобныя пункты, не паўтораны на картах №№4 і наст. Пункты лёгка могуць быць ідэнтыфікаваны шляхам параўнання з картай №3.

19 Першая названая форма ў кожным выпадку адносіцца да поўначы. Лексічныя прыклады падаюцца ў дужках у літаратурна-яўрэйскай форме. Крыніцай сямі ізаглос з'яўляюцца карты Л.Віленкіна №№68, 59, 33, 38, 60, 67, 34, 41, 40.




*gedávern*); 9 — рэшткі *av* // рэшткі *ov* у слове *zojer* 'кісла'. У кожным з гэтых выпадкаў паўднёвая форма ў беларускім ідыш супадае з формай, прынятай ва ўкраінскім ідыш (ці, па крайняй меры, у яго паўночных разнавіднасцях). У большасці выпадкаў (1, 4, 5, 6, 8) паўднёвыя формы супадаюць таксама з формамі, якія пераважаюць у літаратурным ідыш. Цяжка ўявіць, каб формы, якія супярэчаць літаратурнай норме, маглі ў разглядаемы перыяд распаўсюдзіцца ў паўднёвым напрамку з якога-небудзь невядомага цэнтра на поўначы. Куды больш верагодна, шо формы, якія супадаюць з нормай, распаўсюдзіліся з поўдня — з Кіеўскага краю, з Валыні.

У суседнім яўрэйскім дыялекце Украіны мы натыкаемся на падобныя з'явы пранікнення з поўдня на поўнач. На тэрыторыі, дзе па сведчанню Атласа Л.Віленкіна, пануе вымаўленне *grojser* 'вялікі' (пар. карту №1), выяўляецца паласа форм *ex* / <*ejx*; літар.-яўр. *ojx* 'таксама'). Размяшчэнне гэтай паласы наводзіць на думку, што тут даўняе *ej* (акрамя спецыяльных кантэкстаў, напр. перад *x*) было выцеснена паўднёвым *o*. Не менш пераканальна, што ў даволі значнай паласе паўночнай Украіны пануе *-ix-*, *-iz-* супраць паўднёвых *-ex-*, *-ez-* і паўночных, найбольш старадаўніх *-ux-*, *-uz-* (у словах тыпу *pux* 'пух', *kurc* 'каротка'[20]). Відавочна, мы маем тут справу з тэрыторыяй, у якой даўнейшае *u* ў параўнальна позні час было заліта агульным паўднёвым *i* насуперак „законнаму" пераходу *ux, uz* / *ix, iz* / *ex, ez*.

Мы прапануем разглядаць як праяўленне аднаго і таго ж працэсу абедзве групы пранікненняў, а іменна: (1) зыходзячыя з поўдня новаўтварэнні ў межах украінскага ідыш і (2) новаўтварэнні, якія праніклі ў беларускі ідыш і паказаны ў ступеньчатым радзе ізаглос на карце №4.

Вельмі магчыма, што на карце №5 мы

[20] Гл. M.Weinreich, On the Dinamics of Yiddish Dialect Formation, „The Field of Yiddish", II, The Hague 1965.




маем справу з лексічным узорам таго ж пранікнення з поўдня на поўнач. Не менш дзевяці разоў мы знаходзім запазычаную форму *stol'e* 'столь' у яўрэйскай мове на поўнач ад тэрыторыі, дзе яна ў цяперашні час прынята ў гаворках беларускай мовы. Яшчэ больш кідаюцца ў вочы мясцовасці, у якіх яўрэйскія інфарманты падалі форму *stel'e*: гэтыя формы высунуты асабліва далёка на поўнач у параўнанні са славянскай тэрыторыяй, з якой гэта слова паходзіць.

§5. Другі геаграфічны працэс, які можна канстатаваць на аснове дыялектаграфічнага матэрыялу — гэта ўплыў з паўднёвага захаду, які зыходзіць з цэнтраў Брэст-Навагрудак-Гродна. Як ужо было паказана (§3), гэты раён з'яўляецца калыскай беларускага ідыш. Відавочна, гэты раён працягваў распаўсюджваць моўныя навіны для ўсяго яўрэйскага насельніцтва Беларусі і пасля таго, як ён перастаў пастаўляць перасяленцаў.

Бясспрэчныя прыклады такога пранікнення, заснаваныя на Атласе Л.Віленкіна, прыведзены на карце №6[21]. Ізаглоса 1 — паўночна-ўсходні фронт аднаўляемай апазіцыі *c:č* (супраць адзінай афрыкаты); ізаглоса 2 — адпаведны фронт апазіцыі *s:š*. Яўрэйскае „соканне“, якое ўзнікае ў нас перад вачамі, відавочна узнікла, у згодзе з выкладам у §3, у паўднёва-заходнім раёне Беларусі ў даволі ранні перыяд, каб паспець распаўсюдзіцца па ўсяму Вялікаму княству Літоўскаму. Пазней, уяўляецца нам, той жа раён прыступіў да аднаўлення апазіцыі паміж шыпячымі і свісцячымі. У пазнейшы час гэта аднаўленне было падхоплена літаратурнай нормай і распаўсюдзілася ўжо не на прасторавым, а на сацыяльным базісе[22]; але на картах Л.Віленкіна яшчэ вырысоўваецца максімальны ахоп прасторавага прасоўвання. Форма *gix* 'скора' замест старэйшага *gex* (пар. сярэдневерхненям. *gāch*, новаверхненям. *jäh*), абмежаваная з паўночнага ўсходу ізаглосай 3, таксама з'яўляецца наваўвядзеннем з падобным геаграфічным распаўсюджаннем (адносна беларускага пучка ізаглос *a-b*, гл. §8).

Дынаміка і адносная маладосць яўрэйскіх моўных працэсаў у Беларусі яшчэ больш яскрава праяўляецца на карце №7. Як зазначыў у свой час В.М.Жырмунскі[23], стары дыфтонг на *u* (праяўрэйскі $u_4$) у словах тыпу *mojl* 'рот' у некаторых месцах Беларусі быў выцеснены спачатку дыфтонгам *uj*, а затым дыфтонгам *oj*. На карце №7 відаць, што пераход *uj-oj*

[21] Асновай нашых ізаглос №№1-3 з'яўляюцца карты №№69, 71 і 25 у Атласе Л.Віленкіна.

[22] Гл. U.Weinreich, Sábesdiker losn in Yiddish (указ. тв.), ст. 374 і прыведзеную там бібліяграфію.

[23] В.Жырмунскі, указ. тв., ст. 143. Крыніца для гэтай карты — Атлас Л.Віленкіна, карты №№35-41.




(ізаглоса II) на поўначы не дагнаў пераходу */o/u-uj* (ізаглоса I); на поўдні пераход *uj-oj* настолькі перагнаў */o/-uj*, што ніякай прамежкавай зоны з *uj* паміж старым */o/u* і навейшым *oj* на карце няма. Карта №7 таксама паказвае рэліктныя „кішэні", у якіх гэтыя пераходы к канцу дваццатых гадоў XX ст. яшчэ не паспелі захапіць усіх слоў, у якіх яны прынцыпіяльна прымянімы.

У сувязі з гэтым варта звярнуцца да карты №3. Паказаны там лексічны настаўвор — форма *kačke* ўзамен старэйшага *entl* — мае прыблізна той жа цэнтр і такі ж радыус, як фаналагічныя новаўвядзенні, якія адзначаны на картах №№6 і 7. Можна лічыць, што ў поўным матэрыяле Нью-Йоркскага Атласа знойдзецца нямала граматычных і лексічных прыкладаў гэтага пранікнення.

У параўнанні з пранікненнем з поўдня, у разгледжаным §4, уплыў з паўднёвага захаду і больш новы, і больш выразны. Карта №40 у Л.Віленкіна дазваляе расшыфраваць складаную карціну і расставіць адлюстраваныя там арэалы пад вуглом зроку адноснай храналогіі. Няма сумнення, што расшчапленне паміж *u* і *oj* у слове *zojer* 'кісла' пакрывае больш ранняе размеркаванне *zover // zaver // zoer, zuer*. Калі так, то пытанне аб часавым парадку моўных з'яў (гл. §3) становіцца яшчэ больш цікавым. У межах усяго 200 гадоў прыдзецца, відаць, выдзеліць два падперыяды: першы, у якім пераважаў уплыў з поўдня, і другі, у які накіроўваючая роля перайшла да паўднёвага захаду.

У адносінах да карты №3 узнікае яшчэ адно важнае пытанне. Як паказвае штрыхоўка, у заходніх гаворках беларускай мовы таксама распаўсюджана слова *качка*. Хоць межы адпавядаючых арэалаў супадаюць не ва ўсіх дэталях, падобнасць ізаглос увогуле здзіўляючая. (Нельга не ўлічваць, што беларускія матэрыялы на 20-25 гадоў маладзейшыя за яўрэйскія і




адлюстроўваюць пераважна сельскае асяроддзе). Дапускаючы, што і беларускія, і яўрэйскія формы ў рэшце рэшт узыходзяць да польскага *kaczka*, мы павінны запытаць: ці запазычыў ідыш гэта слова непасрэдна з польскай[24], ці можа яно пранікла ў ідыш праз беларускую мову?

Карта №3 сама па сабе не вырашае гэтай загадкі: мы набліжаемся, аднак, да рашэння пытання пры дапамозе карты №8 (назвы падлогі).

На першы погляд гэта карта не менш двухсэнсоўна, чым №3, так як і тут ахоп паралельнай навізны ў беларускай і яўрэйскай мовах амаль тоесны. Характэрна, што яўрэйскія формы запісаны выключна з [g], у той час як беларускія формы, відавочна, вымаўляюцца з [γ][25]. Па правілу беларускае паслянацыскное міжвакальнае [γ] перадаецца ў ідыш у лексічных запазычаннях як *h, j* ці нуль (пар. *смага* 'засохлая сліна' >*smahe, smaje; крыга* 'льдзіна' >*krie* і г.д.). Калі б назва падлогі ў заходнебеларускім ідыш узыходзіла да мясцовых беларускіх гаворак, яна б гучала **padlohe*, **padloje*. Таму трэба лічыцца з польскім паходжаннем яўрэйскага слова. З другога боку, нельга не заўважыць пераднацыскнога *a* — як быццам бы гаворачыя па-яўрэйску падверглі аканню кожны распазнавальны славізм, нягледзячы на яго сапраўднае паходжанне і наперакор існуючай у мове апазіцыі пераднацыскных *a:o* (напр. *xazej-rim* 'свінні', *zolile* 'божа ўпасі').

Вядома, беларуская мова зрабіла ўплыў

[24] У польскім ідыш качка таксама абазначаецца формай *kačke*; пар. U.Weinreich, Multilingual Dialectology and the New Yiddish Atlas (указ. тв.), карта №2.

[25] У кн. Нарысы па беларускай дыялекталогіі (Мінск, 1964, ст. 104) фрыкатыўнае вымаўленне фанемы [γ] упамінаецца сярод агульнабеларускіх рыс (за выключэннем нямногіх „іншамоўных" слоў).




на ідыш і садзейнічала афармленню яго геаграфічнага ладу; прыклады будуць прыведзены ніжэй (§6). Але гэты ўплыў ніколі не быў агульным: кожнае запазычанне — як мы ўжо бачылі ў сувязі з картай №5 — мае сваю гісторыю[26]. Аналіз карты №8 даказвае, што нават адносна польскага уплыву, якому былі падвергнуты як ідыш, так і беларуская мова, патрэбна адшукаць у кожнай моўнай агульнасці свае асобныя шляхі зносін з захадам. Да падобнага вываду мы прыйдзем у сувязі з пытаннем рускага ўплыву (§8).

Але карта №8 задае новую загадку: паходжанне яўрэйскага сіноніма на ўсходзе Беларусі — *brik*. Спакусліва прыняць гэта слова за месную кальку бр. *мост*, г. зн. расшырэнне сэнсу 'мост праз раку' па ўзору беларускага слова[27]. Аднак, *brik* у значэнні „падлога" існуе таксама ў ідыш заходняй Украіны і Румыніі[28]. Трэба, значыць, рэканструяваць для ідыш на ўсходнеславянскай тэрыторыі дзве стадыі: першая — у якой узнікла *brik*, калькіраванае па ўзору укр. *міст*, бр. *мост*; і другая — у якой польскае *podłoga* паралельна ў яўрэйскай і ўсходнеславянскіх мовах займае ўсё большую тэрыторыю. Так як яўрэйскі матэрыял у гэтых адносінах паддаецца храналагічнаму тлумачэнню, ён можа быць карысным у датаванні паралельных працэсаў і ва ўсходнеславянскіх мовах.

Заўважым між іншым, што пытанне кантактаў паўночна-ўсходняга ідыш з польскай мовай далёка не простае. На нашых картах фактычна адлюстраваны два віды ўздзеяння польскай мовы на паўночна-ўсходні ідыш: (1) „буйнагарадскія словы распаўсюджваюцца скачкамі, не падпарадкоўваючы ўсёй тэрыторыі (пар. *sufit* на карце №5); (2) польскае слова адначасова пранікае геаграфічным шляхам у ідыш і ў катэрытарыяльныя ўсходнеславянскія гаворкі. Гэты апошні від падраздзяляецца на два падвіды: (2/а)

[26] У такой жа меры аказваецца непрадбачаным спецыфічнае геаграфічнае размеркаванне яўрэйскіх форм старажытнаяўрэйскага паходжання. Гл. брашуру аўтара Ha'ivrit haaškenazit veha'ivrit sĕbeyyidiš: bexinatan hageografit / Ашкеназійская старажытнаяўрэйская мова і старажытнаяўрэйскі кампанент у ідыш: геаграфічны аспект (на мове іўрыт), Іерусалім, 1965, (адбітак ад журнала „Lešonenu", XXIV (1959-60), №3-4; XXV (1960-61), №№1, 2).

[27] Толькі такім чынам можна зразумець з'яўленне ва ўсходняй Беларусі яўр. *barg* у значэнні *гары* /< 'гора'; пар. бр. *гара* (ДАБМ, карта №259).

[28] У.Вайнрайх. О новом атласе еврейского языка и еврейской культуры (указ. тв.), гл. карту на ст. 51.




паланізмы, якія занялі толькі частку ўсходняга ідыш (пар. *padloge // brik* — карта №8); (2/б) паланізмы, якія не маюць сапернікаў другога паходжання на ўсім працягу ўсходняга ідыш (пар. *blote* 'балота'; *vonc* 'вусы'; *blondžen* 'блудзіць'). З другога боку, існуюць словы, якія перайшлі з мясцовых польскіх гаворак у катэрытарыяльныя яўрэйскія гаворкі. Да гэтай катэгорыі належыць і *polap* (на карце №5), *pódlege* (на карце №8); апошняя форма — гэта запазычанне-дублет, заснаванае на іншым акцэнталагічным механізме[29].

**§6.** Трэці фактар, які ўздзейнічаў на геаграфічны контур беларускага ідыш — гэта прамы ўплыў з боку беларускіх дыялектаў. Пры ўсіх сумненнях аб месным характары славянскага ўздзеяння, выказаных у сувязі з прыкладамі *padloge* і *kačke* (§5), наяўнасць і такога ўплыву бясспрэчна — асабліва ў лексіцы[30]. Яркімі ўзорамі з'яўляюцца карты №9 (назва праніка для бялізны) і №10 (вокліч для падзывання курэй; абрэзанымі знакамі памечаны падказаныя адказы інфармантаў). Па сведчанню гэтай апошняй дамашнія жывёлы ў яўрэйскіх і беларускіх гаспадарках відавочна разумелі тую ж мову. Параўнальны прагляд матэрыялаў Нью-Йоркскага яўрэйскага Атласа і ДАМБ дае шматлікія прыклады такога роду супадзенняў[31]. Аднак і тут патрэбна асцерагацца спрашчэнняў. Так, яўр. *ózere* 'возера' распаўсюджана па ўсёй Беларусі, але магло быць запазычана — мяркуючы па карце №47 ДАБМ — толькі

[29] Пар. E.Green, Stress Contrasts in the Slavic Component of Yiddish, „The Field of Yiddish", vol.III, The Hague, 1966 (у друку).

[30] Фаналагічных і граматычных уплываў, дыферэнцыраваных па вобласцях, мы пакуль у матэрыялах нью-йоркскага Атласа не знайшлі. З'явы дзекання, акання і г.д., пра якія пісаў Н.Штиф, заўважаны амаль толькі ў лексічных запазычаннях, так што ўздзейнічанне сістэмы на сістэму не даказана. Пар. Н.Штиф, Диалектологическая экспедиция Кафедры еврейской культуры (на яўр. мове), „Di jidiše šprax".

[31] Больш ці менш дакладнае супадзенне паміж арэаламі яўрэйскіх сінонімаў і арэаламі іх крыніц ці прататыпаў у беларускіх дыялектах наглядаецца ў наступных выпадках (у дужках — нумар карты ДАБМ) 'журавель у калодзежы' — ocep, asvír, kl'u(č)ke (244); 'коўш' — kendl, kvort, emer (калькі, 248); 'каромысла' — karómisl(e), karómislik, nascenoses (249); 'бараніць' — broneven, valo(j)cen (266); 'гладыш для малака' — bun'ke, ladis(cik), ladiska, hlades, harlačik, krigl (калька 250); 'рэпа' — brukve, bručke, grižene, kručke, gručke (276); 'гной' — navoz, (h)noj (284); 'бык' — bik, buhaj, bu, bajk ( < bik x buhaj? 290); 'хрысціянскія могілкі' — mahilkes, mohelkes, mahilnik, kládbišče, cmentaš, cvinter (318).




ў паўднёва-заходняй частцы, бо толькі там гэта слова вымаўляецца без пратэтычнай зычнай. Калі дазволіць сабе праектаваць сучасныя дадзеныя карты №47 ДАБМ у мінулае (праўда, мала вывучанае з пункту погляду храналогіі пратэзы), трэба прыйсці да вываду, што стары мясцовы беларусізм распаўсюдзіўся ў ідыш па ўсёй Беларусі, нідзе не паддаючыся пранікненню магчымых дублетаў **vózere, *hózere.*

**§7.** У заключэнне трэба супрацьпаставіць формы ўплыву рускай мовы на яўрэйскую мову ў Беларусі і на беларускую мову. На падставе карты №5 можна прыйсці да думкі аб істотнай розніцы паміж гэтымі мовамі. Для беларускай руская мова — паўночны і ўсходні сусед, і рускія ўплывы выяўляюцца ў пэўна тэрытарыяльнай канфігурацыі. У адносінах жа да ідыш руская мова знаходзіцца не ў стане суседа, а ў стане функцыянальнага суіснавання. Як відна на карце, русіцызм *patalók* у яўрэйскай мове прадстаўлен не ў суседстве з рускай моўнай тэрыторыяй.

**§8.** Для таго, каб хоць у сціслым выглядзе параўнаць геаграфічны лад яўрэйскай і беларускай мовы, вернемся да карт №№4 і 6. На карце №4 паказаны штрыхоўкай тры галоўных пучкі ізаглос, якія падзяляюць беларускую мову на галоўныя дыялектныя раёны[32]. Паміж рознамоўнымі пучкамі яўрэйскіх і беларускіх ізаглос выяўляецца глыбокае разыходжанне, якое наводзіць на думку, што няма сувязі ў дынаміцы прасторавай дыферэнцыяцыі гэтых катэрытарыяльных моў. Сапраўды, прымаючы пад увагу храналогію яўрэйскага рассялення і дыялектнага развіцця (§3), відавочна, што беларуская мова афармілася яшчэ да таго часу, калі пачалася ўнутраная дыферэнцыяцыя ідыш; кожная мова рэагавала на іншыя грамадскія стымулы. Але не выключана магчымасць, што сярод больш новых канвергентных з'яў на беларуска-украінскім пагранiччы[33] пры паглыбленым вывучэнні знойдуцца павучальныя

[32] У гэтай сувязі аўтар спасылаецца на работу П.М.Гапановіча і Ю.Ф.Мацкевіч, О классификации белорусских диалектов, ВЯ, 1959, №6. Адпаведнікі паміж нашымі лініямі і лініямі ў данай рабоце такія: Ia = 8:2 (г.зн. карта №8, ізаглоса №2 у Гапановіча і Мацкевіч; пар. ДАБМ 175); Ib = 8:4 (ДАБМ 1); IIa = 2:1 (ДАБМ 97); IIb = 2:2 (ДАБМ 3); IIIa = 5:1 (ДАБМ 1); IIIb = 5:4 (ДАБМ 158).

[33] Ф.Т.Жилко, Перехідні говіркі від української до білоруської мови в північно-західних районах Чернігівщини, „Діалектологічний бюлетень", вып. 4, Кіеў, 1953; яго ж, Деякі питання класифікації говорів української мови в світлі даних лінгвістичної географії, „Філологічний збірник", Кіеў, 1958; яго ж, Особенности диалектных границ украинского языка, „Вопросы диалектологии восточно-славянских языков", М., 1964; Т.В.Назарова, Украинско-белорусская граница в районе нижней Припяти, там жа.

паралелі і з яўрэйскімі з'явамі, паказанымі на карце №4 і ахарактарызаванымі ў §4.

Наадварот, на карце №6 мы заўважаем даволі дакладную адпаведнасць паміж яўрэйскімі і беларускімі пучкамі ізаглос, нягледзячы на тое, што беларускія факты, распаўсюджанне якіх абмежавана гэтым пучком, па сутнасці сваёй зусім іншыя, чым яўрэйскія[34]. Была выказана думка[35], што асноўны пучок беларускіх ізаглос, які тут адлюстраваны, узыходзіць к даўнейшай граніцы паміж Смаленскай і Полацкай землямі, Турава-Пінскім княствам і Чорнай Руссю. Калі беларуская граніца настолькі старажытная, гэтае супадзенне магло б здавацца толькі выпадковым. Але з другога боку, іменна яўрэйскія даныя параўнальна невялікай даўнасці маглі б (поруч з познімі беларускімі новаўтварэннямі, якія да гэтага часу яшчэ мала вывучаны) служыць довадам таго, што даўнейшая граніца княстваў і пазней па якіхсьці прычынах захавалася ў камунікатыўнай сеці краіны.

Такім чынам, наш разгляд геаграфічнага ладу беларускага ідыш пацвярджае агульны вывад, да якога прывёў папярэдні аналіз і іншых частак матэрыялу Нью-Йоркскага яўрэйскага дыялекталагічнага атласа: ідыш ва ўсёй еўрапейскай дыяспары развіваўся ўласнай дынамікай. Ні аднаго факта, які датычыць структуры ідыш, нельга прадказаць на падставе ўстаноўленых фактаў аб катэрытарыяльнай ці функцыянальна суіснуючай (старажытнаяўрэйскай) мове[36]. Разам з тым, дынаміка развіцця ідыш не зразумела па-за рамкамі агульнай палітычнай, грамадскай і культурнай гісторыі Еўропы. Канкрэтныя гісторыка-геаграфічныя сувязі паміж ідыш і катэрытарыяльнымі мовамі са свайго боку іншы раз асвятляюць гісторыю і гэтых моў.

[34] Беларускія ізаглосы a-b на нашай карце №6 асноўваюцца на карты ДАБМ №№149, 153 і 157. Яны схематызаваны згодна з картай №7 (лініі №№1, 3 і 7) ва ўказ. тв. Гапановіча і Мацкевіч.

[35] Нарысы па беларускай дыялекталогіі, ст. 401.

[36] Акрамя вышэйуказаных работ аўтара, гл. яго ж, Yiddish and Colonial German: the Differential Impact of Slavic, „American Contributions to the Fuorth International Congress of Slavicists, Moscow, 1958", The Hague, 1958, стар. 411-413.

*Сьвятлана СЯЛЬВЕРСТАВА-КУЛЬ*

# *Гарадзенскі друкар Зымель Нахімовіч*

У гісторыі выдавецкай справы на Беларусі гэбрайскія друкары запісалі шмат цікавых старонак. Многае сёньня застаецца пакуль што па-за ўвагай дасьледнікаў, у тым ліку і значэньне дзейнасьці гэбрайскіх друкарняў ня толькі для разьвіцьця гэбрайскай культуры, але і ўвогуле культуры Беларусі. Такой невядомай старонкай зьяўляецца і дзейнасьць найбуйнейшай у першай палове XIX стагодзьдзя на сучаснай тэрыторыі Беларусі выдавецкай фірмы Зымеля Нахімовіча.

Пачатак выдавецкай фірмы ў Горадні паклаў бацька Зымеля — Нахім Гісэр, які прыехаў у горад па запрашэньні падскарбія літоўскага і гарадзенскага старасты Антонія Тызэнгаўза[1]. У гэты час Тызэнгаўз наладзіў у Горадні друкарню, варштаты якой былі перавезены сюды зь езуіцкай друкарні зь Вільні. Але шрыфты там былі ўжо старыя, спрацаваныя, акрамя таго, гарадзенская друкарня Тызэнгаўза ўвесь час пашырала выпуск друкаванай прадукцыі: наладзілі друкаваньне газэты, выпускалі копіі соймавых прамоваў, адвакацкія позвы, навуковыя трактаты. Таму менавіта Тызэнгаўз і запрасіў з Галіцыі бацьку Зымеля Нахімовіча, які быў вядомы як выдатны гісэр (адсюль — прозьвішча), г. зн. майстра па адліўцы шрыфтоў. Сям'я Нахіма Гісэра прыехала ў Горадню 22 лютага 1785 году[2]. На жаль, пакуль не вядома прыкладная дата нараджэньня Зымеля Нахімовіча. Як сьведчаць дакумэнты, яшчэ ў 80-я гады XVIII стагодзьдзя ён быў вучнем у бацькоўскай майстэрні па адліўцы літар і менавіта там атрымаў першыя ўрокі друкарскага мастацтва.

Пасьля далучэньня заходніх земляў Беларусі да Расійскай імпэрыі гарадзенская друкарня Тызэнгаўза часова перапыніла сваю дзейнасьць. Гэта было зроблена ў сувязі з загадам Кацярыны II ад 30 кастрычніка 1794 году аб закрыцьці і перавозе ў Вільню ўсіх друкарняў, што працавалі на захадзе Беларусі[3].

Першыя гады цараваньня Аляксандра I, пазначаныя лібэральнымі пачынаньнямі, адкрылі магчымасьць для аднаўленьня друкаваньня ў Горадні. Аднавіў справу бацькі і Зымель Нахімовіч. Пэўна, яшчэ ў самым пачатку стагодзьдзя ён пачаў адліваць шрыфты, а ў 1808 годзе адкрыў друкарню[4]. Па іншых зьвестках друкарня Нахімовіча ў хуткім часе стала найлепшай ня толькі на тэрыторыі Беларусі. Слава аб майстэрстве гарадзенскага гісэра дайшла да Варшавы, Украіны. Нахімовіч адліваў і вырэзваў друкарскія літары для рэдактара старэйшай на Беларусі газэты „Кур'ер Літоўскі" Антонія Марціноўскага, для друкарні віленскіх ксяндзоў-місіянэраў, дзяржаўнай друкарні Царства Польскага, друкарні кармэлітаў у Бярдзічаве і многіх іншых. Работу Зымеля Нахімовіча, як майстра адліўкі літар, неаднаразова адзначаў выдатны выдавец і бібліятэкар, кіраўнік друкарні і бібліятэкі Віленскага ўнівэрсытэту Язэп Завадзкі. „Спадар Зымель Нахімовіч, — пісаў Завадзкі ў 1816 годзе, — ня толькі аказаў паслугу друкарні ўнівэрсытэцкай, але і паказаў сябе як надзвычайны майстра ў адліўцы друкарскіх літар настолькі, што адлітыя для ўнівэрсытэцкай друкарні шрыфты і іншыя прыналежнасьці нічым не саступаюць замежным"[6].

Друкарня, адкрытая Зымелем Нахімовічам у Горадні, аказалася эканамічна выгодным прадпрыемствам. Да 1820 года яна ня мела ў Гарадзенскай губэрні канкурэнтаў. Нахімовіч, такім чынам, мог друкаваць ня толькі па замовах прыватных асобаў, але таксама выконваць і дзяржаўныя працы. Ужо праз некалькі год пасьля адкрыцьця друкарні Нахімовіч здолеў пашырыць аб'ём вытворчасьці, закупіў частку друкарскага рыш-

---

**Сьвятлана Сяльверстава-Куль — дацэнт кафэдры гісторыі Гарадзенскага дзяржунівэрсытэту.**

тунку ў старшыні Гарадзенскага гарадавога магістрата — Урублеўскага[7]. У гэты час у Горадні друкаваліся, галоўным чынам, польскамоўныя кнігі, але выходзіла таксама літаратура на лаціне, нямецкай мове. Рэпэртуар друкарні Зымеля Нахімовіча быў вельмі разнастайным. Значную частку друкаванай прадукцыі складалі адвакацкія прамовы і іншыя судовыя і афіцыйныя дакумэнты. Друкаваліся панэгірыкі ў адрас паноўных асобаў, чыноўнікаў, мясцовых магнатаў. Сустракаліся таксама перакладныя творы і арыгінальныя сачыненьні. Сярод апошніх — „Вершы“ Шукевіча, драматычныя творы Тамашэўскага, „Кароткі нарыс пачатковай гісторыі літоўскага народу“ Т.Нарбута, „Курс маральнасьці“ Багушэўскага і іншыя[8]. На працягу некалькіх гадоў друкарня Зымеля Нахімовіча друкавала пэрыядычны „Каляндар Віленскага ўнівэрсытэту“ і некаторыя іншыя падобныя выданьні[9].

У хуткім часе гарадзенская выдавецкая фірма пераўтварылася ў буйное прадпрыемства: Нахімовіч адкрыў філіялы ў Бярдзічаве, Вільні, заснаваў гэбрайскую друкарню ў Язерах. Гэтая апошняя працавала больш двух дзесяцігодзьдзяў. Узначальваў гэтую друкарню сын Зымеля Нахімовіча — Мойша[10]. Найбольш значным выданьнем язерскай друкарні быў Талмуд на іўрыце, друкаваньне якога пачалося напачатку 30-х гадоў. Нахімовічы пасьпелі выдаць ў Язерах толькі тры тамы Талмуду. У 1835 годзе друкарня вымушана была перапыніць сваю дзейнасьць. У гэты час царскія ўлады, заклапочаныя пераўладкаваньнем жыцьця гэбраяў у Расійскай імпэрыі (прыгадаем, што ў 1835 годзе выйшла новае заканадаўства ў гэтай справе), зьвярнулі ўвагу на дзейнасьць гэбрайскіх друкарняў і наогул распаўсюджаньне літаратуры на іўрыце. Цэнзураваць гэтую літаратуру было цяжка, паколькі царскія цэнзары, як правіла, не валодалі старажытнагэбрайскай мовай. Цэнзары гэбрайскіх выданьняў працавалі толькі ў Вільні, Кіеве і Варшаве, а літаратуры на іўрыце было так многа, што гэтыя тры чалавекі не давалі рады нават прагледзець сьпісы прывезеных кнігаў. Толькі адна гандлёвая фірма Сэндэра Шлемавіча і Еселя Генасовіча з Валыні прывозіла на Беларусь больш чым на 200 чырвонцаў кніг штогод[11]. Таму менавіта 13 і 27 кастрычніка 1836 года выйшлі царскія ўказы, рэгляментуючыя работу гэбрайскіх друкарняў. Загадана было ўсе кнігі, выдадзеныя без цэнзуры, на працягу году падаць на разгляд мясцовага начальства, а друкаваньне кнігаў у далейшым дазволіць толькі ў Вільні і Кіеве, дзе ёсьць адпаведныя цэнзары.[12] Такім чынам, друкаваньне пятнаццацітомнага Талмуду ў Язерах спынілася на трэцім томе, а чацьверты выйшаў ужо ў віленскім філіяле выдавецкай фірмы Нахімовічаў.

З посьпехам пачатая справа гарадзенскага прадпрымальніка Зымеля Нахімовіча, на жаль, зь цягам часу ўсё больш прыходзіла ў заняпад. Найбольш паўплывала на гэта дзейнасьць канкурэнтаў, а таксама палітыка царскіх чыноўнікаў. У Горадні найбольшую канкурэнцыю склала выдавецкай фірме Нахімовіча губэрнская друкарня, адкрытая ў 1820 годзе. Дарэчы, Нахімовіч сваімі рукамі рыхтаваў і прысьпешваў заняпад сваёй фірмы, адліваючы высокаякасныя шрыфты для канкурэнтаў ва ўласнай славалітні. У Вільні ў 20—30-я гады пачалі дзейнічаць некалькі прыватных друкарняў, у тым ліку мацнейшая фірма Завадзкага, які ў той час ужо пакінуў Віленскі ўнівэрсытэт і здолеў паставіць свае прадпрыемства на „шырокую нагу“, адкрываючы некалькі філіялаў, у тым ліку і на Ўкраіне. Канкураваць з Завадзкім Нахімовічу было цяжка. Не спрыяла разьвіцьцю друкарскай справы русіфікацыйная палітыка ўладаў. Скарачэньне сфэры выкарыстаньня польскай мовы, на якой, галоўным чынам, друкаваў Нахімовіч, скарачала і колькасьць замоваў. Жорсткімі сталі цэнзурныя правілы, узмацніўся нагляд паліцыі за дзейнасьцю друкарняў.

На жаль, сёньня пакуль што не вядомы дакладны лёс Зымеля Нахімовіча і ягоных двух сыноў, што працавалі ў выдавецкай фірме. Хутчэй за ўсё, у канцы 50-х гадоў яны вымушаны былі прадаць частку друкарскага абсталяваньня, а ў другой палове стагодзьдзя ў дакумэнтах толькі час ад часу сустракаецца імя Хацкеля Зымеліовіча, сына Зымеля, які ўжо ня змог паставіць выдавецкую справу на „шырокую нагу“.

Лёс Зымеля Нахімовіча — найбуйнейшага друкара і гісэра Беларусі — на працягу паўстагодзьдзя зьяўляецца ўвасабленьнем лёсу многіх гэбрайскіх прадпрымальнікаў і культурных дзеячоў першай паловы XIX стагодзьдзя. Неспрыяльныя ўмовы для камэрцыйнай

**дзейнасьці, выкліканыя, перш за ўсё, палітыкай уладаў, прыводзілі да заняпаду многія выдатныя пачынаньні. Адначасова, дзейнасьць Зымеля Нахімовіча, які, дарэчы, атрымаў ад удзячных гарадзенцаў годнасць ганаровага грамадзяніна, увасабляе тую ролю, якую адыгрывалі ў культурным і грамадзкім жыцьці Беларусі многія прадстаўнікі гэбрайскага народу.**

[1] VUBRS, F 2, KČ 57, в.7.

[2] Ten pat.

[3] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792-1796) Вильна, 1903-С.29.

[4] VUBRS, F. 2, KČ 57. в.8.

[5] БДГА ў Горадні. ф.1, воп.27, спр.277, арк.8.

[6] VUBRS, F2, KČ 57, в.7.

[7] Паходжаньне гэтага рыштунку дакладна ня высьветлена. У дакумэнтах сярод уладальнікаў называюць Ясінскага, пэўна — даўнейшага арандатара друкарні Тызэнгаўза. — БДГА, ф.1, воп.1, спр.1214, арк.3.

[8] Белоруссия в печати XIX-начала XX столетия. Библиография на иностранных языках. Ч.2.-Мн., 1983 — С.360-367.

[9] БДГА, ф.1, воп.19, спр.398, арк.1-3.

[10] Тамсама, воп.1, спр.1214, арк.9.

[11] Тамсама, спр.1041, арк.1.

[12] Тамсама, воп.19, спр.1151, арк.1.



*Эммануил ИОФФЕ*

# *Деятельность организации „Хашомер-Хацаир“ в Беларуси (1924-1926) и создание кибуца в Палестине*

Молодёжная сионистская организация „Хашомер-Хацаир“ возникла в России, Белоруссии и на Украине в 1922 г. Программа этой организации базировалась на синтезе сионизма и социализма. На учредительном съезде движения „Хашомер-Хацаир“ в 1922 году были сформулированы следующие задачи: оздоровление еврейского народа как физически, так и духовно; преодоление его ненормальной структуры; возобновление еврейской жизни в Эрец-Исраэль и приобщение еврейской молодёжи к национальным ценностям и физическому труду, в частности к крестьянскому. Тогда же родилось понятие „Ахшара“ — специальное воспитание для подготовки к жизни в Эрец-Исраэль.

В Белоруссии, как и в других республиках СССР, движение „Хашомер-Хацаир“ имело две ветви — левую и правую, — вернее, центристскую, ставившую перед собой общенациональные, а не классовые задачи. Эта организация (или движение) состояла из двух возрастных групп: от 12 до 16 лет (цофим-часовые или бойскауты) и от 16 до 20 лет (шомеры-стражи). Деятельность этой организации на территории БССР совершенно не исследована.

В Национальном архиве Республики Беларусь (фонд 4, оп.10, дд. II, 29) хранятся конфискованные ГПУ материалы сионистской организации евреев за 1924—1926 годы, которые насчитывают 554 листа. Среди этих материалов особый интерес вызывают информационный бюллетень №5 Главного штаба „Хашомер-Хацаир“ (июнь-август 1925 г.), который раскрывает количественный, организационный рост и политическую активность членов организации, увеличение её идейного влияния.

В докладе Главного штаба к 3-му съезду говорилось: „Три года назад робко выступил Союз („Хашомер-Хацаир“ — *Э.И.*) на евр. улицу.

И, несмотря ни на что, с боем беря каждую пядь почвы, рос Союз, и к третьей своей годовщине из маленькой кучки людей вырос в мощное юношеское и детское движение.

И вступая в четвёртый год своей работы, проверяет Союз свои ряды, подсчитывает свои успехи и поражения, для того, чтобы с обогащённым опытом вновь ринуться в бой за еврейскую социалистическую Палестину.

Первые два года были порой установления принципов работы. Первые два года основывалась шомерская организация. Третий год — это год проверки, год тяжёлой практической работы. Этот год особенно ценен своими выводами.

Стихийно растёт Союз. Сухой язык цифр ярче всего иллюстрирует это. Восемь организаций прислали своих представителей на первое оргсовещание (15 мая 1923 г.), ещё через 13 месяцев (июнь 1924 г.) — 54 организации. К 6-ой сессии (январь 1925 г.) — 104 организации и, наконец, к третьему сезону — 140 орга-

---

**Эмануіл Іофе, акадэмік Міжнароднай Акадэміі вывучэньня нацыянальных меншасьцяў, прарэктар Гэбрайскага ўнівэрсытэту (г.Менск), доктар гістарычных навук, прафэсар.**

низаций. За год — 200%. И это тогда, когда дважды был разрушен оргаппарат Союза, когда один за другим поменялись 4 состава Главного Штаба, когда сотни лучших товарищей были вырваны из наших рядов, брошены в тюрьмы, десятки угнаны в ссылку в далёкие гиблые края. Растёт и общая численность. Так, например, ко II съезду (июль 1924 г.) Северо-Западный округ насчитывает с трудом 500 человек. Сейчас в нём 1946 человек. Один только этот округ вырос за год на 300%. Не менее сильно растут и другие округа. Юго-Западный вырос на 100% в отношении общей численности членов...“[1].

Члены „Хашомер-Хацаир“ готовились к активной общественной жизни на территории Палестины. Они изучали историю сионистского движения, особенности Эрец-Исраэль, закаляли себя физически и духовно, упражнялись в искусстве пропаганды и агитации, в маршировке, обучались самоуправлению, приобретали некоторые навыки занятий сельским хозяйством.

Один из активных членов движения „Хашомер-Хацаир“ — Нехемия Маккаби в 20-е годы в Минске вспоминал:

„... Деятельность движения была чисто воспитательная. Нам старались привить физическую выносливость, умение ориентироваться в любых условиях, добровольную, сознательную дисциплину. Конечно, при этом не упускалась из виду конечная цель — алия в Эрец-Исраэль.

Занятия наши велись тайно. Устраивались походы в лес или безобидные лодочные прогулки по реке Свислочь. Забравшись в глухую чащу Комаровского бора, мы разбивали там палатки, строили шалаши, играли в спортивные игры и проходили военную подготовку, подавая команды на иврите. Всё это во многом напоминало детскую игру, но выглядело романтично и гордо. Мы маршировали под команду „смол-ямин“, искренне веря, что служим великой задаче воскресить наш народ и вернуться на Землю Обетованную“[2].

Архивные документы свидетельствуют и об успехах движения „Хашомер-Хацаир“ в работе цофим. Цофитат перестаёт быть „институтом воспитания“. Он превратился в мощное активное движение детей еврейских трудящихся. И, сообразно с этим, меняется характер работы с цофим. Вот что отмечает Главный штаб движения „Хашомер-Хацаир“: „Наши цофим твёрдо закреплены за организацией.... Они вполне достойны своих старших братьев-шомеров. Их работа — сплошной героизм. Каким только преследованиям не подвергают их? Исключают из школ, часть выгоняют из дому. Они стойко выносят всё. Не единичны случаи, когда при аресте поголовно всего цомотра (? нечётко — *Э.И.*) цофим, не растерявшись, сами организовывали руководящие органы вплоть до рай- и окрштабов и выдерживали всю тяжесть работы до приезда инструкторов „Хашомера“. С такой сменой шомерской организации нечего бояться за свою судьбу. Цофим всегда выполняют свой долг до конца...

Общая крепость цофим вызывает значительный успех борьбы с Юнгфельд за еврейскую детвору...“[3].

К III съезду изменился социальный состав организаций. „Хашомер-Хацаир“ не на словах, а на деле стал организацией еврейских трудящихся и тысячами нитей связан с массой этих трудящихся. В своём подавляющем большинстве шомеры и цофим — это дети еврейских трудящихся, рабочая молодёжь. Национально-классовые принципы движения перестали быть выдуманными. Они вытесали из социального состава „Хашомер-Хацаир“ и этим объяснялась идеологическая стойкость шомеров и цофим.

В докладе Главного штаба говорилось о двух больших кампаниях движения. Первая — это районные и окружные конференции, которые одобрили резолюции 6-ой сессии о перспективах шомерского движения. Это основа основ. Главный штаб и на этот раз верно наметил пути эволюции „Хашомера“. Крайне серьёзно стояли вопросы о Гахшаре, о борьбе с юными ленинцами, с правым „Хашомером“, о взаимоотношениях с „Югендом“. Все они получили разрешение.

В отчёте Главного штаба „Хашомер-Хацаир“ есть такие строки: „... Ни один вопрос не решается без участия представителей „Хашомера“. И в связи с этим растёт политический активизм шомеров, который выливается в форме активной внешней работы в разворачивание влияния среди неорганизованной трудящейся молодёжи. Растёт количество внешних

[1] Национальный архив Республики Беларусь (далей — НАРБ). ф.4. оп.10.Д.11. Л.7.

[2] Маккаби Н. Проблеск во мраке. 1991. С.32-33.

3 НАРБ.Ф.4.Оп.10.Д.11.Лл.10-11.

периферийных групп и даже „Югенд“ начинает видеть в них угрозы себе, недаром он всеми силами старается эту работу сорвать.

Минувший год (1924 — *Э.И.*) важен в жизни шомерской организации признанием её со стороны социалистической общественности. Два года назад мы не смели думать о переброске шомеров. Теперь по первому слову Главштаба десятки шомеров бросают семьи, службы, работу, вузы и идут на голод, тюрьму и ссылку, на всё во имя победы...“[4].

1 августа 1924 г. членами движения „Хашомер-Хацаир“ был создан кибуц в Палестине — в районе штаба города Эмек. Можно упрекнуть руководство Главного штаба движения в некотором преувеличении своих успехов, в некотором самолюбовании, но в основном это была трезвая оценка успехов Союза „Хашомер-Хацаир“. Более 70 лет назад руководители Главштаба движения отмечали:

“В общей оценке наших успехов и достижений самым большим является наш кибуц... Наши методы работы, наша система цофитата (нечётко написано — *Э.И.*) должна быть подвергнута суровому испытанию, и экзаменатором являлась сама жизнь. Нам пророчили отрыв от рабочей массы, превращение в касту. А это было бы началом гибели. Результаты превзошли ожидания. Медленно, но неуклонно и верно поднимал кибуц своё экономическое положение и наконец добился бездефицитного бюджета. Здорово и нормально растёт кибуц. Ведётся большая культурная работа. Великолепно отражается шомерский быт. Недавно кибуц отпраздновал первую шомерскую свадьбу. Новый быт создаётся. Наш кибуц — единственный в стране, где мужчины работают на кухне, стирке и других работах наравне с женщинами, а женщины во всех работах наравне с мужчинами. Кибуц тесно связан с рабочей массой. И в общей рабочей жизни кибуц играет большую роль. Так, при проведении 1-го мая вместе со всеми рабочими Эмека кибуц провёл огромную часть своей программы. Через спорткружки, хор, лекции медленно, но верно распространяет кибуц своё влияние. Десятки рабочих ежедневно посещают кибуц, зная, что найдут там тесную товарищескую семью, здоровые развлечения, хорошую лекцию или доклад. Десятки рабочих присутствовали на свадьбе. Пропаганда нового быта действием. Так ведёт кибуц свою работу. Шомерская подготовка не прошла бесследно. „Хашомер“ даёт верную смену рабочим страны. Кибуц делает нас и большое дело в работе загранделегаций. В ближайшее время в кибуц прибывает первая партия шомеров Латвии. Алия Латвии пойдёт целиком в наш кибуц. Так будет расти влияние нашего кибуца на работу Всемирного Союза...“[5].

Главный штаб „Хашомер-Хацаира“ вёл активную работу в Палестине. Её заграничная делегация организовывала в Тель-Авиве инструкторские курсы для подготовки младшего и среднего комсостава для еврейских организаций Палестины. Кибуц в Эмеке, в котором работали евреи из Белоруссии и других регионов СССР, готовил старший комсостав и для детского движения Эрец-Исраэль. В документе говорится: „Почва уже подготовлена во всём Эмеке, в Афиле, в Бальфурии и Тель-Авиве. Как только закончатся Тель-Авивские курсы, вся страна покроется сетью отрядов цофим. Кибуц важен для нас ещё тем, что все наши взгляды, все резолюции, проверяет на месте, применяя их к конкретной обстановке Палестины. Кибуц является верным нашим регулятором по отношению к стране. Он — наши глаза и уши. Мы боялись отрыва кибуца от Союза. Этого не случилось... Итак, первый экзамен-жизнь Союз выдержал и выдержал с честью...“[6].

Оценивая деятельность своего кибуца в разделе „Перспективы“, Главный штаб Союза „Хашомер-Хацаир“ подчёркивал, что кибуц — дисциплинированный, спаянный работой отряд. На тяжёлых работах и в трудных испытаниях проявились отличные качества кибуца. Шомеры „орабочились“, „срослись с рабочим классом Палестины“.

По мнению руководителей Главного штаба движения, успешный опыт работы в Эмеке позволяет сделать ряд выводов:

1) найден верный путь подготовки строителя Социалистической Палестины;

2) практическая закалка, лагеря, походы дали великолепный боевой материал для Палестины;

3) наш шомер, привыкший в своей братской семье к коллективному творчеству, является надёжным коллективистом[7].

[4] НАРБ. Ф.4. Оп.10.Д.ии. Лл.7-8.

5 НАРБ.ф.10.Д.ии.Лл.9,10.

[6] НАРБ.Ф.4.Оп.10.Д.II.Л.10.

[7] НАРБ.Ф.4.Оп.10.Д.II.Л.16

В заключении доклада Главного штаба движения отмечается, что основным принципом его деятельности остаётся практическое палестинское движение молодёжи, а ближайшими перспективами шомерского движения является претворение в жизнь принципов шомерского движения: практическою подготовки Гахшары и Алии[8].

В связи с этим акцентировалось внимание на следующем:

„... Некоторые, не в меру горячие головы думают, что можно этот процесс завершить уже сейчас. Мы полагаем, что это не так.

Прежде всего потому, что мы не имеем ещё единой партии рабочего класса Палестины и трудящихся голуса. На еврейской социалистической улице существует такое многообразие форм, такая страшная неразбериха, что трудно определить определённую ориентацию на определённую партию.

... Точнее, нужно определить ориентации на идеологию этих партий, которые нам нужны для политучёбы.

Такими партиями являются Ц.-С. (нечётко — *Э.И.*) и „Поалей-Цион".

Такими идеологиями — теории социалистического сионизма, пролетарского — Бороховизм и трудящихся — цээсизм..."[9].

В это время движение „Хашомер-Хацаир" стало жертвой террора со стороны ГПУ. Союз был загнан в подполье. Десятки шомеров были арестованы, сосланы в далёкие гиблые места, за сотни вёрст от железных дорог, за десятки вёрст от медицинской помощи. 17-20 шомеров ссылали в Киргизию, Казахстан, Узбекистан и Сибирь.

На территории БССР в ноябре 1924 г. было арестовано свыше 30 шомеров из Гомеля, Бобруйска, Речицы, Юрович, Калинкович, Мозыря, Хойник, Жлобина, Осиповичей и других населённых пунктов[10].

Начальник районной школы из Гомеля — Миля получил 5 лет политизолятора, а Абрам Златин был отправлен на 2 года в Киргизский край[11].

По три года ссылки в Киргизский край получили бобруйчане Моисей Фишман и Сёма Михалевич[12].

В связи с многочисленными арестами и преследованиями членов „Хашомер-Хацаир" 7-я сессия Союза приняла специальную резолюцию „О терроре в СССР". В ней говорилось:

„1. Несмотря на укрепление Советского Союза в СССР по-прежнему царит террор. Союз "Хашомер-Хацаир" — Союз евр. пролетарской и трудящейся молодёжи загнан в подполье...

2. В тюрьмах царит кошмарнейший режим буржуазных тюрем. Политические заключённые сидят вместе с уголовными, в некоторых тюрьмах не допускаются газеты. Не дают прогулок или дают по 10 минут в день. Даётся ужасная пища и т.д. В ссылку ГПУ в виде особого издевательства дают ссыльным по 6 руб., обрекая их на голодную смерть.

3. Сессия заявляет свой решительный протест против преследований членов Союза за работу в нём и против преследований социалистических рабочих группировок вообще...

4. Сессия требует: 1) возвращения из ссылок всех шомеров; 2) передачу всех шомеров, находящихся в тюрьмах, гласному суду; 3) прекращения административного произвола ГПУ.

5. Сессия констатирует, что не удовлетворяясь преследованиями шомеров, власти начали преследовать цофим, несовершеннолетних от 14-16 лет. Как главная мера репрессии, применяется исключение из школ и лишение таким образом возможности образования. Мера эта в последнее время приняла массовый характер.

6. Сессия категорически протестует против политических преследований цофим, детей и подростков и требует восстановления всех исключённых из школ".

Доклад Главного штаба Союза „Хашомер-Хацаир" заканчивается на оптимистической ноте. Руководство движения высказывает твёрдую веру в своё дело, веру в то, что задачи, стоящие перед шомерами, будут выполнены. Нельзя без волнения читать следующие строки: „Мы верим в то, что шомерская организация, зародившаяся в вихре и в огне революции, прошедшая сквозь террор, тюрьмы, ссылки, вражду на еврейской улице, справится со своими задачами и сейчас этого требует дело строительства социалистической Палестины, этого требует её рабочий класс, жаждущий от неё смены.

[8] Там же. Л.17

[9] НАРБ. Ф. 4.Оп.10.Д.II.Л.152

[10] Там же

[11] Там же

[12] НАРБ. ф.4.Оп.10.Д.II.Л.23

**И сильные нашей волей к победе, нашим единством, мы ему эту смену дадим...“[13].**

**Деятельность „Хашомер-Хацаира“ и других сионистских организаций приносила свои плоды. С 1920 года по 1925 из республик СССР в Палестину приехало 20 000 человек, а с 1926 по 1936 год — 13 000 человек.**

**В 1929 г. власти усилили репрессии против молодёжных сионистских организаций „Поалей Цион“ и „Хашомер-Хацаир“, несмотря на пролетарский, социалистический характер идеологии этих организаций. Позорную роль в этих репрессиях 20-х годов сыграла евсекция Центрального Комитета КП(б)Б. Но об этом особый разговор. Изучение деятельности “Хашомер-Хацаир” на территории Белоруссии в середине 20-х годов XX в. позволит ликвидировать одно из „белых пятен“ истории евреев Белоруссии XX в.**

[13] Там же



# Канцэпцыя нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі

***Праект Канцэпцыі нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі падрыхтаваны рабочай групай, створанай у адпаведнасьці з распараджэньнем Кабінэта Міністраў Рэспублікі Беларусь №05/304-378 ад 16.11.1995 г.***

***Уводзіны***

Для вызначэньня асноўных кірункаў, пабудовы дзейснай праграмы, тэарэтычнага забесьпячэньня і практычнай рэалізацыі працэсаў нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі выключна важнае значэньне набывае распрацоўка адпаведнай Канцэпцыі. Бо, ня маючы зыходнай тэарэтычнай асновы, рэфармаваць сфэру міжнацыянальных зносінаў практычна немагчыма. Сытуацыя ўскладняецца адсутнасьцю спробаў распрацоўкі Канцэпцыі ў папярэдні пэрыяд, а таксама тым, што падобныя праекты ў суседніх зь Беларусьсю краінах знаходзяцца яшчэ ў стадыі падрыхтоўкі. Праўда, у 1995 г. у выдадзеным у Кіеве інфармацыйным бюлетэні Міністэрства па справах нацыянальнасьцяў і культаў Украіны быў зьмешчаны невялікі, аб'ёмам каля 3-х старонак тэкст „Концепції розвитку культур національних меншин України“, але пры азнаямленьні зь ім становіцца відавочна, што гэта *не канцэпцыя, а праграма*, у якой галоўным чынам пералічваюцца розныя мерапрыемствы: „відкриттё бібліотек“, „поповнення книжкових і музично-нотних фондів“, „організація регулярних теле та радіопередач“ і інш.[1]

У адрозьненьне ад матар'ялу, падрыхтаванага на Ўкраіне, дакумэнт, распрацаваны ў Расійскай Фэдэрацыі, называецца сваім імем, а менавіта — праектам праграмы (Проект Государственной программы национального возрождения и межнационального сотрудничества народов России). Не гаворачы аб тым, што праграма — гэта не канцэпцыя, адзначым, што перанос расійскай праграмы на беларускую глебу не ўяўляецца магчымым, паколькі ў аснову яе пабудовы пакладзены прынцып *фэдэралізму*, у той час як Рэспубліка Беларусь, згодна з Канстытуцыяй (артыкул 1), зьяўляецца *ўнітарнай* дзяржавай. Да таго ж праект вышэйадзначанай праграмы датычыць усіх бакоў жыцьця народаў Расіі (нараджальнасьці і сьмяротнасьці, міграцыі, гаспадарча-эканамічнага і мэдычна-аздараўленчага аспэктаў і інш.), у той час як у нашым выпадку ўпор павінен быць зроблены на нацыянальна-культурнае разьвіцьцё нацыянальных меншасьцяў.

Такім чынам, для Беларусі, якая ў былым СССР неаднойчы выступала своеасаблівым палігонам мерапрыемстваў па „зьліцьці нацыяў“, з усёй вастрынёй паўстала задача распрацоўкі ўласнай Канцэпцыі нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў. Бо толькі на базе апошняй магчыма пабудаваць сапраўды дзейсную, абгрунтаваную Праграму забесьпячэньня іх нацыянальна-культурных патрэбаў. Распрацоўка Канцэпцыі павінна спрыяць рэалізацыі галоўнай *МЭТЫ* міжнацыянальнай палітыкі — пабудове дэмакратычнага прававога грамадзтва, у якім на практыцы задавальняюцца нацыянальна-куль-

[1] Гл.: Інформаційній бюлетень Міністерства у справах національностей... Київ, 1995 г. №2. С.36-37.

турныя патрэбы ўсіх без выключэньня народаў краіны пры ўмове забесьпячэньня агульнанацыянальных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь.

### *Агульныя палажэньні*

Канцэпцыя (ад лац. ***concepcio***) — гэта, па-першае, „сыстэма поглядаў, спосаб разуменьня якіх-небудзь зьяваў" і, па-другое, „асноўная думка чаго-небудзь"[2]. Такім чынам, канцэпцыя павінна вызначаць, па-першае, *АСНОЎНУЮ ІДЭЮ* праекта (у дадзеным выпадку — праекта нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі) і, па-другое, абагульняць у сыстэматызаванай форме сукупнасьць навуковых дасьледаваньняў і адпаведных поглядаў адносна характарызаванай зьявы:

— гісторыі ўзьнікненьня зьявы і станаўленьне праблемы;

— характарыстыкі яе сучаснага стану;

— тэндэнцыяў (пэрспэктываў) разьвіцьця зьявы.

Вызначальная *ідэя* Канцэпцыі — разуменьне нацыянальна-культурнага будаўніцтва як асновы і сродку адраджэньня нацыянальнага жыцьця меншасьцяў ва ўсіх яго праяўленьнях, у сацыяльнай, эканамічнай, палітычнай, духоўнай сфэрах. Сьцьверджаньне гэта, зазначым, прымаецца адназначна далёка ня ўсімі. Яшчэ жывучая ўкаранёная ў грамадзкай сьвядомасьці вера ва ўсемагутнасьць матар'яльна-эканамічнага фактару як унівэрсальнага сродку вырашэньня любых сацыяльных праблемаў, у тым ліку і міжнацыянальных. Між тым вопыт эканамічна разьвітых краін з высокім узроўнем дабрабыту (Канады, Вялікабрытаніі, Гішпаніі і інш.) пераканаўча сьведчыць, што пры адсутнасьці належнай увагі да запытаў нацыянальных меншасьцяў у сфэры культуры, адукацыі, рэлігіі, пры ігнараваньні іх моўных патрэбаў, нацыянальныя праблемы (незалежна ад посьпехаў у эканоміцы) набываюць тэндэнцыю да абвастрэньня і могуць перарасьці ў стадыю міжэтнічных канфліктаў. Таму без ажыцьцяўленьня праграмы нацыянальна-культурнага будаўніцтва і канцэптуальнага асэнсаваньня спалучаных зь ім праблемаў немагчыма адраджэньне нацыянальнага жыцьця меншасьцяў і ў іншых сфэрах.

Усьведамленьне гэтага павінна абапірацца на ўлік *ТЭНДЭНЦЫЯЎ*, народжаных нашым часам і спэцыфікай нацыянальна-культурных сытуацыяў, што скláліся на Беларусі:

1. Тэндэнцыю *нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі*, якая асабліва абвастрылася пасьля распаду СССР і ўтварэньня на яго месцы новых незалежных дзяржаваў, калі пытаньні: „Хто я?", „Адкуль мае карані?" упершыню зь непазьбежнасьцю паўсталі перад мільёнамі нашых суайчыньнікаў. Усьведамленьне асобай сваёй нацыянальна-культурнай прыналежнасьці, патрэба ў нацыянальным самавызначэньні, аднесенасьці сябе да пэўнага этнасу і яго культуры — усё гэта праявы дадзенай тэндэнцыі, стаўшай адной з вызначальных прыкмет нашага часу. Пры гэтым зазначаная тэндэнцыя нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі не павінна атаясамлівацца з пачуцьцём нацыянальнай выключнасьці. Наадварот, нацыянальна-культурная ідэнтыфікацыя павінна разглядацца як неабходная ўмова пабудовы агульнага Беларускага Дому, бо толькі народы, што маюць пачуцьцё ўласнай нацыянальнай годнасьці, усьведамляюць сваю прыналежнасьць да сталай ім роднай беларускай зямлі, змогуць быць сапраўднымі руплівымі гаспадарамі.

2. Тэндэнцыю *кансалідацыі*, якая ўвасоблена ў ідэі агульнага Беларускага Дома — „свайго" для кожнага з 123 народаў нашай краіны, незалежна ад іх колькаснага складу ці веравызнаньня і *ўсьведамленьні неабходнасьці кансалідацыі намаганьнямі на яго пабудову.*

3. Тэндэнцыю *інтэграцыі*, якая абумоўлена неабходнасьцю ўваходу Беларусі ў сусьветную супольнасьць, пераходам да адкрытага дэмакратычнага грамадзтва, пашырэньнем рынкавых адносінаў. Дзяржаўныя межы не павінны ўтвараць перашкоду для ажыцьцяўленьня сувязяў нацыянальных меншасьцяў Беларусі з „мацерыковымі " краінамі. Гэта ў поўнай меры датычыць таксама наладжваньня сталых кантактаў у нацыянальна-культурнай сфэры паміж беларускай меншасьцю ў краінах блізкага і далёкага замежжа і бацькаўшчыны.

Усе вышэйадзначаныя тэндэнцыі праяўляюцца ў наш час ва ўмовах крызыснага эканамічнага стану і абумоўлена-

[2] гл.: Слоўнік іншамоўных словаў (Булыка А. — Мінск, 1993, с. 154. Канцэпцыю ня трэба атаясамліваць з праграмай, што нярэдка мае месца. Праграма (ад грэц. *programme* — аб'ява, распараджэньне) — гэта „плян будучай дзейнасьці, працаў, мерапрыемстваў" (гл. тамсама. С.255).

га гэтым недахопам рэсурсаў, што ня можа не ствараць дадатковых цяжкасьцяў у рэалізацыі праграмаў нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі і іх канцэптуальным асэнсаваньнем. Збалянсаваная дзяржаўная палітыка зь непазьбежнасьцю павінна ўлічваць таксама канкрэтныя ўмовы рэалізацыі нацыянальна-культурных праграмаў, сацыякультурнае становішча, у якім апынулася кожная з нацыянальных меншасьцяў рэспублікі. А гэта патрабуе вызначэньня зыходных базавых *ПАКАЗЬНІКАЎ* стану нацыянальных меншасьцяў, у якасьці якіх павінны выступаць:

— *колькасны патэнцыял* нацыянальнай меншасьці. Неабходнасьць уліку гэтага паказьніка абумоўлена істотнымі адрозьненьнямі паміж нацыянальнымі меншасьцямі Беларусі па колькасных парамэтрах, што ня можа ня ўлічвацца ў дзяржаўнай нацыянальнай палітыцы, уплывае на выбар тых ці іншых формаў работы зь меншасьцямі, абумоўлівае распрацоўку адпаведных нацыянальна-культурных праграмаў. Толькі некаторыя з нацыянальных меншасьцяў (расійцы, палякі, украінцы, гэбраі) складаюць кожны звыш 1% насельніцтва рэспублікі, у той час як на ўсе астатнія прыпадае разам усяго толькі 0,4%. Адзначаючы неабходнасьць уліку колькаснага паказьніка, зазначым, што ён не павінен разглядацца ў якасьці вызначальнага. Мы адстойваем пазыцыю прызнаньня самадастатковасьці кожнага этнасу як суб'екта нацыянальна-культурнага разьвіцьця незалежна ад ягоных колькасных парамэтраў. Таму пры вызначэньні стаўленьня дзяржавы да кожнай нацыянальнай супольнасьці павінен перш-наперш прымацца пад увагу яе статус як раўнапраўнага суб'екта нацыянальна-культурнай дзейнасьці.

— *кампактнасьць пражываньня* нацыянальнай меншасьці. Гэты паказьнік — вызначальны яшчэ ў міжваенны пэрыяд (нагадаем утварэньне нацыянальных тэрытарыяльных адзінак — раёнаў і сельскіх саветаў — у былой БССР) — у цяперашні час для бальшыні нацыянальных меншасьцяў ужо фактычна не адсочваецца. Папярэдняя міграцыйная палітыка, зьвязаная зь індустрыялізацыяй краіны, і працэсы ўрбанізацыі, дэпартацыі 30-40-х гадоў і масавая эміграцыя асобных меншасьцяў (гэбраяў) зрабілі сваю справу. Ва ўтвораных новых умовах — дыспэрснасьці расьсяленьня і адсутнасьці (за рэдкім выключэньнем) зонаў кампактнага пражываньня нацыянальных меншасьцяў — на першы плян заканамерна выступае форма экстэрытарыяльнай пэрсанальнай (ці групавой) нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Менавіта яна ператвараецца ў вядучую форму рэалізацыі правоў і інтарэсаў нацыянальных меншасьцяў рэспублікі як на калектыўным, так і на індывідуальным узроўнях. У рамках экстэрытарыяльнай персанальнай (ці калектыўнай) аўтаноміі нацыянальна-культурныя запыты пэўных групаў меншасьцяў і іхных членаў рэалізуюцца галоўным чынам праз грамадзкую ініцыятыву і самаарганізацыю (пры матар'яльнай падтрымцы з боку дзяржавы), мабілізуючы калектыўную волю і арганізацыйныя рэсурсы людзей на забесьпячэньне культурнага жыцьця ў сваіх нацыянальных абшчынах.

— *даўнасьць асадніцтва* нацыянальнай меншасьці на Беларусі. Гэта вельмі адказны паказьнік, бо асадніцтва некаторых меншасьцяў на беларускай зямлі вымяраецца стагодзьдзямі і стагодзьдзямі, у той час як асобныя нацыянальныя групы аб'яўляюцца ў рэспубліцы цяпер штогод, з прычыны нестабільных палітычных абставінаў ці неспрыяльных умоваў жыцьця ва ўласных краінах. Ад даўнасьці асадніцтва (у гістарычным сэнсе) залежыць ступень зьнітаванасьці меншасьці зь Беларусьсю і яе тытульным этнасам, злучанасьць зь іншымі народамі краіны, уключанасьць у яе эканамічнае і культурнае жыцьцё, сацыяльна-палітычныя працэсы. Даўнасьць асадніцтва спрыяе стварэньню перадумоваў для фармаваньня ў нацыянальнай меншасьці пачуцьця патрыятызму, успрыманьня ёю Беларусі як сваёй новай Радзімы, усьведамленьне сябе часткаю яе народу. Гэты патрыятызм перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне, ён замацаваны агульным лёсам народаў Беларусі, няпростымі гістарычнымі выпрабаваньнямі. Вельмі істотна тое, што і ва ўмовах шматстагодняй адарванасьці ад сваёй „мацерыковай" краіны ў нацыянальнай меншасьці фармуецца ўласьцівая толькі ёй *субкультура*:

— *характар асадніцтва* нацыянальнай меншасьці, чым яно абумоўлена. Ці гэта вымушанае, часам пад прымусам, перасяленьне (у выніку палону, дэпартацыяў, уцёкаў на Беларусь па палітычных матывах, з прычыны міжканфэсійных

альбо міжэтнічных канфліктаў і інш.) Ці гэта добраахвотнае асадніцтва ў рамках праводжанай дзяржавай міграцыйнай палітыкі, эканамічная міграцыя, зьвязаная зь індустрыялізацыяй краіны і г.д. Ці мела месца асадніцтва з мэтай каляніізацыі беларускіх земляў, адыйшоўшых да краіны-пераможцы ў выніку войнаў альбо тэрытарыяльных падзелаў. У апошнім выпадку перасяленьні перасьледавалі задачу замацаваньня за сабой „новапрыдбаных“ земляў і праз насаджэньне сваёй культуры асыміляцыю карэннага насельніцтва. Відавочна, дзяржаўная палітыка ня можа ня ўлічваць адметнасьцяў розных тыпаў асадніцтва і адрозьненьняў у іх суаднесенасьці з пэўнымі нацыянальнымі культурамі. Трэба таксама прымаць пад увагу і тэмпаральны (часавы) аспэкт праблемы, улічваць, ці мае месца перасяленьне на стала альбо яно часовае і перасьледуе мэту перачакаць у спакойных умовах складаны для радзімы перасяленца пэрыяд альбо (што мае месца ўсё часьцей) выкарыстаць нашу рэспубліку ў якасьці зручнага „калідору“ для пранікненьня на Захад. Зразумела, што характар асадніцтва ў значнай ступені ўплывае як на стаўленьне пэўнай нацыянальнай групы да культуры тытульнага этнасу, так і на яе адносіны да духоўных здабыткаў уласнага народу,

— *узровень разьвіцьця нацыянальнай сьвядомасьці* меншасьці, стан яе мэнталітэту. Ён істотна адрозьніваецца ў народаў Беларусі. Адна справа, намінальны мэнталітэт меншасьці, якая страціла родную мову і культуру і ўспрыняла мову і культуру тытульнага этнасу ці другога народу. Іншая справа, нацыянальная меншасьць з устойлівым вызначаным мэнталітэтам, якая здольная ў пэўных варунках „прышчапіць“ парасткі свайго мэнталітэту (навязаць сваю культуру) нават тытульнаму этнасу, што, зазначым, ужо мела месца ў айчыннай гісторыі. Узровень разьвіцьця нацыянальнай самасьвядомасьці пэўнай меншасьці ў значнай ступені залежыць ад яе стаўленьня да культурных здыбыткаў уласнага народу і гатоўнасьці (здольнасьці) трансьляваць іх новым пакаленьням. Для гэтага патрэбны адпаведныя сацыяльныя інстытуты і сродкі трансьляцыі: установы адукацыі з навучаньнем на мовах нацыянальных меншасьцяў, нацыянальныя культурна-асьветніцкія ўстановы, сродкі масавай інфармацыі на мовах народаў Беларусі, выдавецкія цэнтры і г.д. Важную ролю ва ўсьведамленьні меншасьцю нацыянальнай тоеснасьці, злучнасьці з культурай свайго народу адыгрывае канфэсійны фактар і зьвязаная з пэўным веравызнаньнем сыстэма звычаяў, традыцыяў, нормаў. Асабліва гэта датычыць нацыянальнай рэлігіі. Нельга ігнараваць і сувязь нацыянальнай самасьвядомасьці з эмацыйнай сфэрай жыцьцядзейнасьці этнічных групаў, якая праяўляецца ў розных, нярэдка супярэчлівых формах: праз нацыянальную годнасьць і — пагардлівае стаўленьне да нацыянальных каштоўнасьцяў, праз пачуцьцё абавязку перад радзімай і — абыякавыя адносіны да яе, праз усьведамленьне сваёй этнічнай прыналежнасьці і — нацыянальны нігілізм, праз павагу да іншых народаў і — грэблівае стаўленьне да іх. Пры ігнараваньні з боку дзяржавы нацыянальна-культурных і інш. патрэбаў нацыянальных меншасьцяў у апошніх можа адбыцца абвастрэньне пэўных нацыянальных пачуцьцяў. Праяўленьне іх нярэдка характарызуецца высокай эмацыйнай напружанасьцю, што можа справакаваць міжэтнічныя канфлікты зь непрадказальнымі і непажаданымі вынікамі;

— *характар сувязі (ступень злучнасьці) культуры* нацыянальнай меншасьці з культурай тытульнага этнасу. У гэтым важную ролю адыгрывае адкрытасьць абедзьвюх культураў. Менавіта абедзьвюх, а не адной толькі культуры нацыянальнай меншасьці, бо ў адваротным выпадку ўтвараюцца ўмовы для паглынаньня культуры меншасьці дамінавальнай культурай і паскоранай асыміляцыяй самой меншасьці. Адкрытасьць жа абедзьвюх культур стварае магчымасьць для іх узаемнага ўзбагачэньня. Праўда, і ў гэтым выпадку застаецца патэнцыйная небясьпека для культуры меншасьці па прычыне колькасна рознага патэнцыялу абедзьвюх культураў і рознамаштабнасьці іхнага ўплыву ў рамках пэўнай культурнай прасторы. Асабліва гэта датычыць народаў з аднатыпнымі культурамі і роднаснымі мовамі, што павінна ўлічвацца пры распрацоўцы дзяржаўных праграмаў. Трэба прымаць пад увагу таксама рэлігійныя асаблівасьці ўзаемадзеяньня культураў народаў Беларусі. На характар сувязі культуры нацыянальнай меншасьці з культурай тытульнага этнасу сур’ёзны ўплыў можа аказваць таксама геаграфічная блізкасьць адпаведнай „мацерыковай“ краіны, яе патэнцыял і гатоўнасьць падтрымліваць культурна-

асьветныя ініцыятывы пэўнай меншасьці;

— *узровень запытаў і характар нацыянальна-культурных патрабаваньняў* нацыянальнай меншасьці. Іх абумоўлівае цэлы шэраг фактараў, але ў кожным выпадку патрабаваньні не павінны быць завышанымі. Па-першае, яны павінны зыходзіць з рэальных фінансава-эканамічных магчымасьцяў краіны пражываньня меншасьці. Па-другое, яны не павінны закранаць стратэгічных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, накіраваных на захаваньне тэрытарыяльнай цэльнасьці краіны. Па-трэцяе, яны павінны ўлічваць інтарэсы іншых народаў і не павінны забясьпечвацца за кошт абмежаваньня ўплыву культуры тытульнага этнасу ці іншых меншасьцяў у рамках адзінай культурнай прасторы.

Са свайго боку, дзяржава ў працэсе выпрацоўкі нацыянальнай палітыкі павінна ўлічваць увесь спэктар нацыянальна-культурных патрабаваньняў меншасьцяў, не выключаючы асьветна-адукацыйных (ажно да адкрыцьця нацыянальных навучальных установаў), арганізацыйных (стварэньня адпаведных нацыянальна-культурных цэнтраў), канфэсійных, якім не надавалася належнай увагі ў папярэдні пэрыяд. Пажадана, каб намаганьні дзяржавы, накіраваныя на задавальненьне нацыянальна-культурных патрабаваньняў нацыянальных меншасьцяў, дапаўняліся фінансава-матар'яльнай падтрымкай апошніх з боку адпаведных „мацерыковых“ краін.

### *Філязофска-культуралягічныя асновы Канцэпцыі*

Гістарычныя калізіі папярэдняга пэрыяду абумовілі неадпаведнасьць наяўнага ўзроўню забесьпячэньня нацыянальна-культурных запытаў нацыянальных меншасьцяў рэспублікі патрэбам сучаснага дэмакратычнага грамадзтва. Асабліва відавочным гэта стала ў цяперашні час кансалідацыі намаганьняў грамадзтва на пабудову агульнага Беларускага Дому, у скарбніцы якога павінна знайсьціся месца для культурных здабыткаў кожнага народу нашай краіны. Без разьвіцьця культураў нацыянальных меншасьцяў немажліва і фармаваньне культуры беларускага народу, складовай часткай якога разам з прадстаўнікамі тытульнага этнасу зьяўляюцца некарэнныя нацыянальнасьці рэспублікі. Узаемазалежнасьць і ўзаемасувязь паміж здабыткамі агульначалавечай культуры, культурай беларускага народу і культурамі асобных нацыянальных меншасьцяў трэба разглядаць у пляне суаднесенасьці філязофскіх катэгорыяў *усеагульнага — агульнага — адзінкавага*. Пры гэтым нельга забываць, што *„адзінкавае“* заўсёды разам з тым яшчэ і *„асаблівае“*. Таму культура кожнай нацыянальнай меншасьці, разам з каштоўнасьцямі агульначалавечага характару, непазьбежна нясе на сабе адбітак пэўнай своеасаблівасьці, індывідуальнасьці, што, у рэшце рэшт, і абумоўлівае яе саматоеснасьць і непаўторнасьць.

„Асаблівае“ непазьбежна прадугледжвае наяўнасьць нечага „адметнага“ — таго, што найбольш адэкватна перадае дух народу і народаў-суседзяў. Гэта *адметнае* выступае бадай ці не галоўнай умовай захаваньня культуры нацыянальных меншасьцяў, формай праяўленьня яе тоеснасьці. Яно ўтварае арганічны комплекс праяўленьняў сьвядомасьці і духоўных воблікаў, што выражаюць нацыянальнае „Я“. Зазначанае „Я“ праяўляецца ў адпаведных мэтах, сымболях, звычаях, традыцыях і іншых сымбалічных формах культурнага зьместу. Кожная з нацыянальных культураў самадастатковая і здольная выконваць сваю функцыю ўпарадкаваньня і гарманізацыі жыцьця адпаведнага этнасу або пэўнай нацыянальнай меншасьці. Культурна зьмест адрозьнівае адну нацыянальнасьць ад другой, выступае базысам захаваньня сувэрэннасьці іхнага быту. Таму выкараненьне *„адметнага“* (наўмысна ці несьвядома) непазьбежна прывядзе да разбурэньня нацыянальнай культуры этнасу, з наступнай асыміляцыяй апошняга. Тым ня менш, культуры нацыянальных меншасьцяў па-ранейшаму бесьперапынна (і бесьперашкодна) паддаюцца ўзьдзеяньню разнастайных разбуральных фактараў:

— з боку „масавай культуры“ зь яе ўніфікаванай стандартызацыяй і ігнараваньнем нацыянальных адметнасьцяў народаў-пэрцыпіентаў;

— з боку культуры тытульнага этнасу альбо іншых культураў, дамінавальных у межах пэўнай культурнай прасторы;

— з боку вонкавага асяродзьдзя нацыянальнай меншасьці (не выключаючы ўзьдзеяньняў пэўных прыродных фактараў, уплываў своеасаблівасьцяў побыту суседніх народаў, кан'юнктурных зьменаў у нацыянальнай палітыцы дзяржавы пражываньня меншасьці і інш.);

— з боку пэўных нутраных сілаў, дэструкцыйнае ўзьдзеяньне якіх на культуру меншасьці можа праяўляцца: па-першае, праз адмаўленьне ад яе і пераход на пазыцыі культуры тытульнага этнасу альбо іншай дамінавальнай культуры; і, па-другое, праз грэблівае стаўленьне да яе *традыцыйных* каштоўнасьцяў і патрабаваньні адмовы ад іх пад лёзунгам неабходнасьці „мадэрнізацыі" нацыянальнай культуры і наданьня ёй „сучаснага" выгляду. Каб захаваць сваю тоеснасьць у атачэньні іншакультурнага асяродзьдзя, выстаяць і аказацца здольнай да канкурэнцыі (духоўнага спаборніцтва) зь іншымі культурнымі ўплывамі, культура нацыянальнай меншасьці павінна пастаянна знаходзіцца ў дзейсна-актыўным стане. Яна вымушана праз актыўнасьць сваіх носьбітаў у сфэры культурна-вытворчай дзейнасьці штодзень „даказваць" сваё права на існаваньне.

Адной з формаў захаваньня культурай нацыянальнай меншасьці саматоеснасьці пад разбуральным узьдзеяньнем вонкавых уплываў выступае яе „закрытасьць". Не падлягае сумневу, што празьмерная „адкрытасьць" культуры нешматлікага і да таго ж некарэннага народу разнастайным вонкавым уплывам можа лёгка прывесьці да яе „размываньня" і паглынаньня дамінавальнай культурай. Але, з другога боку, і празьмерная „закрытасьць", функцыянаваньне культуры нацыянальнай меншасьці толькі для абслугоўваньня ўласных патрэбаў пазбаўляе яе стымулаў удасканаленьня, разьвіцьця ў адпаведнасьці з патрэбамі часу, вядзе да кансэрвацыі яе ключавых элемэнтаў і, у рэшце рэшт, пагражае выраджэньнем. Да таго ж „закрытасьць" культуры пэўнай нацыянальнай меншасьці можа спрыяць фармаваньню ў грамадзкай сьвядомасьці ўстойлівага *адмоўнага этнастэрэатыпу* адносна гэтай культуры і яе носьбітаў, успрыманьне яе іншымі народамі Беларусі як „цалкам чужой" і таму непатрэбнай.

Надзейным гарантам прадухіленьня нацыянальнай самаізаляванасьці культураў нацыянальных меншасьцяў могуць (і павінны) стаць цесныя сувязі апошніх зь мясцовымі (рэгіянальнымі) культурамі, штодзённае ўзаемадзеяньне паміж імі. Таму агульнадзяржаўная палітыка нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў рэспублікі павінна дапаўняцца распрацоўкай адпаведных рэгіянальных праграмаў. Кожны прадстаўнік нацыянальнай меншасьці павінен усьведамляць сябе таксама носьбітам пэўнай рэгіянальнай ці мясцовай культуры. У гэтым — залог бесканфліктнага разьвіцьця культураў нацыянальных меншасьцяў рэспублік.

І тут не абмінуць праблему адытыўнасьці, суаднесенасьці *часткі* і *цэлага*. Каб захаваць сваю тоеснасьць у іншакультурным асяродзьдзі, культура нацыянальнай меншасьці непазьбежна павінна зьмяшчаць у сабе нейкі інварыянтны кампанэнт, „цьвёрдае ядро" (І.Лакатас), устойлівае пад узьдзеяньнем разбуральных уплываў. Захавальнікам гэтага „цьвёрдага ядра" нацыянальнай культуры нярэдка выступае адпаведная рэлігія (заўсёды, калі справа датычыць нацыянальнай рэлігіі). Такім чынам, культура нацыянальнай меншасьці ніколі не рэпрэзэнтуе сябе ў агульнакультурнай прасторы цалкам, яе ўплыў і ўзаемадзеяньне праяўляюцца праз трансьляцыю пэўных элемэнтаў.

Але ж якія элемэнты культураў нацыянальных меншасьцяў падлягаюць пры гэтым трансьляцыі? Бо культура кожнага народа, акрамя здабыткаў, што маюць агульначалавечую каштоўнасьць, непазьбежна ўключае ў сябе і кампанэнты са знакам „мінус". Якія крытэры павінны вызначаць зьмест і аб'ём трансьляванага матар'ялу ў кожным канкрэтным выпадку?

Тут могуць прымацца пад увагу некалькі варыянтаў:

— адпаведнасьць здабыткаў культуры нацыянальнай меншасьці агульначалавечым духоўным каштоўнасьцям (пры гэтым традыцыі і сацыякультурныя нормы тытульнага этнасу і сумежных народаў могуць улічвацца пэўнай меншасьцю, а могуць і не прымацца ў разьлік);

— улік, у першую чаргу, адпаведнасьці трансьляваных элемэнтаў культуры меншасьці яе нацыянальным інтарэсам (апошнія пры гэтым могуць насіць сытуацыйны або часовы характар і не адпавядаць агульначалавечым каштоўнасьцям, асабліва калі справа датычыць выжываньня меншасьці ў экстрэмальнай сытуацыі).

У кожным выпадку, аднак, адбор элемэнтаў культуры нацыянальнай меншасьці для далейшай цыркуляцыі ў агульнакультурнай прасторы ажыцьцяўляецца шляхам своеасаблівага „*зьняцьця*" (гегелеўскае *aufheben*). У ліку кампанэнтаў, якія не падпадаюць пад

„зьняцьцё“ і звычайна аказваюцца па-за межамі агульнакультурнай прасторы, — тыя элемэнты нацыянальных культураў, якія не адпавядаюць агульначалавечым каштоўнасьцям і традыцыям тытульнага этнаса, а таксама тое інварыянтнае ядро нацыянальнай культуры, якое захоўвае яе тоеснасьць і забясьпечвае ўзнаўленьне культуры нацыянальнай меншасьці ў новых пакаленьнях. Разбурэньне гэтага інварыянтнага „ядра“ нацыянальнай культуры і тым самым пазбаўленьне яе тоеснасьці, непаўторнасьці непазьбежна прывядзе да зьнікненьня апошняй. Таму ўсялякія спробы ўніфікацыі культур нацыянальных меншасьцяў, „сьціраньня межаў“ паміж імі, заклікі да іхнага „зьліцьця“ ня могуць ацэньвацца інакш як антыгуманныя, несумяшчальныя зь дзяржаўнымі інтарэсамі Беларусі. Зь зьнікненьнем культураў нацыянальных меншасьцяў Беларусі спыніць сваё існаваньне і культура беларускага народу.

У сьвятле зазначанага становішча, зразумела, чаму кожная нацыянальная меншасьць імкнецца выбіраць з культурных здабыткаў тытульнага этнасу альбо з агульначалавечых каштоўнасьцяў, што цыркулююць у культурнай прасторы, у першую чаргу тыя, якія адпавядаюць яе мэнталітэту і нацыянальным схільнасьцям, і перапрацоўвае іх уласьцівымі ёй сродкамі і мэтадамі.

Такім чынам, ***супярэчнасьць*** паміж „адкрытым“ і „закрытым“ характарам культуры кожнай нацыянальнай меншасьці выступае галоўнай умовай захаваньня яе тоеснасьці і, у той час, гарантам забесьпячэньня яе ўдасканаленьня і разьвіцьця. Дзякуючы наяўнасьці гэтай нутраной супярэчнасьці, культура кожнай меншасьці выступае адначасова, *з аднаго боку*, як замкнёная сацыякультурная прастора з сваёй асабістай духоўнасьцю, утворанай мэнталітэтам, нацыянальнымі традыцыямі і нормамі, стэрэатыпамі ўспрыманьня сьвету і крытэрыямі яго разуменьня, а, *з другога боку*, як вынік адпаведнага сацыякультурнага ўзаемадзеяньня зь іншымі народамі, перш за ўсё з культурай тытульнага этнасу і народаў-суседзяў.

### *Заканадаўча-прававыя асновы Канцэпцыі*

Забесьпячэньне нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў краіны немажліва без наяўнасьці адпаведнай заканадаўча-прававой базы. Паколькі Рэспубліка Беларусь зьяўляецца паўнапраўным суб'ектам міжнароднага права, палітыка дзяржавы адносна нацыянальных меншасьцяў фармуецца з улікам адпаведных дакумэнтаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, у падрыхтоўцы і прыняцьці якіх, як член ААН, прымала непасрэдны ўдзел і наша краіна. У ліку асноўных міжнародных прававых дакумэнтаў адпаведнага характару — ***Усеагульная дэклярацыя правоў чалавека*** 1948 г., арт.2 якой сьцьвярджае права кожнага „карыстацца ўсімі правамі і свабодамі: незалежна ад расавай прыналежнасьці, колеру скуры, полу, мовы, веравызнаньня, палітычнай ці любой іншай прыхільнасьці, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжаньня, *матар'яльнага* становішча, нараджэньня ці якіх бы там ні было іншых умоваў“; ***Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах*** ад 16 сьнежня 1966 г. (арт. 26, 27 і прэамбула); ***Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах*** ад 16 сьнежня 1966 г.; і іншыя нарматыўныя акты. У гэтых і іншых міжнародных дакумэнтах рэалізацыя і абарона правоў нацыянальных меншасьцяў прызнаецца неад'емнай часткай рэалізацыі і абароны правоў чалавека і ягоных асноўных свабодаў. Пры гэтым трэба ўлічваць тое, што ў міжнароднай прававой практыцы прынцыпы нацыянальнай палітыкі адносна меншасьцяў фармулююцца ў дачыненьні да двух суб'ектаў:

— правоў народаў (у тым ліку і пэўных нацыянальных меншасьцяў);

— правоў асобаў, што належаць да нацыянальных меншасьцяў.

Прынятыя ў 90-я гады ў Рэспубліцы Беларусь заканадаўча-прававыя акты цалкам адпавядаюць нормам міжнароднага права і ўтвараюць адпаведную базу для забесьпячэньня ўсебаковага нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў краіны. Вызначальнымі сярод іх зьяўляюцца:

— ***Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь,*** прынятая 15 сакавіка 1994 г., шэраг артыкулаў якой непасрэдна датычыць правоў нацыянальных меншасьцяў і замацоўвае іх у розных сфэрах грамадзкага жыцьця. Так, у арт.14 адзначана, што дзяржава рэгулюе адносіны паміж нацыянальнымі супольнасьцямі на аснове прынцыпаў роўнасьці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў. Арт.15 акцэнтуе ўвагу на адказнасьці дзяржавы за

свабоднае разьвіцьцё культур усіх нацыянальных супольнасьцяў, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь. Арт. 50 сьцьвярджае: „Кожны мае права захоўваць сваю нацыянальную прыналежнасьць, таксама як ніхто ня можа быць прымушаны да вызначэньня і ўказаньня нацыянальнай прыналежнасьці. Зьнявага нацыянальнай годнасьці караецца згодна з законам. Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасьці з законам свабоду выбару мовы выхаваньня і навучаньня."

— ***Закон „Аб мовах у Беларускай ССР"***, прыняты 26 студзеня 1990 г., які сьцьвярджае недапушчальнасьць любых прывілеяў ці абмежаваньняў правоў асобы па моўных прыкметах (арт.5) і рэглямэнтуе ўжываньне нацыянальных моваў у розных сфэрах грамадзкага жыцьця;

— ***Закон „Аб культуры ў Беларускай ССР"***, прыняты 4 чэрвеня 1990 г., які вызначыў у ліку галоўных задач заканадаўства ў галіне культуры адраджэньне і разьвіцьцё культур нацыянальных супольнасьцяў Беларусі як складовай часткі агульначалавечай культуры (арт.2). Арт.10, які непасрэдна прысьвечаны абароне правоў нацыянальных меншасьцяў у галіне культуры, абвяшчае: „Асобам любой нацыянальнасьці і этнічнай групы, якія пражываюць на тэрыторыі Беларускай ССР, гарантуецца права на разьвіцьцё сваёй культуры і мовы, на стварэньне нацыянальнай школы, прадпрыемстваў і ўстаноў культуры (тэатраў, музэяў, выдавецтваў і г.д.). Грамадзяне... любой нацыянальнасьці і этнічнай групы маюць права на стварэньне нацыянальных аб'яднаньняў, асацыяцыяў, культурна-асьветных таварыстваў і суполак, нацыянальных культурных цэнтраў";

— ***Закон „Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь"***, прыняты 29 кастрычніка 1991 г., якім закладзены асновы нацыянальнай згоды паміж народамі Беларусі ў новых гістарычных абставінах, абумоўленых набыцьцём рэспублікай суверэнітэту. Закон даў мажлівасьць атрыманьня грамадзянства Беларусі ўсім асобам, якія пастаянна пражываюць на яе тэрыторыі, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасьці і веравызнаньня;

— ***Закон „Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь"***, прыняты 29 кастрычніка 1991 г., у арт.5 якога адзначана: „У месцах кампактнага пражываньня грамадзянаў пэўнай нацыянальнасьці ў навучальных ці выхаваўчых установах арганізуецца вывучэньне мовы нацыянальнасьці, могуць стварацца школы, групы ці клясы, у якіх на адпаведнай мове ажыцьцяўляецца выхаваньне і навучаньне;

— ***Закон „Аб нацыянальных меншасьцях у Рэспубліцы Беларусь"***, прыняты 11 лістапада 1992 г., які стварыў сур'ёзную прававую аснову для комплекснага рэгуляваньня жыцьцядзейнасьці нацыянальных меншасьцяў у самых розных сфэрах. Закон прызнаў недапушчальным „якое б там ні было прамое ці ўскоснае абмежаваньне правоў і свабодаў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь за іхную прыналежнасьць да нацыянальнай меншасьці, а таксама спробы асыміляцыі супраць іх волі" (арт. 3);

— ***Закон „Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі"***, прыняты 13 студзеня 1995 г. (арт. 5, 6), і шэраг іншых.

Асобную групу ўтвараюць дакумэнты Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў, у ліку якіх трэба адзначыць перш за ўсё „Канвэнцыю аб забесьпячэньні правоў асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў", падпісаную 21 кастрычніка 1994 г. кіраўнікамі дзяржаваў-членаў СНД.

Адзначаючы, што прынятыя ў Рэспубліцы Беларусь нарматыўныя акты, разам з падпісанымі краінай адпаведнымі міжнароднымі дакумэнтамі ўтвараюць у цэлым годную заканадаўча-прававую аснову для беспарашкоднага функцыянаваньня і разьвіцьця культур нацыянальных меншасьцяў, апошняя патрабуе далейшага ўдасканаленьня. Чаканае ўступленьне Беларусі ў Раду Эўропы прад'явіць яшчэ больш высокія патрабаваньні да сфэры заканадаўча-прававога забесьпячэньня правоў нацыянальных меншасьцяў рэспублікі, уліку іх нацыянальна-культурных патрэбаў.



# Асацыяцыя беларускіх карэйцаў

Асацыяцыя беларускіх карэйцаў была створана ў 1993 годзе на ўстаноўчай канфэрэнцыі. Былі абраныя прэзыдэнт, віцэ-прэзыдэнт, склад Рады АБК.

Да 1993 года існавала Менская гарадзкая асацыяцыя, якая была заснавана ў 1991 годзе. Неабходнасьць стварэньня рэспубліканскай арганізацыі вынікала з патрэбы ў адмысловай дапамозе і падтрымцы рэгіёнаў зь невялікай колькасьцю карэйскага насельніцтва, каб яны не адчувалі сябе адарванымі ад сталіцы і абласных цэнтраў.

АБК уваходзіць у Міжнародную канфэдэрацыю карэйскіх асацыяцыяў (МККА), якая аб'ядноўвае карэйскія арганізацыі ў былым СССР з мэтай каардынацыі і дапамогі карэйскім асацыяцыям у адзначаным рэгіёне.

Асноўнай задачай АБК зьяўляецца аб'яднаньне намаганьняў сяброў асацыяцыі дзеля стварэньня ўмоваў нацыянальнага самавыяўленьня, задавальненьня памкненьняў да вывучэньня і захаваньня гісторыі, мовы, звычаяў, традыцыяў карэйскага народу, а таксама абарона правоў і эканамічных інтарэсаў карэйцаў і выхаваньне ў іх высокай культуры міжнацыянальных зносінаў.

У рамках вызначанай задачы Рада асацыяцыі, пры падтрымцы Цэнтра нацыянальных культур адкрыла нядзельную школу па вывучэньні мовы, культуры, традыцыяў карэйскага народу. Выкладаньне карэйскай мовы ўскладняецца адсутнасьцю выкладчыкаў у Беларусі. Выйсьце было знойдзена ў прыцягненьні да гэтай справы карэйцаў-студэнтаў, якія навучаюцца ў нашай краіне. Асноўным штогадовым мерапрыемствам, якое ладзіць асацыяцыя, зьяўляецца сьвяткаваньне Новага году па месячным календары, што грае важную ролю ў захаваньні традыцыяў і падтрыманьні сувязяў паміж супляменьнікамі. Кожны год праводзіцца выніковая канфэрэнцыя, дзе абмяркоўваюцца розныя пытаньні па ўдасканаленьні працы АБК, прыём новых сяброў. Кожны месяц адбываецца паседжаньне Рады АБК. У 1994 годзе адбылася прэзэнтацыя асацыяцыі перад грамадзкасьцю горада Менска.

У сувязі з адсутнасьцю амбасады Рэспублікі Карэя ў Беларусі, асацыяцыя падтрымлівае цесныя сувязі з амбасадай у Маскве, а таксама з МККА, якая дапамагае карэйскай літаратурай, відэапрадукцыяй і іншымі патрэбнымі матар'яламі. АБК ладзіць прагляды відэакасэтаў, якія знаёмяць з традыцыямі, культурай, бытам карэйскага народу. Пры асацыяцыі створана мастацкая самадзейнасьць: працуе танцавальны гурток, хор. Усе яны бралі ўдзел у І-ым Рэспубліканскім фэстывалі нацыянальных культур. Акрамя культурнай дзейнасьці АБК займаецца сацыяльнай падтрымкай: вывучаюцца статыстычныя і дэмаграфічныя паказьнікі карэйскай дыяспары ў Беларусі, аналіз яе сацыяльна-эканамічнага стану, культурна-адукацыйнага ўзроўню, аказваецца дапамога тым, хто мае патрэбу. Прадстаўнікі таварыства бралі актыўны ўдзел у паўднёва-сахалінскай, маскоўскай, алмаацінскай канфэрэнцыі Міжнароднай канфэдэрацыі карэйскіх асацыяцыяў, удзельнічалі ў падрыхтоўцы кнігі аб карэйцах у былым СССР.



Танцавальны ансамбаль АБК на фэстывалі нацыянальных культураў

Істотным зьяўляецца ўдзел прадстаўнікоў таварыства ў фэстывалі для ўсіх карэйцаў сьвету, які штогод праводзіцца ў Паўднёвай Карэі. У 1993, 1994 гадох у Беларусь прыяжджаў генэральны консул Рэспублікі Карэя. Летам 1994 году адбылася сустрэча кіраўніцтва Асацыяцыі з дэлегацыяй КНДР.

1995 нашу краіну наведаў амбасадар Рэспублікі Карэя ў Маскве, які па сумяшчальніцтву выконвае свае абавязкі ў Беларусі і краінах Балтыі. Вялікае значэньне для азнаямленьня Паўднёвай Карэі з нашай краінай меў візыт прадстаўнікоў карэйскай тэлевізіі.

АБК падтрымлівае сувязі з усімі нацыянальна-культурнымі аб'яднаньнямі Рэспублікі Беларусь, працуе ў шчыльным кантакце з Таварыствам дружбы „Беларусь-Карэя“.

Кантактны тэлефон: 234-20-34

# Навуковая канфэрэнцыя па праблемах нацыянальных меншасьцяў

21-22 траўня ў Віцебску адбылася канфэрэнцыя „Нацыянальныя меншасьці Беларусі: шляхам супрацоўніцтва і згоды“.

У якасьці арганізатараў канфэрэнцыі выступалі: Каардынацыйная рада па справах нацыянальных меншасьцяў пры Кабінэце міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Гэта была першая навукова-практычная канфэрэнцыя па гэтых праблемах. Па сутнасьці яе непасрэдным ініцыятарам была Працоўная група па распрацоўцы Канцэпцыі нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Рэспублікі Беларусь. У канфэрэнцыі прынялі ўдзел кіраўнікі, намесьнікі або прадстаўнікі розных нацыянальна-культурных суполак, госьці з-за мяжы, прадстаўнікі Вярхоўнай Рады і ў асноўным навукоўцы з розных месцаў Беларусі.

Ужо даўна насьпела неабходнасьць перагледзець старыя міталягемы і ўлічваць сапраўдныя этнакультурныя і нацыянальныя тэндэнцыі, каб наблізіцца да жыцьцёвых праблем, дапамагчы розным „меншасьцям“ і „большасьцям“ у Беларусі і, у рэшце рэшт, кожнай асобе і кожнаму грамадзяніну нашай краіны ў іх імкненьні да нармальнага свабоднага жыцьця, у тым ліку і ў нацыянальнай сфэры.

Трэба адзначыць, што ў краіне да нацыянальных пытаньняў пэўную ўвагу выказваюць Кабінэт міністраў і два міністэрствы — культуры і навукі. Так, створаны Каардынацыйная Рада па справах нацыянальных меншасьцяў на чале з намесьнікам прэм’ер-міністра Рэспублікі Беларусь Русакевічам У.В., Рэспубліканскі Цэнтар нацыянальных культур пры Міністэрстве культуры, якія падтрымліваюць сувязі з шэрагам недзяржаўных аб’яднаньняў (рознымі нацыянальна-культурным таварыствамі, творчымі калектывамі).

Трэба адзначыць асабліва актыўную ролю ў падрыхтоўцы канфэрэнцыі кіраўніка нефармальнага аб’яднаньня навукоўцаў, спэцыялістаў і прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў — доктара філязофскіх навук, прафэсара Берасьцейскага ўнівэрсытэту — С.А.Яцкевіча. Значную ролю адыгралі галоўны спэцыяліст сацыяльна-культурнага комплексу Кабінэта міністраў А.Н. Білык і старшы інспэктар Міністэрства асьветы і навукі В.В. Мацюшэнка. Трэба таксама шчыра падзякаваць Віцебскаму гарвыканкаму, які стварыў добрыя ўмовы для пасьпяховага правядзеньня канфэрэнцыі.

Да канфэрэнцыі былі падрыхтаваны і выдадзены дзьве кніжкі тэзысаў дакладаў і Канцэпцыя, якая стала па сутнасьці тэарэтычнай асновай усяго „канфэрэнцыйнага працэсу“: кожны ўдзельнік так ці інакш выказваў сваё стаўленьне да яе. Ёй быў прысьвечаны асноўны даклад С.А. Яцкевіча „Канцэпцыя нацыянальна-культурнага разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі: патрэба часу“, які надрукаваны ў першай кніжцы, што мае назву „Канцэптуальныя пытаньні разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў Беларусі“. Другая кніжка мае назву „Нацыянальныя меншасьці і міжэтнічныя зносіны на Беларусі ў сьвятле гістарычных фактаў“.

Першая кніга, натуральна, прысьвечана тэарэтычным праблемам, што канцэнтруюцца вакол Канцэпцыі. Выступленьні на канфэрэнцыі такама былі прысьвечаны абмеркаваньню канцэптуальных пытаньняў. (С.Яцкевіч, А. Мельнікаў, І. Катляроў, І.Лявяш. А. Білык, Э.Іофэ,У.Розэнфэльд,, Е. Нікітаровіч, М. Ляўко, А. Пазьнякоў і інш). Паказальна, што тут ва ўзаемнай павазе выступалі прадстаўнікі розных палітычных сьветапоглядных плыняў, таму што канцэпцыя задавала ўсім выступаючым адпаведны настрой на згоду і праўду, на духоўныя каштоўнасьці. У працэсе навуковага ўзаемадзеяньня

высьветлілася, што „аўра“ канцэпцыі ўзьдзейнічае на ўсіх вельмі пазытыўна. Наўрад ці мэтазгодна ў гэтым паведамленьні аб канфэрэнцыі падрабязна выкладаць канцэпцыю і даклады. Гэта трэба зрабіць асобна. Трэба толькі сказаць, што абмеркаваньне высьветліла своечасовасьць канфэрэнцыі, нават яе прыярытэтнасьць у адносінах да комплекснай распрацоўкі канцэпцыі нацыянальных меншасьцяў ва ўмовах Усходне-эўрапейскага рэгіёну. Так, Рэспубліка Беларусь у гэтым дае прыклад іншым суседзям. Канфэрэнцыя ў поўнай меры зьдзейсьніла ідэю сваёй назвы цалкам і ў яе прафіляваньні: навукова-практычная. Гэта знайшло адлюстраваньне ў падзеле апублікаваных матар'ялаў канфэрэнцыі на два асноўныя разьдзелы. Што тычыцца сэкцыйнага падзелу канфэрэнцыі, трэба адзначыць, што фактычна скалаліся дзьве сэкцыі, адпаведныя гэтым дзьвюм асноўным тэмам, але ў апублікаваных кнігах у сувязі з тым, што далёка ня ўсім заявіўшым даклады ўдалося прыехаць, сэкцыі працавалі першы дзень асобна адна ад другой. Але гэта не перашкодзіла ўсім прыбыўшым выступіць і падзяліцца сваімі думкамі.

На канфэрэнцыі выступалі госьці з Расіі, Украіны, Польшчы, Летувы і нават з Рэспублікі Саха, увагу выклікалі даклады і паведамленьні, напрыклад, Нікітаровіча, Дароты Масеюк, Корсака, Каванёвай і інш.

Шмат цікавага, новага і карыснага было выказана на канфэрэнцыі па пытаньнях міжэтнічных зносінаў на Беларусі ў сьвятле гістарычных фактаў. Можна з ўпэўненасьцю сказаць, што прагучала пра гэта на канфэрэнцыі (а тэзысна зьмешчана ў кнізе 2), зьяўляецца новым крокам у асьвятленьні лёсу нацыянальных меншасьцяў на Беларусі (асаднiцтва іх на Беларусі, узаемаадносіны паміж сабой і беларусамі, узаемадзеяньне культурных зьяваў і г.д.).

Так, аб экспазыцыі па мусульманству і юдаізму ў беларускім Дзяржаўным музэі гісторыі рэлігіі ў Горадні цікава апавядалі Ніна Ляшчонак і Сяргей Піваварчык. Мустафа Канапацкі зрабіў цікавае паведамленьне аб узаемаадносінах беларускага і татарскага этнасаў. Гэтай жа тэме прысьвяціў сваё выступленьне Віктар Старасьценка (Магілёў). Галіна Гамал (Менск) пазнаёміла слухачоў з караімамі на Беларусі, Натальля Галімавоз — з гісторыяй асадніцтва палавецкіх плямёнаў на Берасьцейшчыне, Іван Калянковіч — зь яцьвягамі, Уладзімер Лобач спрабаваў адказаць на пытаньне аб фармаваньні нэгатыўнага этнастэрэатыпа адносна гэбраяў на Беларусі.

Пытаньні быцьця польскай меншасьці на Беларусі ў розных аспэктах закранулі Мікалай Сьляховіч, Рыгор Лазько і інш. Віталь Лукін асьвятліў некаторыя асаблівасьці жыцьця і побыту віцебскіх латышоў у XIX стагодзьдзі, Аксана Яшчанка — побыту гэбрайскай сям'і ў Гомлі напачатку XX стагодзьдзя; Іна Герасімава — аб навуковым жыцьці гэбраяў Беларусі ў 1920—30-я гады; Аркадзь Лейзераў — аб праблеме генацыду гэбраяў у 1941-44 гг. Цікавыя зьвесткі аб гісторыі цыганоў на Беларусі паведаміла Людміла Піскун, аб гісторыі нацыянальных меншасьцяў на Нараўляншчыне апавядаў Леанід Лісоўскі. Няма магчымасьці ня толькі прааналізаваць гэтыя паведамленьні, але нават пералічыць іх. Добра было б, каб „Форум“ знайшоў месца хаця б для некаторых зь іх на сваіх старонках. І, канешне, надрукаваў праект Канцэпцыі нацыянальных меншасьцяў Беларусі. А, можа, і знайшоў бы месца для яе далейшага абмеркаваньня. Вельмі значнай навукова-практычнай зьявай было выданьне спэцыяльна да канфэрэнцыі атласа „Беларусы“, этна-геаграфічнага атласа „Народы Беларусі“ (галоўны рэдактар — член-карэспандэнт АНБ — Васіль Быкаў).

***Прафэсар Э. Дарашэвіч***

■



**Сінагога ў Клецку. XVIII ст.**